Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!




# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

## Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

## ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

№ 1 (28) Студзень 1928

ГОД ВЫДАНЬНЯ ЧАЦЬВЕРТЫ

ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК—1928.





# Што трэба зрабіць у гэтым месяцы.

Ужо не аднойчы ў нашым часопісе высьвятлялася значэньне і патрэба падліку краязнаўчай працы. Паміж тым ня ўсе краязнаўцы на мясцох гэта ўразумелі. Справаздачы мясцовых краязнаўчых організацый аб дзейнасьці на працягу мінулага году павінны былі паступіць у Цэнтральнае Бюро Краязнаўства не пазьней студзеня 1928 году. Ня гледзячы на просьбу Цэнтральнага Бюро аб гэтым большая палова організацый сваіх справаздач к вызначанаму тэрміну ня прыслала. Значны лік прысланых справаздач складаецца з сухіх адказаў і толькі на пункты схэмы, у той час як Цэнтральнае Бюро прасіла прыслаць магчыма больш падрабязную справаздачу з дадатковымі данымі да схэмы, вызначанымі ў адносіне Бюро да мясцовых організацый.

Без дакладных справаздач мясцовых краязнаўчых організацый Цэнтральнае Бюро ня можа высьветліць досьлед і дасягненьні мясцовай працы, правільна акрэсьліць чарговасьць вырашэньня краязнаўчых заданьняў на працягу новага году, паказаць мясцовую працу ў часопісе і г. д. Таму Бюро просіць паклапаціцца найхутчэйшым падасланьнем сваіх справаздач у Бюро.

Другою задачаю, якую неабходна вырашыць на працягу гэтага месяцу, зьяўляецца падлік краязнаўчых гурткоў у школах. Да гэтага часу ўсё-ж больш-менш здавальняюча падлічаны і вядомы краязнаўчыя таварыствы і агульныя гурткі на мясцох. Тыя-ж гурткі краязнаўства, якія знаходзяцца ў школах, часта вядуць пэўную працу, але аб іх існаваньні вестак няма і яны не аб'яднаны ў краязнаўчым руху наогул. Таму Цэнтральнае Бюро зараз рассылае раённым і акруговым таварыствам краязнаўства пэўны лік анкет для падліку гэтых гурткоў у горадзе—акруговымі, а на раёнах—раённымі таварыствамі краязнаўства. Атрыманыя ад гурткоў анкеты з адказамі застаюцца ў таварыствах, а Цэнтральнаму Бюро апошнія павінны выслаць сьпісы гурткоў з запоўненымі графамі адпаведна пытаньням анкеты. Цэнтральнае Бюро спадзяецца, што мясцовыя таварыствы краязнаўства выканаюць гэта важнае заданьне з патрэбнай уважлівасьцю.

Урэшце трэцім заданьнем бягучай працы зьяўляецца падрыхтоўка да ўсебеларускай выстаўкі краязнаўчых фотографій і зарысовак, якая адбудзецца ад 15 красавіка да 15 траўня 1928 году ў Менску.

*Выстаўка мае мэтаю:* а) выявіць дасягненьні ў справе фотографаваньня і зарысоўваньня розных краін БССР, а таксама запасы краязнаўчых ілюстрацыйных матар'ялаў; б) зьвярнуць увагу на значэньне рысунку і фотографіі для краязнаўчай працы.

Удзел у выстаўцы прымаюць дзяржаўныя інстытуцыі, краязнаўчыя

організацы, фотографічныя гурткі, аб'яднаньні фотографаў, аб'яднаньні мастакоў, краязнаўцы, мастакі, фотографы, аматары, колекцыянэры і інш.

Зарысоўкі (алоўкам, пастэльлю, пяром, экварэльлю) і фотографіі будуць прымацца на тэмы: а) беларускі краявід; б) жывая і няжывая прырода (зьвяры, жывёлы, птушкі, каменьні, расьліны; іх групы, адзінкі, часткі); в) тып беларуса: жанчыны, дзяўчыны, мужчыны, хлапца, дзіцяці; г) беларускі народны касьцюм мужчынскі і жаночы, як будны, так і сьвяточны; д) мужчынскія і жаночыя галаўныя ўборы: чапцы, наміткі, шапкі і да т. п.; е) беларус за працай і яго вырабы; ё) тыповыя беларускія будынкі—прыватныя, грамадзкія, культавыя; э) нутраное ўбраньне і абсталяваньне хат; ж) дэталі будынкаў; з) музычныя інструманты і музыканты; і) беларуская прамысловасьць; к) беларуская вёска і горад; л) мінулае і рэволюцыйны рух на Беларусі; м) асьвета і навука; н) жыцьцё краязнаўчых організацый і о) нацыянальныя меншасьці—адпаведна вышэйшым разьдзелам.

Экспонаты могуць абхопліваць Беларусь у этнографічных межах.

*За лепшыя экспонаты будуць выдавацца дыплёмы I і II разраду.* Зарысоўкі і фотографіі прымаюцца да 15 красавіка 1928 г. Перасылка іх у ЦБК і назад—бясплатная. Кожны экспонат павінен мець пры сабе весткі: назву, дату, мясцовасьць, аўтара і ўласьніка рэчы, а на портрэтах да таго—прозьвішча асобы. Фотографіі пажадана мець у 2-х экзэмплярах.

Мясцовыя краязнаўчыя організацыі павінны паклапаціцца, каб іх мясцовасьць і яе жыцьцё былі магчыма больш шырэй паказаны на выстаўцы. Для гэтага трэба, апрача падрыхтоўкі сваіх уласных экспонатаў на выстаўку, апавясьціць мясцовыя фотографічныя і мастацкія гурткі, фотографаў, аматараў, колекцыянэраў, мастакоў і інш. аб выстаўцы і прыцягнуць іх да ўдзелу ў ёй пад сьцягам мясцовай краязнаўчай організацыі, зразумела, з поўным захаваньнем аўтарскіх праў і ўсяго, што з іх выцякае.

Галоўнаю працаю ў выкананьні пляну дзейнасьці саміх мясцовых краязнаўчых організацый зьяўляецца правядзеньне краязнаўчых конфэрэнцый, дзе яны яшчэ не адбыліся. Конфэрэнцыі гэтыя, апрача падліку зробленай працы і вызначэньня чарговых задач, зьяўляюцца вельмі карыснымі ў справе абмену краязнаўчым досьледам і праз гэта—у справе павышэньня кваліфікацыі мясцовых краязнаўцаў. З свайго боку Цэнтральнае Бюро пасылае сваіх прадстаўнікоў на гэтыя конфэрэнцыі для ўдзелу і дапамогі ў працы іх, прычым яны перад гэтым праводзяць абсьледваньне і інструктаваньне некалькіх нізавых краязнаўчых організацый. Пры такім жывым узаемаабмене досьледам мясцовае краязнаўства зможа разгарнуць сваю дзейнасьць яшчэ шырэй.

*Ц. Б. К.*

---

**К. Менскі.**

# Польская буржуазная навука на Беларусі.

Сучасны стан архіўных і бібліотэчных вестак перашкаджае дакладна выявіць польскі навуковы рух на Беларусі. Гэта тым больш

цяжка, што ён вызначаўся тутака ў большай меры дзейнасьцю тых ці іншых асоб, чым організацый, якіх, да рэчы, руская ўлада не дазваляла засноўваць. Вялікую ўвагу дасьледваньню і вывучэньню Беларусі аддавалі таксама і розныя неаформленыя афіцыйна згуртаваньні навакол польскіх выданьняў на Беларусі, а таксама шэраг асьветных і спортыўных польскіх аб'яднаньняў на нашай зямлі. Уся гэтая польская беларусазнаўчая і краязнаўчая праца мела добрае матар'яльнае падтрыманьне мясцовай польскай ці апалячанай шляхты і магнацтва, якое было ня ў меру колькасна і матар'яльна больш магутным, чым расійскае дваранства. Само сабою адсюль зразумела, што польскае краязнаўства на Беларусі мела, і ў Заходняй Беларусі зараз мае выразны практычны характар, а ўласна, імкнецца парабаціць пад польскага пана беларускія землі. Дзякуючы ўсяму гэтаму польскае беларусазнаўства і краязнаўства дасягнула значна большых вынікаў, чым рускае і было немалым штурхачом да заснаваньня рускіх організацый, якія імкнуліся супроцьпаставіць яму сваю дзейнасьць і працу. Бясспрэчна, таксама нязьмерна вялікае значэньне ў справе разьвіцьця польскае навукі на Беларусі мелі Віленскі Унівэрсытэт і Полацкая Акадэмія.

Пачалося польскае беларусазнаўства і краязнаўства на Беларусі амаль за сто гадоў раней, чым рускае. Выразны заклік да ўтварэньня грамадзкага характару яго ёсьць ужо ў палове XVIII сталецьця ў польскіх Віленскіх выданьнях. Але толькі ў палове XIX ст. змагла заснавацца першая беларусазнаўчая польская організацыя на Беларусі— Архэолёгічная Камісія пры Віленскім Музэі старажытнасьцяй. 1 студзеня 1856 году яна распачала сваю працу па дасьледваньні гістарычнага мінулага Беларусі. Хутка пасьля гэтага ў складзе яе пачала працу прыродазнаўчая сэкцыя. Гатоўка сіл і сродкаў рабілі магчымым існаваньне ў Вільні комплекснай беларусазнаўчай організацыі. Таму ўжо ў 1858 г. было выразнае жаданьне перайменаваць камісію ў Віленскае Навуковае Таварыства, але здарэньні надышоўшага 1863 г. гэтаму перашкодзілі.

Ня гледзячы на тое, што камісія была на дзяржаўным бюджэце і старшынёю яе зьяўлялася асоба па прызначэньні, яна ўсё-ж мела грамадзкі характар па складу членаў. Сярод іх налічваўся вялікі лік польскіх або апалячаных магнатаў з Беларусі, якія таксама дапамагалі камісіі і матар'яльна.

Камісія зрабіла пэўную навуковую працу і мела свае выданьні. У 1864 г. музэй і камісія былі рэорганізаваны з польскіх у рускія і гэтым на доўгі час прыпынілася існаваньне польскіх навуковых інстытуцый на Беларусі, але не сама навуковая дзейнасьць.

У 1901 годзе ў Вільні заснаваўся архэолёгічны гурток, але ён ня змог разьвінуць шырокую дзейнасьць. У 1906 г. у Варшаве заснавалася Польскае Таварыства Краязнаўства, якое ў сваім органе „Земя“ аддавала значную ўвагу Беларусі. У склад яго членаў уваходзілі таксама і польскія або апалячаныя людзі з Беларусі. Але аддзяленьняў гэтага таварыства ў нас у той час яшчэ ня было.

У тым-жа 1906 г. пачалася праца па організаваньні Таварыства прыяцеляў навук у Вільні, а ў лютым 1907 г. яно ўжо было адчынена ў ліку 38 заснаваўцаў. Праз два гады ў таварыстве ўжо было каля 300 членаў, вялікі лік якіх пражываў у розных мясцох Беларусі, а таксама па-за межамі яе. У 1922 годзе ў складзе таварыства аформіліся

наступныя аддзелы: а) філёлёгіі, літаратуры і мастацтва; б) навук матэматычна-прыродазнаўчых і лекарскіх і в) гісторыі, філёзофіі і навук праўна-грамадзкіх. Мэтаю таварыства зьяўляецца дасьледваньне краю ў прыродазнаўчым, этнографічным, гістарычным, экономічным і статыстычным стасунках. У 1925 г. у таварыстве было 320 членаў. Такім чынам, ня гледзячы на спрыяючыя ўмовы, лік членаў амаль не павялічыўся. Як і раней, члены падзяляюцца на звычайных, дажывотных, протэктараў, корэспондэнтаў і ганаровых. Бюджэт таварыства ў тымжа 1925 г. складаўся з 25 тыс. злотых. Да сусьветнай вайны таварыства выдавала свой „Рочнік", якога вышла 7 томаў. Цяперака таварыствам выдаецца „Атэнэум Віленьске", прысьвечаны досьледам старыны ў межах былога вялікага княства Беларуска-Літоўскага, а аддзелы выдаюць „Розправы". У сваім ведаме таварыства мае ўласныя: бібліотэку, архіў і музэйныя колекцыі—прыродазнаўчыя, этнографічныя. археолёгічныя і гістарычныя.

Масавае заснаваньне краязнаўчых організацый у Заходняй Беларусі прыпадае на 1922—1924 г. г. Апрача падтрыманьня мясцовых організацый, польскі ўрад у 1922 г. заснаваў у Варшаве Інстытут для досьледаў зямель усходніх рэспублікі польскай. Ён меў мэтаю навуковае дасьледваньне і азнаямленьне з гісторыяй, мастацтвам і культурай наогул зямель усходніх і зямель калі-небудзь да іх належаўшых. Такім чынам ня толькі Таварыства прыяцеляў навук у Вільні, але і гэты Інстытут працавалі не адно над замацаваньнем свайго ўладаньня Заходняй Беларусьсю, але і над абаснаваньнем політычных праў буржуазнай Польшчы на ўсёй тэрыторыі былой Польшчы 1772 г., г. зн. з Кіевам і Смаленскам. Інстытут мае невялічкія фотографічныя і архіўныя зборы і меў выдаваць кнігі адпаведна сваёй мэце, але, дзякуючы занятасьці членаў яго па ахове сучаснай Польшчы, ён прыпыніў сваю працу па вывучэньні ня толькі ўсходніх зямель 1772 г., але і сучасных усходніх крэсаў. Відаць тамака аднэй навуковай працы далёка не хапае, а трэба сіла, каб гвалтоўна трымаць у абцугох беларускія землі...

Дзякуючы гэтай вузка-клясавай, імпэрыялістычнай уласьцівасьці польскага краязнаўчага руху ў Заходняй Беларусі і практычнай мэце гвалтоўнай полёнізацыі насяленьня, значны лік польскіх краязнаўчых організацый хутка пасьля адчыненьня зачыніўся, альбо вельмі доўга знаходзіцца ў стадыі організацыі, не ўспамінаючы ўжо пра поўную адсутнасьць падтрыманьня іх беларускімі працоўнымі гушчамі.

Так, Таварыства прыяцеляў навук у Горадні было заснавана ў 1920 г. і прыпыніла сваю дзейнасьць у 1923 г. Яно мела мэтаю пашырэньне і разьвіцьцё існуючага ў Горадні дзяржаўнага музэю і дасьледваньня краю ў прыродзнаўчым, этнографічным, гістарычным, экономічным і статыстычным стасунку. Члены падзяляліся на звычайных, корэспондэнтаў, ганаровых і протэктараў і ў 1923 г. іх налічвалася каля 50 чалавек.

Другое, Палескае Таварыства краязнаўства ў Пінску, было заснавана ў 1924 г. і ўсё яшчэ знаходзіцца ў стадыі організацыі. Яно мае мэтаю дасьледваньне Палесься і популярызацыю гэтай ідэі. Праца пакуль што выявілася ў зьбіраньні палескага музэю.

Трэцяе, Таварыства бібліофілаў польскіх у Вільні, заснавалася ў канцы 1925 г. і таксама ўсё яшчэ знаходзіцца ў стадыі організацыі.

З рэшты організацый заслугоўваюць упаміну дзьве, ды аддзелы Польскага таварыства краязнаўства. Горадзенскае Таварыства аматараў прыроды было заснавана ў 1925 г. Яно мае мэтаю пашырэньне сярод грамадзянства замілаваньня да жывой і няжывой прыроды і прыродазнаўчых ведаў. Складаецца з 2-х сэкцый: зоолёгічнай і ботанічнай. Першая дапамагла організаваньню прыродазнаўчага гарадзкога музэю, а другая—ботанічнага саду з аддзеламі: сыстэматыкі, біолёгіі, лекавых расьлін, дрэў і кустоў. Членаў у 1926 г. налічвалася каля 15.

Таварыства аматараў Вільні заснавалася ў 1919 г. з мэтаю дасьледваньня і аховы Віленскіх помнікаў, дапамогі ўзьняцьцю гораду на ўзровень заходня-эўропейскіх гарадоў і г. д.

З аддзелаў Польскага таварыства краязнаўства самым моцным зьяўляецца Віленскі, але і той, ня гледзячы на існаваньне ў Вільні польскага унівэрсытэту, налічвае толькі каля 57 членаў. Ім выдадзены падарожнік па Вільні, сэрыя паштовак і зьбіраюцца матар'ялы для монографіі аб Віленскім краі. Беластоцкі аддзел, заснаваны ў 1922 г., зачыніўся быў, а пасьля ў 1926 г. аднавіўся, але разьвіваецца слаба, як сьведчыць яго справаздача. Наваградзкі аддзел пабудаваў экскурсійны дом на возеры Сьвітэзь. У № 5 за 1922 г., № 6—8 і № 10—12 за 1925 г. часопісу „Земя“ зьмешчаны падрабязныя агляды Віленшчыны, Наваградчыны і Загарыні. Зразумела, што ў іх аўтары падкрэсьліваюць, што „Зямля Віленская застаецца неадлучнаю часткаю Польшчы на вечныя часы“. Пры аддзелах Польскага таварыства краязнаўства існуюць гурткі краязнаўства польскай моладзі. Часамі такія організацыі, як сэкцыя краязнаўства Віленскага аддзелу саюзу польскіх інжынэраў, выяўляюць краязнаўчую дзейнасьць выданьнем брошуры аб касьцеле Пятра і Паўла ў Вільні, ці інш.

Усіх польскіх навуковых організацый на тэрыторыі Заходняй Беларусі існуе каля 50, з іх палова знаходзіцца ў Вільні. Гатоўка унівэрсытэту ў апошняй зьяўляецца спрыяючаю ўмоваю для існаваньня організацый, але, як мы бачылі з прыкладу Віленскага аддзелу Польскага таварыства краязнаўства, яны ня вельмі буяюць. Своеасаблівае месца займае Беларускі Інстытут гаспадаркі і культуры, заснаваны ў Вільні ў 1926 г. Ён усё яшчэ знаходзіцца ў стадыі організацыі і мае мэтаю разьвіцьцё: а) краёвага хлебаробства ва ўсіх яго галінах разам з гародніцтвам, пчалярствам і сельска-гаспадарчай прамысловасьцю; б) народных: промыслаў, рамёстваў, тэхнікі і мастацтва; в) духоўнай культуры, навукі і асьветы. У стадыі організацыі знаходзяцца сэкцыі Інстытуту: гаспадарчая, навукова-выдавецкая, школьная, праўная і мастацтва. Праўленьне існуе ў Вільні, а ў Варшаве ёсьць падсакратарыят і аддзел. Па вестках самога Інстытуту ёсьць яшчэ Наваградзкі аддзел і 50 гурткоў у розных мясцовасьцях. У Вільні ў Інстытуце ёсьць бібліотэчка на 300 томаў і 30 бібліотэчак пры провінцыяльных гуртках. У 1927 г. членаў Інстытуту, па яго вестках, налічвалася каля 1.000. Гэта польская ўстанова, дзе церпяць беларускую мову, як сродак да апалячваньня працоўных мас і падтрыманьня соцыяльнага ўціску іх, давяла ўжо першым выпускам свайго органу сваю навуковую нядольнасьць і політычную тэндэнцыйнасьць. Апрача таго, да вышэйпададзеных вестак Інстытуту аб ім самім трэба адносіцца вельмі крытычна.

Апрача організацый трэба ўспомніць пра ўстановы. На тэрыторыі Заходняй Беларусі знаходзіцца каля 8 бібліотэк, маючых навуковае

значэньне; 16 бібліотэк зьнікла. Архіваў—9; апрача гэтага было 12 архіваў раней, але зараз яны ня існуюць. Музэяў і музэйных збораў—14, ды 4 зачынілася даўно і нядаўна, як і ў папярэдніх выпадках.

З беларускіх організацый у Заходняй Беларусі лічыцца толькі адно Беларускае навуковае таварыства з музэем пры ім, ды кіраўнік і таго—вядомы вучоны Луцкевіч—пасаджаны польскай уладай у турму. Заходняя Беларусь, амаль роўная БССР, а паміж тым у нас 240 краязнаўчых організацый і каля 30 музэяў супроць аднэй організацыі і аднаго музэю ў Заходняй Беларусі. У гэтым, як нідзе, відаць прырода буржуазнай улады, якая можа толькі душыць працоўных і нацыянальныя меншасьці.

———

З. І. Даўгяла.

# Стары Менск.

*(Нарысы з гісторыі замку і экономжыцьця места).*

Менск дагэтуль ня мае навукова апрацаванае гісторыі. Нават няма выданых у друку архіўных крыніц, якія-б усебакова высьвятлялі яго мінуўшчыну. З 1926 году Гістарычна-Археолёгічная камісія Інстытуту Беларускае Культуры распачала адшуканьне гэтых матар'ялаў. Цяпер ёсьць надзея, што праз некаторы час будуць надрукаваны знойдзеныя ў розных архівасховах Менскія акты і докумэнты і зьявіцца мажлівасьць даць дакладную гісторыю сталіцы БССР.

Гэтыя нарысы зроблены, галоўным чынам, на падставе архіўных крыніц і зьяўляюцца паводле свайго зьместу ў большай частцы новымі *).

---

*) Крыніцы:

**I. Архіўныя фонды.**

1. Архіў Мэтрыкі Літоўскай у Маскве.
2. Архіў „Разрада" (справы 1654—1661 г.) у Маскоўскім гістарычным архіве.
3. Менскі Цэнтральны Архіў—цэхавыя докумэнты.

**II. Актавыя выданьні.**

4. Документы Московского Архива Министерства Юстиции т. I, М. 1897 г.
5. Собрание древних грамот г. Минска, Минск ,1848 г.
6. Рус. Ист. Библ. тт. 20 і 27.
7. Акты Виленской Археографической Комиссии т. т. VII, XIII.
8. Полное Собрание Русских Летописей т. т. V, VIII і XVII.

**III. Навуковыя працы.**

9. Любавский, М. К.—Областное деление и местное самоуправление литовско-русского государства ко времени издания первого литовского статута М. 1898 г.
10. Любавский М. К.—Литовско-русский сейм. М. 1900.
11. Любавский М. К.—Очерк истории Литовско-русского государства до Люблинской унии. Изд. 2. М. 1915.
12. Syrokomla, W.—Mińsk—Teka Wileńska. Część II-III. Wilna, 1857 г.
13. Дружчыц, В. Д. Места Менск у канцы XV і пачатку XVI ст. (Працы Б. Д. У. 1926 г. № 12, стр. 1—22).
14. Семенов В. П.—Россия т. IX. Верхнее Поднепровье и Белоруссия. Прб. 1905.
15. Батюшков П. Н. Белоруссия и Литва. Прб. 1890.

## І. Замак Менскі.

Менскі замак у сучасны момант, можна з пэўнасьцю пацьвердзіць, „зруйнаваны з зямлёй“. Ад былых яго земляных узмацненьняў (валоў і равоў) захавалася такая невялічкая колькасьць адзнак, што надзвычайна цяжка сьцісла акрэсьліць нават яго межы. Падаць дакладны малюнак Менскага замку нельга, пакуль ня ўдалася адшукаць адпаведных матар'ялаў.

Між тым, Менскі замак—самая старажытная частка сталіцы БССР і найбольш выдатны помнік яго мінулага жыцьця. Гэты помнік злучае сучасны Менск з Менскам XII сталецьця, калі ён ужо быў сталіцай пэўнай краіны. Тады Менскі замак быў такім моцным, што здолеў вытрымаць аблогу Кіеўлян, якія сумесна з Чарнігаўцамі, пад кіраўніцтвам князей Яраполка, Алега і Давыда акружылі яго (1104 г.).

Нават Уладзімер Манамах лічыў гэты замак настолькі моцным, што, жадаючы яго захапіць, „прыгатаваўся да доўгае аблогі“ (1115—1116 г.).

З другое паловы XII ст. мы маем яшчэ больш дакладныя весткі адносна стратэгічнае вартасьці Менску ў той стары час. У 60-х гадох XII стал. Палачане двойчы рабілі аблогу Менскага замку, і двойчы без усялякага выніку. І далей у працягу ўсяго сярэднявечча Менск ня згубіў сваёй вайсковай моцы, таксама як і асобнага палітычнага значэньня ў краіне, да 1431 году (паводле думкі проф. М. К. Любаўскага—1433 г.). Менскі замак тады, у пачатку XV ст., быў настолькі моцным, што прыхільнікі Сьвідрыгайлы Альгердавіча, якія імкнуліся, каб адбудаваць Беларусь у тым складзе, у якім яна была ў часы Вітаўта-Аляксандра Кейстутавіча (1392—1430),—лічылі неабходным заваяваць гэты замак. „І прышлі к Менску—чытаем у Беларускім Летапісу—і ўзялі Менск і выжглі, і людзей многа ў палон павялі,—мужэй і жон“.

Гэта апошняя гістарычная вестка аб Менскім замку, як стратэгічным асяродку ў сярэднявечча.

Але яшчэ і ў пачатку новага пэрыоду (у XVI ст.) у Менску быў замак, які меў такі-ж самы знадворны выгляд, як і іншыя беларускія замкі, напрыклад, Полацак, Віцебск, Магілеў. Абсыпаны добрым валам, ён быў абнесены „парканам“, або „астрогам“, меў брамы і башні. У 1505 г. яго ня здолелі ўзяць татары.

У лісту вял. князя Жыгімонта I, ад 28 сакавіка 1541 г., мы знаходзім паказаньне, што Лявон Тышкевіч дзяржаў ад вял. князя Любошанскую*) воласьць і што ў Менскім замку людзьмі з вёсак: Сялец, Бонда і Забашова, гэты Тышкевіч „колко городен і сiран вробіў“.

Гэты Лявон Тышкевіч быў адзін з 5 сыноў Тышкі Каленікавіча і ўжо ня жыў у 1514 годзе.

Такім чынам, зусім ясна, што ў пачатку XVI ст., бязумоўна, існавала пэўная традыцыя сталага падтрыманьня Менскага замку ў належнай моцы і што гэты замак, як і наогул усе іншыя замкі Беларусі, будаваўся працай сялян.

Але ў самай сярэдзіне XVI ст. Менскі замак згарэў (у 1551 г.). У пра-

*) Любашаны м-ка б. Магілеўскае губ., Аршанскага павету, над р. Клёвай. У XVI ст. ўваходзіла ў склад становых в. княскіх маёнткаў. Воласьць Любашанская ахоплівала м. Любашаны і Бярэзіну Ігуменск. пав.

цягу XVI сталецьця Менскі замак павінен быў некалькі разоў адбудоўвацца. Гэтага вымагала вельмі напружная барацьба, якая тады ішла з усходнім суседам—Масквой.

Апошнім акордам старога сьпеву аб Менскім замку зьяўляюцца весткі аб ім, якія захаваліся ў водпісах Маскоўскіх капітанаў і ваявод з часоў окупацыі Менску Масквой (1655—1662 г.).

З гэтых водпісаў можна добра ўразумець, што апрача замку, ужо самае места Менскае мела „осып“ (вал). Вал гэты ахапляў вялікую плошчу, але быў нізкі і ня меў абгарожы, або „астрогу“.

Маскоўскія капітаны пасьля окупацыі Менску, ужо ў восень 1655 г. мелі загад, каб зрабіць „крэпасьць“ у Менску, які і выканалі: паставілі „баню“ на старай „осыпи“ і, затым, па „осыпи“ (валу) паставілі невялікія „туры (пляцёныя кошы) і іх насыпалі „кирпичьем“ і зямлёй. Затым зрабілі паркан з старога дрэва (відаць, ад будынкаў) у $2^{1}/_{2}$ саж. выш. і пасярэдзіне „астрогу“ паставілі башню 3 саж. выш. Гэтым тынам ахапілі *309 саж.*, прычым засталося без абгароджы *120 саж.* плошчы былога замку.

20 лютага 1656 г. прыехаў у Менск вызначаны сюды ваявода—Фёдар Юравіч Арсеньнеў. Пасьля агляду зробленых узмацаваньняў, Арсеньнеў знайшоў: 1) што пабудованыя ў 1656 г. каля замку „туры“ ў нездавальняючым стане і, што „тын з ветчаного лесу добре худ и весной разваліцца розно, потому что ставлен зимою: мелко тын вкопан“. 2) Астрогу каля места наагул (па думцы Арсеньнева) зрабіць было нельга, дзеля таго што „осыпь“ была нізка і вяліка. 3) Па думцы ваяводы Арсеньнева больш прыгодным для пабудовы „крэпасьці“ зьяўлялася места „от Глебовичева двора к Петровскому монастырю и меж иных палат. Многие палаты будут в городовой стене и пригодятся в башни. А Глебовичев двор и многие палаты будут в городе“.

Недахоп у людзях, а, галоўнае, у сродках на пабудову належнае „крэпасьці“, прымусілі Арсеньнева зьвярнуцца ў Маскву з запытаньнем, як быць? Разам-жа ён паслаў у Маскву ад імя менскіх мяшчан просьбу, каб быў пастаўлены „город или астрог“ і каб былі прысланы ў належнай колькасьці войскі „чтоб нам (мешчанам) в домишках своих жить безстрашно“.

У гэтай просьбе вызначана, што ўсяго ў той час у Менску заставалася 150 чалавек мяшчан і што войтам быў Івашка Жыдовіч. Бязумоўна, гэтая жменя жыхароў не магла аднавіць зруйнаванага замку.

У чэрвені месяцы 1656 г. становішча Менскай „крэпасьці“ азначана ў дакладзе ваяводы Арсеньнева досыць выразна: пастаўленыя зімой „туры все розвалились“... „Острогу-ж ни худова, ни доброго в Менску (наўкола места) не бывало и нет“ чаму і „править было нечего“.

У Менску было ў гэты час толькі 250 чалавек маскоўскай пяхоты і чатыры гарматы, „а пороху и свинцу, и фитилю мало“.

28 ліпня 1656 г. царскім указам прадпісана Арсеньневу, каб „в Менску острог небольшой, в котором месте пригоже“ пабудаваў „служылымі людзьмі и менскімі ўезднымі людзьмі, которых села и деревни в поместья никому не розданы Радзивиловых маетностей“.

У гэты час ваявода Арсеньнеў зьмяшчаўся з маскоўскім гарнізонам у Менску „*на псадае*, в Духовом монастыре“. Паводле думкі менскіх

мяшчан і вайсковых маскоўскіх начальнікаў, гэта места было „крепка“, і там маглі зьмясьціцца маскоўскія жаўнеры. Апошніх тут было ў лютым 1657 г. трыста і ўсё больш „татары і мордва“.

У красавіку 1657 году ў Менскай, „крэпасьці“ было ўсяго: „няпоўная бочка пороху, свинцу—адна „свіньня“ і фітілю пуда 2-3, гарматы былі тыя самыя чатыры“.

Ваявода Арсеньнеў памёр у Менску ад маравой пошасьці ў лістападзе 1656. На яго месца быў прызначаны ў Менск Якаўлеў, Васіль Іванавіч.

Да прыезду (26. XI. 1656) Якаўлева „город Менск пастроілі“ капітаны „у Духове монастыре“, у старой каменнай сьцяне. „А старого монастыря каменной ограды 100 саж., а заделка меж каменной ограды деревянным забором 53 саж.“. У 25 саж. ад „гораду“ стаяў каменны касьцёл, вялікі і высокі. У 19 саж. „прежняя Літовская судебная изба, каменная, великая и под нею тюрьма“.

У працягу 1657 г. зьмяніліся маскоўскія ваяводы: Васіль Якаўлеў, Іван Колабаў і ў красавіку 1658 г. туды быў вызначаны ваяводай Багдан Аладзін. У гэты час ён не застаў у Менску ніводнага „пушкара“, так што і з тых 4 гармат, якія меліся, страляць было некаму.

Прыведзеныя весткі досыць выразна сьведчаць аб тым, што ўжо ў XVII ст. прыродныя ўмовы Менскага замку выкрэсьлівалі яго з шэрагу „крэпасьцяй“. Маскоўская артылерыя ў гэты час окупацыі добра ўзмацніла Полацак і Барысаў, а Менск, відаць, быў прызначаны на іншую ролю. Але на гэтым павінна зкончыцца і гісторыя Менскага замку, як асобнай часткі места.

Дадамо некалькі слоў адносна пляну Менскага замку ў тым выглядзе, які ён меў у XVIII сталецьці (1783). Знаходзіцца ён у Менскім Дзяржаўным Музэі. Каштоўнасьць пляну ў тым, што ён дае некаторыя пэўныя падставы для вывучэньня заблытанае топографіі слыннага калісь асяродку нашага Менску.

У заключэньне дазволім сабе прывесьці адну невялічкую вытрымку з офіцыйнае заявы паслоў ад Менскага павету на Сойме 1566 году, якая кажа: „*Менск—замак старадаўні, а не спадковы*“. У гэтай заяве надзвычайна яскрава адбілася тое замілаваньне, якім карыстаўся Менск у сваім павеце ў XVI сталецьці, тая шчырая пашана, якую мелі да яго шырокія колы грамадзянства. І ў гэтых сваіх уражаньнях тагочасная грамадзкая думка мела падставай выключна гісторыю, якая захавала ўпэўненасьць у тым, што фактычна Менск заўсяды лічыўся адным з значнейшых мест краіны.

## II. Менск у сярэднявечча.

(XIII—XV ст.).

Да XII сталецьця ўключна, пакуль застаецца нераспрацаванай археолёгія Менску і Меншчыны, як і ўсёй Беларусі, немажліва маляваць дакладна, бяз гіпотэз, гісторыю Менску. І мы, абмінуўшы гэты пэрыод, спынімся на другой палове сярэднявечча. Гэта была эпоха, у якую пачалося жыцьцё Беларусі і Менску пад уплывам князёў літоўскіх.

Менск папаў пад уплыў Літвы з канца XII ст.: у пачатку 90-х

гадоў XII ст. ён меў васальную залежнасьць ад літоўскага князя Мінгайлы. У XIII сталецьці літовец Рынгальд быў Менскім князем і ў 1235 г. каля Магільны на р. Нёмане (б. Ігуменскі павет) выйграў бойку з аб‘яднанымі войскамі беларускіх дружын, да якіх далучаліся дружыны кіеўскія і ўладзімерскія.

Але яшчэ больш замацаваліся ў Менску і яго вобласьці літоўцы пасьля тых перамог над татарамі, якіх на тэрыторыі Менскай зямлі дабіліся літоўскія князі: Скірмунт (у 1241 г.) і Мендаўг (у 1249 г.) каля м. Крутагор‘я, якое пасьля апошняе бойкі атрымала назву Койданава, бо тады татары мелі на чале хана Койдана. Праз 10 год (у 1259 г.) татары ў трэці раз рынулі ў Меншчыну. Але той-жа Мендаўг разьбіў татар. Сын і ўнук Мендаўга ўладалі Менскам пасьля сьмерці бацькі († 1263 г).

У пачатку XIV стал. Гедымін, вялікі князь Літоўскі, чамусьці імкнуўся падмацаваць свае ўплывы на Меншчыне, хаця ў Менску быў князь залежны ад Вільні. У 1326 г. Менскі князь Васіль прымаў удзел у пасольстве, якое было накіравана для ўмовы аб згодзе ад Літоўска-Беларускае дзяржавы ў Ноўгарад-вялікі.

У апошнія гады княжэньня Гедыміна ў Вял. Кн. Літоўскім, або зараз пасьля яго сьмерці († 1345 г.), Менск і Менскае княства ўвайшло ў склад Літоўска-Беларускае фэдэрацыі. Гэта была першая валасьць тэй „Русі“ (г. зн. Беларусі), пад якой вызначаюцца воласьці па сярэднім Дняпры і яго прытоках: Сажу, Бярозе і ніжняй Прыпяці. Гэта-ж дае нам пэўную падставу лічыць у той ужо час Менск такім-жа „Беларускім“, якімі лічацца Магілеў, Орша, Друцк, Барысаў і інш.

З XIV ст. у Менску сустракаем ужо „наместніка“, які быў прызначаны вялікім князем Альгердам.

Ягайла аддаў Менск свайму брату вялікаму князю Літоўскаму Скіргайлу, дзеля чаго на нейкі час Менск цягнуў да Трок (1387).

Але з 1392 г., калі вялікім князем літоўскім стаў Вітаўт, ён далучыў Менск па адміністрацыі і суду, да Вільні. Такім чынам Менск папаў у лік Віленскіх двароў. Дзеля гэтага Віленскі ваявода даваў „увязаньне“ ў мыта Менскае і судзіў „падданых Віленскага павету Менскіх“ з князем Любецкім аб зямлі. Мірнае падпарадкаваньне Менску і Менскае Беларусі ў часы Вітаўта падтрымоўвалася, здаецца, пасяленьнем каля Менскага замку татар. Вядома, што татары з часоў Гедыміна адыгрывалі выключна выдатную ролю ў падвышэньні Літоўскае дзяржаўнасьці. З часоў Вітаўта на тэрыторыі Беларусі зьяўляецца іх у Літве некалькі дзесяткаў тысяч і засноўваюцца сталыя татарскія асады ў Троках, Вільні, Лідзе, Наваградку. Мажліва, што татары атрымалі сабе „канец“ і ў Менску. Не здарэмна ў пачатку XV ст. мы сустракаемся з Менскім князем татарынам Урустаем, які ў 1408 годзе эміграваў у Маскву.

У XV сталецьці пасада „наместніка“ вял. князя ў Менску сьведчыць ужо аб пэўнай залежнасьці Менску ад Вільні і аб зьніжэньні яго да ступені старосьцінскага замку.

У час 1468—1473 гг. у якасьці „наместніка“ Менскага знаходзім князя Івана Юравіча Заслаўскага. За ім намесьнікам Менскім у часы Казімера (1442—1490) быў князь Іван Васільлевіч Красны, з Друцкіх князёў, за ім Мікалай Іванавіч Ілініч. З 1499 г. на гэтай пасадзе сустрака-

ем Багдана, сына папярэдняга князя Івана Заслаўскага, які быў намесьнікам амаль што да 1529 г.

Для характарыстыкі экономічнага жыцьця Менску ў XV ст. маем такія цікавыя факты.

1) Ад 4-га сакавіка 1488 г. захаваўся ў актах Літ. Мэтр. „бязмытны ліст" в. кн. Казімера на імя Менскага мешчаніна Лукаша Цярэшкавіча. Вял. князь называе яго „наш чалавек", які гандлюе „нашым дубасом (дубовымі клёпкамі) Бабруйскім, Троцкае палавіны, нашымі грашыма, а ад таго нам прыбытак дае".

Паколькі перад намі лесапрамысьнік з мянчан, які гатаваў тавар на гандаль—з Украінай—то гэта бязумоўна сьведчыць аб сьвядомасьці менскіх гандляроў, і з другога боку аб прамысловай лясной гаспадаркі на сродкі вялікага князя.

2) Менск да XVI сталецьця быў местам драўляным. Аніводнага муру не захавалася да нас ад гэтых часоў. Няма ў актах і ўспамінаў аб такіх будынках. А між тым па плошчы гэты горад быў вельмі значным, і параўнальна буйным, з выключна беларускім насельніцтвам. У гэты час у Менску было 13 цэркваў: дзьве ў замку—„нараджэньня багародзіцы" і мікалаеўская з манастыром, і адзінаццаць у месьце. Такі лік цэркваў мы ў гэты час сустракаем толькі ў Слуцку, Пінску і Тураве, дзе былі ў гэтыя часы рэлігійныя цэнтры. Між тым у Менску ў той час ніякага рэлігійнага асяродку ня было.

Здаецца, што і ў культурных і асьветных адносінах Менск у гэты час граў значную ролю, або ня меншую, як і іншыя значныя Беларускія месты. З помнікаў старога пісьменства ад XV ст., злучаных з Менскам, трэба адзначыць: 1) актоіх, які захоўваўся ў Менскай кацярынінскай царкве (паводле думкі дасьледчыка В. В. Гразнова з XIV ст.) і 2) Мсціжскую эвангелію—апракос, пісаную „ўставам" XIV ст. на пэргаміне (захоўваецца у Віленскай Публ. Бібліотэцы).

Бязумоўна верагодным зьяўляецца толькі тое, што да XVI сталецьця Менск ня страціў свайго сельска-гаспадарчага выгляду і мала чым адрозьніваўся ад вёскі па характары заняткаў насельніцтва—як кажа В. Д. Дружчыц у сваёй працы: „Места Менск у канцы XV і пачатку XVI ст" („Працы БДУ" 1926 г. № 12, ст. 1—22).

1499 год зьяўляецца эрай для г. Менску. Гэтым годам канчаецца эпоха сярэднявечча і пачынаецца новы час яго росквіту і самастойнасьці: Менску быў дадзены ад улады Вял. Княства Літоўскага „прывілей на права майдэборскае" (у Вільні,—14 (21) сакавіка, у дзень св. Бэнэдыкта). Прывілей гэты стварыў новыя падставы для далейшага экономічнага жыцьця места. Пагэтаму лічым неабходным даць яго зьмест.

У Менску быў устаўлены войт, якому вызначаны трэці грош з усіх судоў і він судовых, і да гэтага дзьве мясныя клеткі і з дзьвюх вольных карчом прыбытак у 4 капы грошаў літоўскіх у год. Такім чынам, зьнішчалася бесконтрольная ўлада „намесьніка" вял. князя над местам. Толькі ў судовых адносінах места мела дачыненьне да замку. Але экономічнае яго жыцьцё пашло адгэтуль самастойна, паводле „прывілею".

Увесь прыбытак ад „клетак" (дробныя крамы) вызначаны на ратушу, для пажытку места Менску.

Пад майдэборскае права падлягалі ўсе насельнікі места, на якіх-бы пляцох яны ні сядзелі: усе павінны былі быць вызвалены ад „гродзкага“ (замковага) і баярскага права і ўлады ваявод, стараст, намесьнікаў, судзьдзяў і ўсякіхураднікаў В. К. Літ.

Судовыя справы разглядаў войт з бурмістрамі і райцамі. Па апэляцыях справы разглядаў беспасрэдна вял. князь у задворным судзе.

Места вызвалена: 1) ад абавязкаў вазіць розных ураднікаў, за выключэньнем толькі ганцоў і паслоў, якія мелі асобныя падарожныя, за вялікакняскай пячаткай, а таксама 2) ад варты на замку, апрача варты пры самой асобе вял. князя.

Толькі Віленскія купцы мелі права гандляваць у раздроб. Усе іншыя купцы павінны былі купляць і прадаваць „оптом“. Пры гэтым цікава вызначэньне тых тавараў, якія складалі Менскі экспорт і імпорт у гэты час.

*Экспартаваўся* воск, хутры (сабалі, куніцы, тхары, белкі, гарнастаі, лісіцы, нарыцы), смала і попел. Пры гэтым наезныя гандляры мелі права купляць выключна ў горадзе, а не па вёсках, або ў бары, ці лесе.

*Імпартаваліся*: сукны, соль, перац, імбер, мігдалы, шафран, мушкат, гваздзікі, мушкатавы цьвет, калган, цытвар, фігі, разынкі, віно, нямецкае піва і мэталёвыя вырабы (сякеры, нажы і інш.) і неапрацаваны мэтал (жалеза, волава, медзь, цына).

Пад страхам конфіскаваньня тавараў усе наезныя купцы павінны былі купляць і прадаваць сьцісла вызначанай для кожнага тавару мерай.

Места мела важніцу і васкоўніцу, кабператапліваць воск і класьці па ім мескае знамя (пячатку, або кляймо).

Войт з бурмістрамі павінны былі клапаціцца, каб засадзіць пустыя месцы як у горадзе, так і на палёх наўкола места, за выключэньнем „пашні“, што належала гаспадару, на якую мяшчане ня мелі права.

Мяшчане карысталіся дрэвам на 3 мілі наўкола места, і выганам для сваёй жывёлы і мелі права пабудаваць лазьню „посполітую к пожытку местскому“.

Мяшчане атрымалі права пабудаваць ратушу, пад ёй крамы, „хлебныя клеткі“ і „камору для пострыганьня сукон“.

У ратушу павінны былі захоўвацца меры і вага: бочка мерная, мядніца. Войт з бурмістрамі маглі ўжываць прыбытак ад гэтых мер і вагі на мясцовыя патрэбы.

У месту Менскім абіралася з гэтага часу 12 райцаў, якія, супольна з войтам, абіралі 2 бурмістры паміж сябе на кожны год і судзілі па ўсялякіх справах мяшчан.

У скарб вял. князя места павінна было плаціць кожны год па 60 коп. грош. на „Вялікдзень“ і, апроч таго, „чынш з корчмаў“ „подле стародавного обычая“.

Іншыя падаткі („сярэбшчына“ вялікая і малая) павінны былі выбіраць толькі паводле асобных прызначэньняў.

У Менску заставалася мытніца, якая паранейшаму належала да гаспадарскага скарбу і здавалася ў арэнду.

Мяшчане мелі права збудаваць млын на р. Сьвіслачы.

Зьмест гэтага прывілею сьведчыць яскрава аб тым новым становішчы, якое Менск заняў з 1499 г.

Той факт, што Менск атрымаў прывілей на майдэборскае права яшчэ ў 1499 годзе (больш раньнія прывілеі былі атрыманы Вільняй у 1387 г. Полацкам у 1498 г. і пазьней Наваградкам у 1511 г., Магілевам у 1577 г., Віцебскам у 1597 г.), дае пэўныя падставы лічыць, што насельніцтва Менску ў канцы XV ст. мела здольнасьць абараняць свой дабрабыт. Гэта магло быць пад уплывам блізкіх адносін да Вільні, а таксама і да замежжа.

Бясспрэчным зьяўляецца тое, што наогул Менскія мяшчане моцна стаялі за свае правы ў гэты час. Аб гэтым сьведчыць, напрыклад, „вырок“ (пастанова) вял. князя Аляксандра ад 17 жніўня 1499 г. па скарзе намесьніка Менскага на войта, бурмістраў, радцаў і ўсіх менскіх мяшчан. Апошнія не жадалі пры сваіх судох мець прадстаўніка-намесьніка і даваць яму з кожнае судовае справы двух пенязяй (трэці пенязь ішоў войту, паводле прывілею на майдэборскае права). „Вырок“ пацьвердзіў, каб намесьнік абавязкова быў пры судох і каб на яго карысьць ішло ад вялікіх спраў два грошы, а войту трэці, а з малых спраў—намесьніку два пенязі, а войту трэці пенязь.

Апрача гэтага вялікі князь пацьвердзіў абавязак, каб мяшчане будавалі і рэпаравалі замковы драўляны млын у Менску і сыпалі грэблю падаўняму.

---

**Б. І. Фэдарака.**

# Да біолёгіі Pyrrhula coccinea Scl

*(сьнігір, сьнягур, сьнягурка, гіль).*

Ня глядзячы на тое, што гіль зьяўляецца калі ня зусім звычайнай, то ўва ўсякім выпадку досыць вядомай птушкай, за якой параўнальна лёгка можна назіраць, трэба сказаць, што ў яго біолёгіі ёсьць шмат нявысьветленых пытаньняў.

Нават межы вобласьці распаўсюджаньня і асабліва межы вобласьці гнездаваньня гэтага віду высьвятляюцца падрабязна толькі ў самы апошні час.

Халадкоўскі (11)*) паказвае, як вобласьць распаўсюджаньня, усю Расію і Сібір да Камчаткі, з паўднёвай мяжой да Крыму і вусьця Волгі. Заходняя-ж мяжа праходзіць праз так званы „Прыбалтыцкі і Прывісьлянскі“ край (дасканальна ня вызначана). Шнітнікаў (12) прыводзіць толькі адзін яму вядомы выпадак, калі гіль гнязьдзіўся ў паўночнай частцы быўш. Менск губ. (Барысаўскі павет). А. У. Фядзюшын (10) вызначае паўднёвую мяжу гнездаваньня гіля ня Беларусі па цячэньні р. Заходняй Дзьвіны і лічыць выпадкі гнездаваньня яго на поўдзень ад паказанай мяжы толькі выпадковымі. У „Птицах Смоленск. губ.“ Стачынскі лічыць гіля звычайнай птушкай, якая там гнязь-

*) Гл. у канцы артыкулу „Сьпіс скарыстанай літаратуры“.

дзіцца. Апошнія даныя пацьвярджаюцца маімі назіраньямі на працягу лета 1927 г. Аблюбаваная станцыя гіля ў умовах Смаленск. губ.—сьпелы яловы дрэвастан, і асабліва высякі ў сьпелым ельніку, якія густа зарасьлі ліпай, клёнам, арэшнікам, асінай і бярозай. Па такіх высеках яны прытрымліваюцца краю старога лесу альбо паасобных „маякоў".

Што-ж датычыцца зімовых вандровак, то па гэтым пытаньні для Беларусі ёсьць наступныя даныя. Шнітнікаў (12) для быўш. Пінскага пав. Менскае губ. адзначае нясталасьць тэрмінаў асеньняга зьяўленьня гілёў і прыводзіць для розных гадоў тры даты (26-ix, 1-x і 3-x). Пры гэтым гілі па Піншчыне сустракаюцца ўсю зіму. Веснавы адлёт паказваецца прыблізна ў пачатку красавіка. П. Ф. Салаўёў дае цэлы шэраг дат, якія характарызуюць зьяўленьне гілёў у восень і веснавы іх пралёту ў Горацкім раёне. Надта цікавым зьяўляецца констатаваньне факту („фэнолёгічн. назір. у 1925 г". Праца Навук. Т-ва па вывуч. Беларусі т. I ст. 1-11), што гілі ў нас (Горацкі раён), як правіла ня зімуюць, сустракаючыся толькі ў восень і вясной.

У якасьці матар'ялу да больш падрабязнага вывучэньня гэтага пытаньня я прыводжу ніжэй даныя фэнолёгічных назіраньняў гілёў у Горацкім раёне ў 1926 і 1927 г. г.

**1926 г.**

13-III Гілі (♂,♀)
15-III Гілі стадкам 5 паасобкаў (♂)
15-IV Гілі адзінкамі
16-IV Усюды шмат гілёў, галоўны пралёт цягнуўся каля тыдню
30-XI Пара гілёў і пукачка сьнегавая (Plecfrophanes nivalis Meger). Цёпла і гразна.
2-XII Маразы і мяцеліцы, шмат гілёў, галоўны пралёт цягнуўся каля двух тыдняў.

**1927 г.**

23-III Першыя веснавыя гілі. Трохі пахаладзела.
26-III Шмат гілёў, мяцеліца. Пралёт цягнуўся па канец *сакавіка.*
9-X Стадак гілёў (4♂) пры цёплай пагодзе.
10-X Кажуць бачылі гілёў.
11-X Гілі.
13-X Стадкі гілёў, раніцаю мароз.
15-X Амаль не паўдня ішоў сьнег і таяў, гілі.
з 22-X па 8-XI масавы пралёт гілёў, але да 13-XI (калі назіраньні спыніліся) яны сустракаліся ў нязначнай колькасьці.
12 і 13-XI пачаліся маразы і мяцеліцы.

Папрабуем параўняць гэтыя даныя з данымі сярэдніх тэмпэратур сутак (Горацкая мэтэр. станцыя) і атрымаем наступны малюнак.

Увага: чорнымі літарамі абазначаны дні, у якія назіраўся пралёт гілёў. Падвойная рыска азначае першы сьнегапад.

| 1926 г. | | | | | | | | 1927 г. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Сакавік | | Красавік | | Лістапад | | Сьнежань | | Сакавік | | Кастрычнік | |
| Чысло | Сярэд. t⁰ | Чысло | Сярэд. t⁰. | Чысло | Сярэд. t⁰. | Чысло | Сярэд. t⁰. | Чысло | Сярэд. t⁰. | Чысло | Сярэд. t⁰. |
| 1 | —20.27 | 1 | 2,13 | 15 | 6,40 | 1 | — 1,27 | 1 | —1,80 | 1 | 12,10 |
| 2 | —10,00 | 2 | — 0,53 | 16 | 5,20 | 2 | — 8,90 | 2 | —0,47 | 2 | 13,13 |
| 3 | 2,33 | 3 | — 2.40 | 17 | 4,60 | 3 | —11,60 | 3 | 0,33 | 3 | 14,50 |
| 4 | 2,03 | 4 | — 4,60 | 18 | 2,97 | 4 | — 7,53 | 4 | 0,40 | 4 | 8.30 |
| 5 | 0.90 | 5 | 2,50 | 19 | 4,43 | 5 | 1.20 | 5 | 0.40 | 5 | 6,60 |
| 6 | — 1,67 | 6 | 3,93 | 20 | 5,93 | 6 | 0,30 | 6 | 0,83 | 6 | 6.13 |
| 7 | — 3.90 | 7 | — 3,57 | 21 | 6,67 | 7 | — 0,50 | 7 | 0,47 | 7 | 5,97 |
| 8 | — 0,70 | 8 | — 4,23 | 22 | 7,23 | 8 | — 5,73 | 8 | 0,63 | 8 | 6,07 |
| 9 | — 0.50 | 9 | — 1,10 | 23 | 8,00 | 9 | — 9,20 | 9 | 0,77 | 9 | 6,60 |
| 10 | 1.40 | 10 | 0,99 | 24 | 5,67 | 10 | — 6,33 | 10 | 0.00 | 10 | 8,27 |
| 11 | — 3,50 | 11 | 1,44 | 25 | 3,90 | 11 | — 0,67 | 11 | 0,83 | 11 | 6,33 |
| 12 | — 4,63 | 12 | 0,00 | 26 | 3,00 | 12 | 1,43 | 12 | 0,23 | 12 | 1,10 |
| 13 | — 4.87 | 13 | 2,43 | 27 | 3,20 | 13 | — 1,80 | 13 | —0,50 | 13 | 0,33 |
| 14 | — 7 67 | 14 | 0,07 | 28 | 0.77 | 14 | — 1,23 | 14 | —1,13 | 14 | 2,13 |
| 15 | — 7,13 | 15 | 5,07 | 29 | 0,73 | 15 | — 1,07 | 15 | —0,80 | 15 | — 0,20 |
| 16 | — 6,93 | 16 | 3.90 | 30 | 0,03 | | | 16 | —0,37 | 16 | — 1.93 |
| 17 | — 8,90 | 17 | 6,67 | | | | | 17 | 0,97 | 17 | — 0,93 |
| 18 | —11,00 | 18 | 9.87 | | | | | 18 | 1 07 | 18 | 4,27 |
| 19 | —12,63 | 19 | 10,03 | | | | | 19 | 2,87 | 19 | 4,27 |
| 20 | —12.07 | 20 | 5,97 | | | | | 20 | 1,60 | 20 | 4,67 |
| 21 | ·11.40 | 21 | 11,07 | | | | | 21 | 3,60 | 21 | 4.90 |
| 22 | —10,87 | 22 | 13,50 | | | | | 22 | 4,37 | 22 | 2,83 |
| 23 | —10.87 | 23 | 12.97 | | | | | 23 | 0,53 | 33 | 1,73 |
| 24 | — 2,13 | 24 | 11,63 | | | | | 24 | —6,10 | 24 | 6,67 |
| 25 | — 1,84 | 25 | 10,60 | | | | | 25 | —3,20 | 25 | 2,83 |
| 26 | — 3.87 | 26 | 7,37 | | | | | 26 | —2,03 | 26 | 2,43 |
| 27 | — 5,63 | 27 | 6.30 | | | | | 27 | —6,10 | 27 | 10,87 |
| 28 | — 5.47 | 28 | 5,70 | | | | | 28 | —5,83 | 28 | 11,23 |
| 29 | — 4,05 | 29 | 9,73 | | | | | 29 | 4,87 | 29 | 7,70 |
| 30 | — 3,27 | 30 | 12,50 | | | | | 30 | - 1,60 | 30 | 7,47 |
| 31 | — 0,13 | | | | | | | 31 | 0,63 | 31 | 2,67 |

Зьвяртаюць на сябе ўвагу вялікія хістаньні тэрмінаў зьяўленьня. У восень 1927 г. гілі зьявіліся амаль не на 2 месяцы раней, як у мінулым годзе. Першыя гілі на веснавым пралёце 1926 г. зьявіліся 13-III, але доўгая халодная пагода мабыць спыніла пралёт, прымусіла раньніх гілёў адвандраваць на поўдзень. Галоўны пралёт быў зарэгістраваны толькі з 15-IV. Веснавы пралёт 1927 г. характарызаваўся дружнасьцю і хуткасьцю.

Кароткі тэрмін назіраньняў, толькі 2 зімы, не дае магчымасьці зрабіць якія-небудзь пэўныя вывады. Адно толькі бясспрэчна, што гілі ў нас не зімавалі ў 1926 г. Гэткая-ж зьява ўжо адзначана П. Ф. Салаўёвым (6) на падставе назіраньняў 1925 г. Можна думаць, што сустракаюцца ў нас гілі толькі на больш працяглівым васеньнім пралёце і на больш кароткім і хуткім—вясной. З другой паловы сьнежня на другую палову лютага (г. зн. 2 месяцы), як правіла, гілі ў нас ня трымаюцца. Гэта калі ня лічыць выпадковых адзінак (адзін раз назіраўся 1 самец 24 сьнежня).



Другі цікавы факт ня вырысоўваецца з такой пэўнасьцю, гэта сувязь сярэдніх t° сутак з зьяўленьнем гілёў. Лепш гэтая сувязь вызначаецца з восені, калі першыя гілі зьяўляюцца на 2-4 дні папярэдзе хвалі пахаладаньня і мяцеліц, пры гэтым галоўная іх маса зьяўляецца разам з першым сьнегам.

**Сьпіс скарыстанай літаратуры.**


1) *Брэм*—Жизнь животных (изд. 1911 г.).

2) *Мензбир*—Птицы России т. II.

3) *П. Ф. Соловьев*—„Фенологич. набл." запіскі Горацкага Ін-ту Сельск.-Гасп. т. III, 1925 г.

4) *П. Ф. Салаўёў*—„Некаторыя вывады з фэнолёгічн. назіраньняў" „Наш Край" № 1, 1925 г.

5) *П. Ф. Салаўёў*—„Фэнолёгічн. назір. ў 1926 г. у Горках" „Наш Край" № 12 (15), 1926 г.

6) *П. Ф. Салаўёў*—„Фэнолёгічн. назір. у 1925 г." Праца Навук. Т-ва па вывуч. Беларусі т. I, ст. I-II.

7) *П. Ф. Салаўёў*—„Аб пералётах птушак" „Наш Край" № 2 (17), 1927 г.

8) *Станчинский*—„Птицы Смоленск. губ." Научн. Изв. Смол. Ун-та т. IV, вып. I.

9) *А. У. Фядзюшын*—„Падарож. на Птыч і матар'ялы да вывуч. орнітоф. Беларусі".

10) *А. У. Фядзюшын*—„Вынікі фаўністычнае экспэд. па Віцебшчыне і на Дняпро ў 1924 г.".

Абедзьве працы зьмешчаны ў „Матар'ялах да вывуч. флёры і фаўны Беларусі" т. I, 1927 г.

11) *Холодковский и Силантьев*—Птицы Европы.

12) *Шнитнюков*—„Птицы Минской губ." Матер. к позн. флоры и фауны Рос. имп. вып. XII, 1913 г.


---

**Проф. П. Салаўёў.**

# Да пытаньня аб вывучэньні фаўны мясцовага краю.

Фаўна ёсьць усе жывёлы, разам узятыя, якія сустракаюцца ў даным краі (сяло, раён, акруга, рэспубліка).

Інбелкультам ужо выдадзена невялікая брошура для нашых краязнаўцаў „Кароткая інструкцыя да зьбіраньня і аховы зоолёгічных колекцый" проф. Фядзюшына.

Я лічу карысным папоўніць парады проф. Фядзюшына галоўным чынам з боку бібліографічнага.

Пры вывучэньні мясцовага краю краязнаўцу можна спыніць сваю ўвагу на вадазборах (возера, балота, сажалка, рэкі). Калі ёсьць пад рукой лябораторнае абсталяваньне, як напр. мікроскоп і некаторыя менш дарагія прылады, дык можна пачаць знаёмства з жывым насельніцтвам гэтых вадазбораў, з самымі дробнымі стварэньнямі. Пачат-

ковым падручнікам да гэтай працы можа быць кніжка Франсэ „Мир малых существ пресной воды“ (Издат. „Природа“, Москва, 1913 г.), у якой даюцца кароткія азначэньні. Больш падрабязным, але некалькі пастарэлым, падручнікам можа быць кніга Лямпэрта „Жизнь пресных вод“ (Изд. Девриена, 1900). Для асоб, якія жадаюць паглыбіць свае заняткі па мікрофаўне прэсных вод, неабходна нямецкая кніга—атляс Блёхмана (Blochmann. Die microskopische Tierwelt des Süsswassers. Braunschweig).

Для асоб, якія маюць элемэнтарнае лябораторнае абсталяваньне і жадаюць правесьці практычную вытворчую працу, між іншым, можна паказаць на кніжку Сініцына „Практическое руководство для исследования и определения паразитов человека и домашних животных. Простейшие“. (Москва, 1915 г.).

Для больш поўнага азнаямленьня з усімі найважнейшымі дармаедамі карысна нямецкая кніга Фібігэра (Fibiger. Die tierischen Parasiten der Haus-und Nutztiere sowie des Menschen. Wien und Leipzig, 1923).

Ёсьць на расійскай мове вызначнік па круглых чарвях К. Скрабіна „Паразитические Nematodes пресноводной фауны Европейской и, отчасти, Азиатской России“ (Москва, 1923 г.).

Да фаўны прэсных вод адносяцца, апрача дробных формаў, яшчэ такія, якіх можна бачыць звычайным вокам.

Такімі зьяўляюцца шасьціножкі, іх чарва, ракавідныя, мяккацелыя, амфібіі і рыбы.

Для азнаямленьня з гэтымі групамі часткова можа быць карыснай памянёная ўжо кніга Лямпэрта. Апрача таго, для вывучэньня мяккацелых можна рэкомэндаваць кніжку, якую выдала для краязнаўцаў Окская біолёгічная станцыя, В. І. Жадзіна „Наши пресноводные моллюски“ (Муром, 1926). Для вывучэньня рыб добрым падручнікам можа быць кніга Л. С. Бэрга „Рыбы пресных вод России“ (Госиздат, 1923). Для вызначэньня амфібій і іх чарвы ёсьць „Определитель земноводных и пресмыкающихся“ А. Нікольскага (Харкаў, 1907 г.). Для вывучэньня некаторых ніжэйшых ракавідных неабходна кніжка В. М. Рылава „Свободноживущие веслоногие ракообразные“ (Москва, 1922). Для вывучэньня іншых рачкоў і іншых жывёл надзвычайна карысны выпускі нямецкага выданьня Браўэра (Die Süsswasserfauna Deutschlands v. Brauer).

Пераходзячы ад вады да сухазем‘я, спасылаюся на памянёны ўжо вызначнік проф. А. М. Нікольскага па земнаводных і паўзунох. Апрача гэтай невялікай брошуркі аўтару належаць тры кнігі акадэмічнага выданьня „Земноводные“ (1918 г.) і „Пресмыкающиеся“ (т. I і т. II, 1915 і 1916 г.).

Для знаёмства з птушкамі можна раіць кніжку А. А. Сіланцьева „Определитель европейских птиц“ (1914 г.). Гэты вызначнік ёсьць і ў кнізе з атлясам птушак і яек „Птицы Европы“ Сіланцьева і Халадкоўскага. У аднэй з кніжак часопісу „Краеведение“ ёсьць артыкул Шнітнікава, які разглядае пытаньне прэпараваньня птушак.

З сысуноў кажаны, мошкаедныя і драпежныя апрацаваны ў кнізе К. Сатуніна „Определитель млекопитающих империи“ (Тифлис, 1914 г.). Аб грызунох з друку вышлі азначальныя табліцы Б. Вінаградава „Грызуны Европейской части СССР“ (Госиздат, 1926 г.). Між старых кніжак вельмі карыснай зьяўляецца выданьне дэпартамэнту земляробства „Мыши и мышевидные грызуны“ Росьсікава. Ёсьць яшчэ кніжка

В. Н. Лінда „Практическое руководство к определению зверей, водящихся в Европейской России“ (1911 г.), можа быць ня зусім добрая для карыстаньня, бо ў ёй адсутнічаюць звычайнага тыпу азначальныя табліцы. Далей я зусім не спасылаюся на капітальныя акадэмічныя выданьні, якія выходзілі і выходзяць у сэрыі „Фауна России“.

Кажучы аб шасьціножках, я падкрэсьліваю, што ў памянёнай брошуры проф. Фядзюшына ёсьць невялікі сьпіс літаратуры. Адносна вызначніка Шлехтандаля і Вюншэ трэба адзначыць, што гэта кніжка лічыцца цяпер нікуды нявартай. Н. Н. Багданаў-Кацькоў, выдаючы сэрыю выпускаў азначальных табліц шасьціножак („Практическая энтомология“), піша: „Калі галоўныя атрады будуць апрацаваны, я спадзяюся, што тады ўжо можна будзе адмовіцца ад праславутага вызначніка шасьціножак Шлехтандаля і Вюншэ, які выклікае прыкрасьць у роўнай меры як настаўнікаў, так і вучняў“. У сучасны момант ужо выпушчаны два вызначнікі з гэтае сэрыі: Біянкі і Кірычэнкі „Насекомыя полужесткокрылые“ і Мартынава „Ручейники“.

З іншых вызначнікаў па шасьціножках трэба паказаць: Г. Г. Якабсона „Определитель жуков“ (Госиздат, 1927 г.), і вызначнік Бау, які дагэтуль ужываўся („Определитель жуков Средней Европы“ 1914 г.), зусім можна здаць у архіў, а таксама і паказаны проф. Фядзюшыным Фрыккэн „Карманная книжка для собирателей жуков“. „Определитель короедов“ Сьпясіўцава, які раіць проф. Фядзюшын, захоўвае сваю вартасьць і да гэтага часу.

А. А. Штакэльбэрг выпусьціў вызначнік для малярыйных камароў „Материалы для определения кровососущих двукрылых СССР. Род Anopheles“ (Саратов, 1925 г.) і пазьней экскурсійны вызначнік „Наши Мухи“ (1926 г.). А. А. Дзьяканаў даў экскурсійны вызначнік „Наши стрекозы“ (Госиздат, 1926), Э. Мірам „Прямокрылые“. Шэраг другіх кніжак рыхтуюцца да выданьня.

Для асоб, якія цікавяцца вытворчай, практычнай энтомолёгіяй, апрача Сьпясіўцава карысна паказаць кнігу А. В. Знаменскага „Насекомые вредящие полеводству“ (Полтава, 1926).

Гэтымі кароткімі данымі я і дазволю сабе абмежавацца.

---

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

А. Гарбач.

## Некаторыя з народных сродкаў барацьбы з малярыяй у Мазырскай акрузе.

Надрукаваны ніжэй артыкул ёсьць адзін з рэзультатаў трохмесячнай працы малярыйнага атраду ў складзе студэнтаў-мэдыкаў Беларуск. Дзярж. Унівэрсытэту А. Гарбача і П. Краўца, якія былі ў Мазыршчыне ўлетку 1927 году.

Артыкул т. Гарбача мае мэдыка-краязнаўчую каштоўнасьць папершае таму, што ўсё запісанае ўзята непасрэдна ад сялян, жыхароў Мазыршчыны, і падругое, што запісана об'ектыўна і досыць дакладна. Поўнае апісаньне ўсіх сродкаў беларускае народнае мэдыцыны яшчэ чакае свайго аўтара-дасьледчыка, а пакуль што кожная нават і невялічкая работа ў гэтай галіне краязнаўства ёсьць адна з падвалін будучае сталае навуковае працы. Культура, асьвета, мэдыцына, што пашыраюцца па глухіх кутках нашае краіны, штогод сьціраюць старасьвецкія забабоны, веру ў ведзьмакоў, шаптуноў, а разам з тым зьмяншаюць лік людзей, ад якіх можна запісаць цікавы мэдыка-краязнаўчы матар'ял.

Першая мэдычная праца аб малярыі на Мазыршчыне надрукавана ў часопісу „Белорусская Медицинская Мысль“ № 2-3 за 1924 год. Яна была напісана ў выніку працы трох доктарскіх малярыйных атрадаў, пасланых Беларускім Пастэраўскім Інстытутам улетку (май—чэрвень) 1924 г. Досыць вялікі артыкул (20 стар.) д-роў Я. Ракоўскага, І. Сутіна і Г. Сталярова, удзельнікаў гэтай малярыйнай экспэдыцыі ў Мазыршчыну, зьмяшчае шмат цікавага матар'ялу, у тым ліку і этнографічнага. Атрады дасьледвалі раён ракі Птыч і валасьці Тураўскую, Тонескую і Лельчыцкую і раён па берагох Прыпяці, вёскі—Лясковічы, Дарашэвічы, Галубіца, Выгналаў, Макарычы. Турок, Конкавічы. Мордван. Астрожанка, Глімніца, Шастовічы, Махновічы і Злодзін.

Дасьледчыкі адзначаюць нязвычайную цемру насельніцтва: „сярод жыхароў Тонежа, якія жывуць на адлегласьці 120 вёрст ад чыгункі, вельмі пашыраны ўсялякага роду павер'і, паганскія звычаі і традыцыі. У якасьці лячэбнага сродку ад малярыі тут ужываюць мачу і конскі памёт“ (стар. 29). Насельніцтва з-за някультурнасьці зусім ня лечыцца, або ўжывае свае народныя сродкі. „Ня гледзячы на блізкасьць фэльчарскага пункту і буйнай вучастковай больніцы (сяло Мордвін) ніводзін з тутэйшых хворых не лячыўся ў доктара, баючыся, каб дактары „яго не атруцілі хінай“. У гэтай-жа працы пералічаны найбольш пашыраныя сродкі ад малярыі, якая мае народныя назвы—„трасца“, „хіндзя“ (раён ракі Птыч), „хундзя“ (Скрыгалаўская, Буйновіцкая і Петрыкаўская валасьці), „хондзя“ і „незбудзь“ (Тураўская і Тонеская валасьці). „Тут на першым мейсцы горычы: настой на палыне, рыбіная жоўць, грызеньне асінавае кары, курэньне табакі, мяшанай з патоўчанымі касьцямі трупаў; настой на жабах і вожыках; мача—адна і разам з самагонам; выцяжкі з конскага калу; прыкладаньне нейкае жоўтае кветкі да рук, ад якое зьяўляюцца вялікія верады. Далей ідуць знахарскія парады: трымаць конскую галаву ў зубах і „межы лічыць“, спалохаць хворага, напр., кінуць яго, у часе прыступу ў ваду „шчупака зьесьць“, надзяваць на шыю розныя талісманы: вароныя крутыя яйкі, ядры ката і г. п.“ (стар. 39).

Работа т. Гарбача каштоўна і ў сэнсе грамадзкім, бо яна прыцягвае ўвагу нашае савецкае грамадзкасьці да Мазыршчыны, якая цалком ахоплена балотнай трасцай. Цём-

нае, някультурнае насельніцтва гібее ад малярыйных эпідэмій і да гэтага часу баіцца дактароў і хіны. Тут у гэтых „палескіх глушах“ асабліва і неадкладна трэба пашыраць санасьвету і проста асьвету. Вялізная колькасьць паданых ніжэй народных сродкаў ад аднае толькі хваробы сьведчыць аб тым, што закінутыя ў Пінскіх балотах беларускія вёскі жывуць яшчэ бытам каменнага веку.

Доктар *Ів. Цьвікевіч.*

—

Шмат хто з насельніцтва як вёсак, так і мястэчак і нават гораду, глядзяць на захварэньне малярыяй (памясцоваму „хіндзяй“ альбо „хондзяй“), як на ўсяленьне ў чалавека з балотнае вады нейкага злога духу, нейкае ведзьмы, якая і пачынае мучыць захварэўшага. Малярыйных ведзьмаў ёсьць усяго семдесят сем розных асоб, ад чаго і „хондзі“ бывае семдесят сем гатункаў. Ад хворага малярыяй вы часта пачуеце такую гутарку: „як я толькі налавіў рыбы (альбо пакупаўся), дык хондзя зразу ўсьсела на мяне і давай душыць і вось душыць аж да гэтага часу“, альбо „як я толькі напіўся вады ў балоце, дык хондзя і пачала мяне церці з сярэдзіны“.

Каб пазбавіцца ад гэтае няпрошанае госьці, у народзе існуе вельмі многа розных спосабаў і сродкаў, якія ўсе можна падзяліць на два віды: адны—гэта такія, якімі стараюцца выжыць малярыю па дабросьці—выпрасіць яе ці выманіць з цела чалавека, а другія—гэта тыя, якімі выганяюць малярыю сілком з чалавека, труцяць малярыю. Так у вёсцы Малішава Тураўскага раёну кажуць, што хондзю ня можна клёсьці, бо яна зазлуе і будзе горш мучыць чалавека. Так да нас у атрад зьявілася для лячэньня некалькі сялянак, і адна з іх, якая хварэла больш двух месяцаў, успомніла хондзю нядобрым словам, дык другія накінуліся на яе з словамі: „што ты сабе, маладзіца, думаеш, хочаш, каб зусім цябе замучыла, дык замучыць, калі будзеш гэткаю храбраю“, і бедная жанчына ўжо ўпаўшым і вінаватым голасам адказала: „Я-ж нічога кепскага ёй ня думаю, хай сабе ўсё ёй будзе добра, але-ж мяне яна вельмі моцна мучыць, дык ня ўцярпець, каб не паклесьці“.

Там-жа нам сказалі, што „хондзі“ трэба даваць усё, чаго яна захоча; аб тым-жа чаго „хондзя“ хоча, яна сама „гаворыць хвораму ўва сьне“. Калі хвораму вельмі захочацца чаго-небудзь зьесьці, дык значыць, што гэтага хоча „хондзя“; і калі такога хворага накорміць да адвалу тым, чаго яму вельмі хочацца, дык ён паправіцца—„хондзя“ яго пакіне.

У вёсцы Буда Бячанская, Тураўск. р., ад „хондзі“ адкупаюцца такім чынам: калі хворага пачынае трэсьці, дык ён адлічвае тады семдзесят сем зернят проса, нясе іх сам у балота і, кідаючы іх у ваду, прыгаварвае: „даю вам зярнят проса семдзесят сем на кашу ўсім“.

Выманьваюць „хондзю“ з чалавека такім спосабам: даюць ёй магчымасьць перайсьці ў такую жывёліну, якую яна, паводле думцы ўжываючых гэты спосаб, любіць. Так у пасёлку ім. Славінскага, Петрыкаўскага раёну, калі хворага пачынае трэсьці, яму даюць у рукі сабаку, якую ён, прыціснуўшы да голых грудзей, павінен трымаць да таго часу, пакуль яго перастане калаціць; там-жа і з тэю-ж, відавочна, мэтаю хворы ў часе прыступу бярэ ў зубы чэрап здохлага каня і нясе яго ў зубах двое гонаў, прыблізна сажняў сто.

У вёсках Тураўск. р. і ў самым м. Тураве такою славаю карыстаюцца балотная жаба і вужака: хвораму ў час прыступу пускаюць за пазуху жывую жабу і трымаюць яе там, пакуль яна здохне; гэта лічыцца, што „хондзя“ перайшла ў жабу і задушыла яе. Носяць нежывых жаб на шнурочку, пачапіўшы сабе на шыю. У м. Тураве бяз ведама хворага вараць жаб у малаку і гэта малако даюць піць малярыку. Замест жабы носяць на шнурочку на шыі галаву вужакі.

Куды больш спосабаў і сродкаў, узброіўшыся якімі, чалавек уступае ў вайну з „хондзяй“, стараючыся яе выгнаць альбо і зусім зьнішчыць. Каб выгнаць „хондзю“, стараюцца яе спужаць, напрыклад, нечакана сьпіхаюць хворага ў ваду ці абліваюць яго халоднаю вадою; альбо пужаюць хворага стукам тады, калі ён сьпіць. З тэю-ж мэтаю хворы ў час прыступу ідзе на могільнікі і лажыцца на магілу.

У Тураўшчыне праклінаюць малярыю. У в. Азяраны ёсьць і такі шаптун, які заклінае „хондзю“ на скарынцы хлеба і дае гэтую скарынку есьці хвораму: кавалачак нашча раніцою і кавалачак на ноч. У в. Пагост шаптун выгаварвае „хондзю“ на паперы, і хворы гэтую паперку, загорнутую ў ладанку носіць на шнурочку на шыі, пакуль гэтая ладанка сама ня згубіцца, альбо яе праз нейкі час зьнімае сам знахар.

У вёсках Хвоенск, Буда і інш., Тур. р., выкурваюць „хондзю“: на гарачыя вугольлі кідаюць кавалачкі „сьвянцонага“ хлеба, альбо яйца ці „грамнічнае“ сьвечкі, і гэтым дымам дыша хворы. Выкурваюць яшчэ, кідаючы на вугольлі гусіны памёт.

Выганяюць „хондзю“ яшчэ і такім чынам: стараюцца згáдзіць хворага, каб яго званітавала; тады разам з ванітамі, паводле думкі ўжываючых гэта, уцячэ з цела і „хондзя“. Дзеля гэтага п‘юць усялякую гадасьць, напрыклад, у пасёлку ім. Славінскага п‘юць мачу розных хатніх жывёлін; калі ад гэтага ня знудзіць, дадаюць да мачы кал; у в. Буда п‘юць мачу абавязкова з халявы. Тыя, што глядзяць на мачу, галоўным чынам, як на атруту для „хондзі“, дзеля большае вартасьці яе (мачы), як атруты, прымешваюць да мачы табак і п‘юць гэтую зьмесь.

Сродкаў, якімі труцяць „хондзю“ вельмі многа: можна сказаць, што ўсё тое, што мае горкі смак, ужываецца, як лякарства проці „хондзі“. Некаторыя з гэтых сродкаў наступныя: у гор. Мозыр на зав. „Пролетары“ і ў ваколічных вёсках добраю славаю карыстаецца каштан, зерне якога перапальваюць на агні, труць яго ў мукý, зьмешваюць з гарэлкаю і п‘юць. Калі гэта не памагае, п‘юць зьмесь каштану, перцу, хіны і гарэлкі. У м. Скрыгалава і ў ваколічных вёсках такою славаю карыстаюцца лісьці івы, якія ці проста рвуць і ядзяць ці п‘юць іх адвар. У в. Хвоенск п‘юць тую ваду, у якой у гарбарнях мокне дубовая карá; там-жа п‘юць пáранае малако з гарэлкаю. У розных мясцох п‘юць таксама адвар палыну, гарычкі (драснý), цырбуноў сланэчніку і многіх іншых расьлін, якія маюць горкі смак. У в. Верасьніцы, Тур. р., п‘юць жоўць рыбы ліня, а ў м. Турава п‘юць кароўю жоўць.

Аб лячэньні хінаю існуе такая думка: хіны „хондзя“ баіцца, але ў таго, хто лечыцца хінаю, потым будуць балець і слабець ногі, і калі лячыцца хінаю, дык у час лячэньня ня трэба нідзе падмочвацца, бо „хондзя“ зразу адкіне. Ад апошняга недахопу лячэньня хінаю ў в. Буда Бячанская стараюцца пазбавіцца такім чынам, што хворы, калі ў

яго пачынаецца прыступ, бяжыць у балота ці ў ракў і там, стоячы па пояс у вадзе, прымае хіну; гэтым ён як-бы загартоўвае, замацоўвае вынікі лячэньня хінаю і перастае баяцца рэцыдываў ад падмочваньня. З яды горш за ўсё, паводле народнае думкі, „хондзя“ ня любіць рыбы і яек, загэтым хворым забараняюць іх есьці.

У заключэньне трэба сказаць, што амаль усякі захварэўшы малярыяй прабуе ўжываць адно ці некалькі сродкаў народнае мэдыцыны, а значная, калі ня большая частка хворых і зусім не зварочваецца за дапамогаю ў лячэбныя ўстановы, а ўвесь час лечыцца, як кажуць, сваімі хатнімі сродкамі.

---

**А. Я. Крукоўскі.**

# Жалезная руда на Мазыршчыне.

У часопісе „Наш Край“ № 8-9 (11-12) (старонка 43-44) за 1926 год падаваліся зьвесткі аб вынаходках жалезнае руды на Мазыршчыне каля наступных паселішч: 1) в. *Рэдзька*, Мялешкавіцкага сельсавету, 2) в. *Балажэвічы*, Скрыгалаўскага сельсавету, Слабадзкога раёну*), 3) в. *Аголіцкая-Рудня*, Пасад-Капцэвіцкага сельсавету, 4) в. *Скалодзіна*, Глініцкага сельсавету, 5) в. *Глініца*, таго-ж сельсавету, Пятрыкоўскага раёну, 6) в. Руданька (Белка), Капаткевіцкага сельсавету і раёну, 7) п. *Яўтушкавіцкая-Рудня*, Яўтушкавіцкага сельсавету, 8) в. *Карані*, таго-ж сельсавету, в. *Хамічы* таго-ж сельсавету, Азярыцкага раёну, 10) в. *Дзямідаўская-Рудня*, Дзямідаўскага сельсавету, Нараўлянскага раёну, 11) в. *Есіпава-Рудня* (Восіпава-Рудня) Зеляноцкага сельсавету, Каленкавіцкага раёну.

Аднак, у выніку далейшае працы па выяўленьні распаўсюджваньня жалезнае руды ёсьць мажлівасьць папоўніць раней надрукаваныя матар'ялы новымі зьвесткамі, больш дэталізаваць пададзеныя зьвесткі, а таксама ўдалося выявіць яшчэ і значную колькасьць новых мясцовасьцяй распаўсюджваньня жалезнае руды на Мазыршчыне.

### Па Азарыцкім раёне.

Жалезная руда, паказаная вышэй каля в. Хамічоў таго-ж сельсавету, знаходзіцца, згодна паведамленьня настаўніка Старавойтава, у вурочышчы Падліпка, на беразе р. Іпы, а ня Уны, як аб гэтым памылкова надрукавана ў „Нашым Краі“. Вурочышча Падліпка распаложана на паўночны ўсход ад в. Рылавічы, якая знаходзіцца побач з Хамічамі, у адлегласьці 1,7 кілёмэтра. Пліты жалезнае руды сустракаюцца тут вагою каля 245 кілёгр., а наогул руда сустракаецца на плошчы да 327 гэктараў, залягае на глыбіні да 0,17 мэтра ад паверхні. Таўшчыня слою руды не ўстаноўлена, але паводле некаторых фактаў трэба меркаваць, што яна даволі значная, бо як капалі канаву праз плошчу заляганьня жалезнае руды, дык грабары, прарэзваючы

---

*) У сувязі з ліквідацыяй Слабадзкога раёну памянёныя мясцовасьці ўвайшлі ў склад Пятрыкоўскага раёну.

яе на паўаршына ў глыбіню, не дакапаліся да падсьцілаючага слою. У мясцох заляганьня жалезнае руды вада ў р. Іпе не замярзае ўзімку, а на лузе дрэнна расьце трава. Жалезная руда сустракаецца яшчэ ў апісанай мясцовасьці і ў вурочышчы Віляўка.

У Каранёўскім сельсавеце жалезная руда сустракаецца ў вурочышчы Вытрашч, распаложаным на поўнач ад в. Карані, на адлегласьці 2-х кілёмэтраў; плошча заляганьня руды, згодна паведамленьня настаўніцы Нядзьведзкай, дасягае 5,68 гэктара.

### Па Жыткавіцкім раёне.

Жалезная руда знойдзена на абшары, пачынаючы праз 1,5 кілёмэтра за п. Пасталамі ў кірунку да в. Кузьміч, Старобінскага раёну, Менскае акругі. Руда залягае тут абапал канавы, якая перасякае чыгуначную ветку, уніз па цячэньні, адступіўшы 0,5 кілёмэтра ад чыгункі і цягнецца амаль што да самага Князь-Возера, займаючы, згодна паведамленьня раённага т-ва краязнаўства і настаўніка Майзьліка, плошчу даўжынёю ў 8-10 кілёмэтраў. Паводле вестак з месц, нямецкія прадпрыемцы, уладаўшыя да Кастрычнікавае рэволюцыі дрэваапрацоўчым заводам у Пасталох, дасьледвалі памянёную жалезную руду і нібыта зьбіраліся адчыніць завод для выплаўкі жалезнае руды, каб жалезнымі вырабамі абслугоўваць патрэбы мясцовага насельніцтва, але гэтаму пашкодзіла вайна 1914 году.

### Па Каленкавіцкім раёне.

Аб памянёнай у папярэднім апісаньні жалезнай рудзе каля в. Есіпавае-Рудні, Зеляноцкага сельсавету можна на падставе зьвестак, дастаўленых настаўнікам К. Шанько, даць больш падрабязнае апісаньне. Руда знаходзіцца ў вурочышчы Гарадок у адлегласьці 200 мэтр. ад вёскі, займае плошчу каля 50 гэктараў; у вурочышчы Сечаны Лес на плошчы да 15 гэктараў, а за межамі зямель Есіпавае-Рудні плошча з жалезнаю рудою да 250 гэктараў цягнецца пад в. Буду і Галявіцу, Дудзіцкага сельсавету. Апрача гэтага, жылы руды цягнуцца па рэчцы Ненач на поўнач і на захад да в. Антонаўкі, таго-ж сельсавету. Руда залягае на глыбіні ад 0,17-0,35 мэтра ад паверхні, сустракаецца даволі вялікімі і дробнымі кавалкамі. У 1918 г., у часе окупацыі, немцы дасьледвалі жалезную руду, але вынікі гэтага невядомы.

У Антонаўскім сельсавеце жалезная руда знойдзена каля в.Рудні-Гарбавіцкае на адлегласьці 2-2,5 кілём. У заходнім кірунку ў вуроч. Узлужжа. Згодна паведамленьня н-ка А. Шанько, руда раскідана на паверхні кавалкамі рознае велічыні, найбольшыя з якіх важаць да 8 кілёграм. Жалезная руда знойдзена таксама ў вурочышчы Папова Града, якое ляжыць у адлегласьці 4-х кілёмэтраў ад в. Рудня-Гарбавіцкая ў заходнім кірунку, паміж р. Іпаю і возерам Рачышча. Руда залягае на глыбіні да 0,5 мэтра ад паверхні. Згодна вестак, дадзеных настаўніцаю М. Бакман, плошча заляганьня руды, праўда не кампактнаю масаю, дасягае да 10,9 гэктараў. Таўшчыня пласту ня выяўлена. У мінулым у апісанай мясцовасьці (у Антонаўскім сельсавеце) была і гута па выплаўцы жалезнае руды.

### Па Капаткевіцкім раёне.

Жалезная руда знойдзена каля самага м-ка Капаткевіч на бало-

ціне Гальца, але, як плошча заляганьня руды, так і глыбіня заляганьня, таўшчыня пласту ня выяўлены.

**Па Каралінскім раёне.**

Згодна паведамленьня н-ка Малашчыцкага, жалезная руда знойдзена каля в. Санюкоў таго-ж сельсавету на балоціне, якая прылягае да рэчкі Мытвы; у Рамязоўскім сельсавеце—на балоціне, якая ляжыць на поўнач ад в. Рамязоў за вур. Крывавая Ніва, паасобныя кавалкі якое тут важаць да 4-х кілёгр., а таксама—на балоце па цячэньні р. Чэрцень на 6-7 кілёмэтраў уверх і ўніз ад Рамязоў. Паводле апавяданьняў старажылаў, у Рамязох была і гута для выплаўкі жалезнай руды, аб чым яшчэ сьведчыць і тая акалічнасьць, што частка цяперашняй в. Рамязоў сярод мясцовага насельніцтва мае назву Рудня.

У Махнавіцкім сельсавеце, згодна паведамленьня н-ка Шаўцова М., жалезная руда знойдзена: 1) у вур. Вярбаньск, распаложаным на поўдзень ад х. Заводны-Востраў. Руда сустракаецца на плошчы да 1-го кв. кіл., на глыбіні да 36 см. ад паверхні, таўшчыня пласту месцамі дасягае ад 40 см.—1 мэтра; 2) у вурочышчы Рудая Валока, Папоў Востраў, Вілкі, Сьлепча, Рачыца. Гэтыя вурочышчы распаложаны наўкола Заводна-Астроўскай школы ў адлегласьці ад 1—2 кілёмэтраў. Плошча, занятая рудою, у кожным вурочышчы дасягае каля 1 кв. кілёмэтра, залягае руда ад паверхні ня глыбей 1-го мэтра, таўшчыня-ж пласту ня выяўлена. Сяляне зрэдку цяпер ужываюць кавалкі руды на мураваньне апечча.

**Па Нараўлянскім раёне.**

У Дзямідаўскім сельсавеце, згодна паведамленьня настаўніка Л. Бастуна, руда сустракаецца ў вурочышчах: 1) Мутаўка, 2) Руда, 3) Роя, 4) Сьціжа і 5) Лобчэ. Першыя тры вурочышчы знаходзяцца на ўсход ад. в. Дзямідава, у адлегласьці ад 2—5 кілёмэтраў, а апошнія два—на поўдзень у адлегласьці ад 3—5 кілёмэтраў. Плошча заляганьня руды ня выяўлена, таўшчыня-ж пластоў дасягае ў кожным вурочышчы ад 1,5 дц.—3 дц., глыбіня заляганьня пластоў ад паверхні дасягае ад 7 дц.—1,2 мэтра.

Колісь на тэрыторыі сельсавету былі дзьве гуты па апрацоўцы руды—адна ў в. Дзямідаве, другая—у в. Мальцы. На гутах, якія належалі б. графу Горвату, у дзень выраблялася ад 7—10 пудоў жалеза, якое шло на выраб сякер, сашнікоў, зубоў для барон.

У Вербавіцкім сельсавеце, паводле зьвестак н-ка Леванюка, руда знойдзена ў вурочышчах: 1) Жалезьніца, 2) Каршакі, 3) Катагань, 4) Згон і 5) Беражкі. Першыя тры вурочышчы распаложаны на поўдзень ад в. Белабярэзкае-Рудні ў адлегласьці 2-х кілёмэтраў, вурочышча Згон—на паўднёвы ўсход у адлегласьці 4-х кілёмэтр., вур. Беражкі—на ўсход у адлегласьці 3-х кілёмэтраў. Руда выходзіць на паверхню і займае плошчу каля 400 гэктар. у вурочышчах: Жалезьніца, Каршакі і Катагань. У астатніх-жа двух вурочышчах плошча заляганьня руды пэўна ня высьветлена.

Таўшчыня слою з рудою ў кожным вурочышчы дасягае месцамі ад 1—2 мэтраў.

Паводле апавяданьняў старажылаў, тут-жа была яшчэ ў часы паншчыны гута па выплаўцы з руды жалеза для патрэб маёнткаў.

Паводле зьвестак н-цы Бухарэвіч-Сасінай, жалезная руда сустракаецца ў Вуглоўскім сельсавеце ў наступных вурочышчах: 1) Касьсе, 2) Супрага, 3) Вялікі лес. Першае распаложана з захаду на ўсход ад в. Міхайлаўкі, у адлегласьці 0,25 кілём., другое—на паўднёвы ўсход, у адлегласьці 1 кілём., трэцяе—на ўсход, у адлегласьці 1 кілём. У вур. Касьсе плошча заляганьня руды дасягае да 11 гэктараў, глыбіня заляганьня ад 2-7 дц. з такою-ж блізка таўшчынёю пласту. У вур. Супрага руда сустракаецца на плошчы да 15 гэктараў, залягае на глыбіні ад 2-7 дц. з такою-ж прыблізна тоўшчаю пласту. У вур. Вялікі Лес руда сустракаецца на працягласьці 8 кілёмэтраў, залягае на глыбіні ад 2-6 дц., а тоўшча пласту месцамі дасягае ад 3—7 дц.

Яшчэ ў Нараўлянскім раёне руда знойдзена ў Міхалкаўскім сельсавеце. Тут яна знаходзіцца ў вур. Каложанка Цёмны Востраў і Зазер'е, распаложанымі, згодна вестак н-ка П., Кашпэя, у паўднёва-заходнім кірунку ад в. Міхалак, у адлегласьці ад апошняй на 3-4 кілёмэтры. Руда тут залягае паласою то шырынёю да кілёмэтра, то звужаецца да некалькіх мэтраў. Згодна-ж паведамленьня н-ка І. Краўчанка, найбольш знаходзіцца руды ў вур. Каложанка. Даўжыня паласы заляганьня руды ва ўсіх вурочышчах дасягае 5 кілёмэтраў. У іншых мясцох руда выходзіць на паверхню і ў такім месцы адсутнічае расьліннасьць, у іншым месцы руду апранае пласт зямлі тоўшчаю да 1 мэтра. Тоўшча-ж пласту руды ня выяўлена.

**Па Тураўскім раёне.**

Жалезная руда знойдзена на правым беразе р. Зьдзьві, на паўднёвы ўсход ад в. Пагост і ў адлегласьці ад апошняй на 2 кілёмэтры. Руда сустракаецца дробнымі кавалкамі, але, як плошча заляганьня яе, так і таўшчыня пласту з рудою ня выяўлены.

Нарэшце, жалезная руда сустракаецца на Пхове, распаложаным у адлегласьці каля 3-х кілёмэтраў ад цэнтру г. Мазыра ў паўночна-заходнім кірунку. У паказанай мясцовасьці руда залягае на левым беразе р. Прыпяці пластом, край якога закрываецца вадою, кавалкі-ж руды сустракаюцца на паверхні, але, як плошча заляганьня руды, так таўшчыня пласту ня выяўлены.

Аднак і прыведзенымі зьвесткамі ўсе месцы заляганьня жалезнае руды на Мазыршчыне яшчэ ня вычэрпваюцца, у т-ве краязнаўства яшчэ ёсьць зьвесткі аб іншых мясцох акругі, апрача пералічаных, але, паколькі зьвесткі гэтыя вельмі няпоўныя, і ўзоры руды не дасланы, дык мы іх не падаем.

Цікава яшчэ і тое, што ў другой палове XIX сталецьця на Мазыршчыне здабывалася і апрацоўвалася жалезная руда, так напр., у кніжцы В. Маркуева „Полесье и полешуки (чтение для школ, изд. III-е), Москва 1886 г.“ на ст. 8-9 аб гэтым знаходзім: „По глухім местам Полесья живут почти в диком состоянии семейства будников и рудников..... Рудники добывают болотную руду и обрабатывают ее на месте кусками в человческую голову; затем руда отвозится в местные кузницы, где выбивается из нея и вытягивается железо; часть железа идет в собственность рудника, он делает из него сошники и другие мелкие вещи“.

---

У. Мікіцінскі.

# Слуцкі Раённы Краязнаўчы музэй.

*(Кароткае апісаньне).*

Слуцкі краёвы музэй, як і краязнаўчы рух на Случчыне, мае досыць значную даўнасьць. Дзейнасьць гэтая пачалася зараз-жа пасьля вызваленьня краю ад польскае окупацыі. Першыя гады працы ў галіне музэябудаўніцтва, як і краязнаўчага руху, праходзілі са значнымі перапынкамі. Гэты пэрыод, аж да канца 1925 г., характарызуецца як пэрыод накапленьня багатых каштоўнасьцяй гістарычнага і мастацкага характару. Складалася ядро, з якога ў далейшым мелася на ўвазе разгортваньне краёвага музэю. Дзякуючы таму, што галоўная частка гэтага скарбу складалася з рэчаў, якія маюць агульнадзяржаўнае значаньне, музэй у 1925 г. быў пазбаўлены гэтых каштоўнасьцяй, якія былі забраны ў Менскі Дзяржаўны Музэй, а застаўшыяся прадметы, другараднага і трэцяраднага значэньня, паслужылі пачаткам новага музэябудаўніцтва,— разам з заснаваньнем Акруговага Краязнаўчага Т-ва.

Сучасны краёвы музэй мае значную вартасьць. Буйное яго пашырэньне дае ўпэўненасьць у тым, што праз нейкі час, пры добрых варунках, ён перарасьце сваю раённасьць, паступова набываючы значэньне краёвага музэю Случчыны. Недахопы трэба аднесьці за кошт слабага выяўленьня быту насельніцтва, гаспадаркі, прамысловасьці і саматужніцтва, якія часткова выяўлены дыяграмічным спосабам. Кульгае якраз частка музэю, якая патрабуе з аднаго боку сродкаў, а з другога—больш чулых адносін дзяржаўных і грамадзкіх установ.

Музэй падзяляецца на 3 аддзелы: 1) Культурна-Гістарычны. 2) Прыродна-географічны. 3) Грамадзка-экономічны. Па гэтых трох аддзелах налічваецца 1.446 апрацаваных прадметаў і каля 500 неапрацаваных, якія немагчыма выставіць дзеля адсутнасьці адпаведнага памяшканьня.

Культурна-гістарычны аддзел мае 533 экспонаты, Прыродна-географічны—700 і Грамадзка-экономічны—213.

Пры музэі ёсьць бібліотэка, якая складаецца з 1.334 назваў. Падзяляецца яна на тры галіны: 1) Беларусазнаўства і краязнаўства. 2) Старадрукі і 3) Рознага зьместу. Па першай галіне ёсьць 244 назвы; галоўнае багацьце—архэографічныя зборнікі старажытных грамат і актаў, падручнікі па краязнаўству і творы агульнага географічнага і гістарычнага характару. Па другой галіне 260 назваў; выданьні розных краін, пачынаючы з 1605 г. і да канца XVIII ст. Кніжак рознага зьместу 830 назваў.—Акрамя гэтага ёсьць 67 рукапісных кніжок і 48 розных докумэнтаў, якія адносяцца да XVII-XVIII-XIX ст. Негатыўны архіў налічвае да 100 негатываў. Ёсьць компас, прэс для сушкі расьлін і інш. прылады.

### Аддзел І. Культурна-гістарычны.

*Каменны век* (нэоліт) 2 малаткі і 3 цёслы. *Курганны пэрыод.* Чэрап, косьці, гаршчок, шкляныя пацеркі і галоўная грыўна. Жалезная сякера (XII ст.). Кавалачак кальчугі. Плян г. Слуцку 1780 г. Два павялічаных фот. здымкі з грамат. Кн. Радзівілаў, аб заснаваньні Слуцкай гімназіі (1617—1625 г.). Група настаўнікаў Слуцкай гімназіі 1840 г. Палова Слуцкага поясу з надпісамі: „Лео Маджарский“ „в граде

Слуцке* (XVIII ст.). Фотографічны здымак Слуцкага поясу (фот. Юхніна). Напрастольная тканіна (умоўна адносіцца да вытворчасьці Слуцкай фабрыкі паясоў. Монэт розных—392. Папяровыя грашовыя знакі. Павялічаныя фотографічныя здымкі з прадметаў Слуцкай старасьветчыны XVI ст., (узяты ў Дзяржаўны Музэй здымкі злучанага портрэта 4-х князёў Слуцкіх Алелькавічаў, эвангельля пісанага кн. Юр'ем Алелькавічам, вокладкі эвангельля, эпітрахілі, посаха і інш.) 14 фотографічных здымкаў архітэктурных і мастацкіх вартасьцяй Ражэсьцьвенскае царквы (XVI ст.). Кавалкі тканін, аграманту, курганы, міска, конаўка, падсьвечнікі старажытнае вытворчасьці. Рознае вышываньне па шоўку (XVIII ст. Кальвінскі сабор). Старажытныя цэглы, ядры ад гармат, тры портрэты, нажныя кайданы, стары бязьмен. 20 фот. здымкаў дзеячоў рэволюцыйнага руху на Случчыне 1905 г. і інш.

### Аддзел II. Прыродна-географічны.

Карта СССР. Карта БССР. Топографічная трохвярстовая карта Слуцкай акругі. Глебавая трохвярстовая карта Слуцкай акругі. Аднавярстовая топографічная карта Слуцкага Раёну. Сучасны плян м. Леніна (Раманава). Алеевы малюнак Князь-возера. Шэсьць фот. вялікіх портрэтаў тыпаў Случчыны: Палескіх жанчын, дзяўчат у нацыянальнай вопратцы, сьляпога з павадыром, пастушка, лірнікаў. Чучалы: дзіка, галавы дзіка, сусла, пацука, крата, сойкі, чыбіса, курапаткі, перапёлкі, шпака, чыркі, вадзяной курачкі, голуба, турухтана, кароны, каршуна, вуцана. Зьмеі: гадзюка, вуж (у сьпірытусе). Шкілет кошкі, зьмяі. Географічных карт, складных на дзераве, частак сьвету і розных дзяржаў—20. Колекцыя шасьціножак і матылёў 300 эк. Вучнёўская колекцыя мінэралаў—98 узораў. Мясцовых расьлін 7 гэрбарыяў—390 аркушаў. 35 узораў карысных выкапняў: вапнякі, пескавікі, жалезная руда, кварцыты, граніты, гнэйсы, Скамянелыя ракавіны. Узоры глеб у монолітах).

### Аддзел III. Грамадзка-экономічны.

Альбом тканін—50 узораў. Модэль бараны. Снапкі збожжа гаспадароў, атрымаўшых прэміі на с.-г. выстаўцы. Узоры насеньня. Плян саўгаспадаркі Старчыцы з лічбамі, апісаньнем інвэнтару, севазвароту, жывёлы.

*Па барацьбе са шкоднікамі:* Разьвіцьцё суськіка (5 банак). Чужаеды суськікаў (3). Гнёзды суськікаў (3). Пасеваў пажаваных суслamі (4). Схэматычная табліца нор. Фото-плякат па біолёгіі суськікаў. Прылады барацьбы з суслamі.

*Па народнай асьвеце:* 85 экспонатаў дзіцячай вытворчасьці.

*Шляхабудаўніцтва.* Модэль маста і 5 фот. мэханічных снарадаў.

*Па ахове здароўя.* 20 фот. здымкаў усіх лячэбных установ Слуцкай акругі. Фотографіі хворых да і пасьля опэрацый, 8 дыяграм па справаздачы Акрздраву. 55 плякатаў па санітарыі, гігіене, анатоміі і барацьбе з малярыяй, сухотамі, п'янству, насьценныя газэты і інш. 7 узораў розных опэрацый Слуцкай больніцы (у формаліне). Карта экономічнай сеткі Слуцкай акругі.

122 дыяграмы па справаздачах Павятовага Савету, Акрвыканкому па ўсіх галінах будаўніцтва. 50 фот. здымкаў разных зьездаў, урачыстасьцяй і профэсыянальнага жыцьця і інш.

Проф. П. Салаўёў.

# Цікавы рачок у Горках.

Вывучэньне мясцовай фаўны ў поўным яе ахопе зьяўляецца аднэю з сур'ёзных краязнаўчых задач. У гэтай справе перакрыжоўваецца цэлы шэраг тэорэтычных і практычных інтарэсаў. Падыход да вывучэньня фаўны Горацкага раёну вызначаны ў маім артыкуле („Фаўна Горацкага раёну“), які друкуецца ў зборніку, прысьвечаным апісаньню гэтага раёну. Вывучэньне прэснаводных вадазбораў Горацкага раёну вылучаецца намі ў асобную працу з прычыны таго, што ў гідробіолёгічным стасунку ўся Беларусь зьяўляецца краінаю амаль зусім нявывучанаю, аб чым я больш падрабязна паведамляю ў „Русском Гидробиологическом журнале“. На шляхох гэтага гідробіолёгічнага вывучэньня нашага раёну мне спаткаўся сярод іншага матар'ялу вельмі цікавы рачок (балацянік), біолёгію якога я апісваю ў спэцыяльным чужаземным часопісе („Zur Biologie von Limnetis brachyura Müll“. Zool. Anz.). Цікава гісторыя знаходжаньня гэтага рачка. Яшчэ два гады таму назад, абсьледваючы адну палявую лужынку („блюдце“), я знайшоў у ёй дзіўнага рачка, якога азначыць ня меў магчымасьці. На другі год шуканьні гэтага рачка ў тэй самай лужынцы ня мелі посьпеху. Прычына гэтага была зусім ня ў тым, што рачка ня было, а ў тым, што ён у сваім разьвіцьці пасьля ліняньня прыймае зусім іншы выгляд. Гэта прышлося давесьці толькі на трэці год, г. зн. вясною 1927 году. З гэтае акалічнасьці мы бачым, што іншы раз пры біолёгічных досьледах цяжка бывае атрымаць ад прыроды неабходныя адказы. Справа ўскладняеецца заўсёды яшчэ тым, што ўсяе неабходнае літаратуры пад рукою няма. Я ня буду гаварыць тут аб вывучанай мною біолёгіі рачка, а зьвярну ўвагу на тое, што гэты рачок (Limnetis або Lynceus brachyurus) даў повад гаварыць аб найважнейшым біолёгічным пытаньні, а менавіта аб пахаджэньні відаў.

Справа ў тым, што самцы і самкі гэтага рачка адрозьніваюцца адзін ад другой цэлым шэрагам так званых другародавых адзнак. Між іншым галава самкі заканчваецца выцягнутым загостраным наском (rostrum), а галава самца заканчваецца тупым канцом (rostrum). Здарылася так, што Дадай (Daday de Dées. Le polymorphisme des mâles chez certains Phyllopodes conchostracés. Compt. Rend. Acad. Sc. Paris. T. 154. 1912), праглядаючы зборы з Плётцанскага возера пад Бэрлінам, выявіў прысутнасьць тут памянёнага рачка, прычым ня толькі самкі, але і самцы мелі гостры насок. Дадай схіляўся бачыць у гэтых формах новы від (Lynceus acutirostris n. sp.). Але, разглядаючы далей зборы з Бярозава Табольскай губ., ён знайшоў гэтага рачка ў такім выглядзе, што побач з самцамі гостраносымі пападаліся звычайныя тупаносыя самцы. З гэтае прычыны Дадай прышоў да вываду, што бэрлінская форма ня ёсьць новы від, а толькі адмена (aberratio Lincéus isorhynchus). На падставе сваіх матар'ялаў Дадай зрабіў спробу растлумачыць зьяву, якую наглядаў (Daday de Dées. Deux aberrations intéressantes dans le sousordre Phyllopoda Conchostraca. Ann. d. Sc. Nat. 9 Série. T. 17. 1913). Па яго думцы абэрацыя з Плётцанскага возера і з Бярозава яскрава асьвятляе проблему пахаджэньня відаў і ёсьць довадам

за мутацыйную тэорыю дэ-Фрыза. Як вядома, голяндзкі ботанік дэ-Фрыз (1901), адмаўлаючы магчымасьць пахаджэньня відаў шляхам паступовай зьмены формаў у выніку зьяўленьня выпадковых дробных адзнак, якія не перадаюцца ў спадчыну, высунуў у якасьці адзінага фактара эволюцыі скачкоўную ці прарыўную зьменнасьць, якую назвалі мутацыяй. Так званыя мутанты дэ-Фрыза—гэта ўзьнікаючыя раптоўна, без пераходных формаў, скачкамі, новыя элемэнтарныя віды, якія адразу ўмацоўваюцца і перадаюць свае адзнакі далейшаму пакаленьню. Такім чынам, па думцы Дадая, самцы рачка з ваколіц Бярозава даюць прыклад зьяўленьня новай адзнакі шляхам мутацыі. Насок самца (rostrum) ператвараецца тут раптоўна ў насок (rostrum) з жаноцкімі адзнакамі. У той-жа час самцы Плётцанскага возера даводзяць, што адзнака, якая стварылася мутацыйным шляхам, перадаецца ў спадчыну далей. Новая асаблівасьць у гэтым выпадку ёсьць у тым, што родавая рознасьць (дыморфізм) зьнікае і характэрны для мужчынскага роду орган (rostrum) набывае адзнакі жаноцкага роду, г. зн. у самца зьяўляюцца другародавыя адзнакі самкі. Гэтую зьяву Дадай заве гінэкоморфізмам. Адпаведна гэтаму Дадай лічыць загостраны насок самкі первястковай зьявай (старажытнай), а зьяўленьне гострага наска ў самца зьявай другаразнай (новай) і разглядае апошні выпадак, як атавістычны, г. зн. як зварот да старажытнай організацыі продкаў. Гіпотэза Дадая сустрэла супярэчаньне з боку Яна Баўкевіча з Вільні („Linceus brachyurus aberr. isorhynchus Daday im Lichte des Gesetzes der weiblichen Präponderanz. Zool. Anz. 1924. Bd. 61. Hft 7—8). Між іншым Баўкевіч знайшоў рачка другога віду, у якога самкі таксама гостраносыя, а самцы тупаносыя (Lynceus acanthorhynchus n. sp. Travaux de l'Institut de Biologie Générale de l'Université de Vilno. № 2 in Tr. d. Soc. d. Sc. et Lettr. de Vilno. T. I 1924). Маючы на ўвазе каля 20 вядомых цяпер відаў памянёнага рачка і карыстаючыся літаратурнымі аналёгіямі, Баўкевіч прыходзіць да вываду, што, наадварот, гостраносыя формы рачка трэба лічыць найбольш старымі. Ад іх зьявіліся тупаносыя. Але цяпер зноў апошнія пачынаюць ператварацца ў гостраносых. Такім чынам, згодна думкі аўтара, выходзіць свайго роду circulus vitiosus.

Гэтая дыскусія, а яшчэ больш выкрытыя Дадаем зьявы бязумоўна зьяўляюцца надзвычайна цікавымі, бо шчыльна падводзяць нас да найбольш гострых проблем дарвінізму і органічнай эволюцыі, якія ляжаць і павінны быць падставамі марксыцкага сьветапогляду.

Знойдзены мною ў Горках рачок будзе прадметам маіх далейшых досьледаў і, калі давядзецца, дык я наладжу шэраг экспэрымэнтаў, якія змогуць унесьці новае асьвятленьне ў пытаньне аб пахаджэньні формаў, калі толькі прырода ня будзе скупою на адказы.

# Програмы, анкеты і інструкцыі.

## Як сабраць і ўкласьці слоўнік мовы свайго раёну*).

1. *Значэньне слоўніка.* Ва ўсякай галіне дзейнасьці ў краі неабходна мець у першую чаргу дакладнае ўяўленьне этнографічных асаблівасьцяй яго і дасканала валадаць моваю мясцовага насельніка. Хутчэй за ўсё дайсьці да сьвядомасьці дзіцяці і селяніна ў навучаньні, або асьветнай гутарцы, ці разважаньні аб справе, можна толькі гаворачы на запраўды роднай, мясцовай, а не літаратурнай мове. Пакуль ёю не валадае той або іншы працаўнік, датуль ня можа быць гутаркі аб штодзённым, а не кампанійным, ажыцьцяўленьні сувязі гораду з вёскай, паглыбленьні нацыянальнай політыкі і прыцягненьні шырокіх мас да савецкага будаўніцтва. Разам з тым здаровае ўзбагачэньне літаратурнае мовы можа ісьці толькі шляхам успрыйманьня мясцовых слоў літаратурнаю моваю, а ня выдумваньня іх. Побач з гэтым практычным, [політычным і лексыколёгічным значэньнем, веданьне мясцовай мовы высьвятляе географію слоў, дае магчымасьць навуковых дыялектолёгічных асаблівасьцяй, вывадаў аб мінулым народу, яго быце, інтэлектуальным і гаспадарчым стане і г. д. Усё гэта павінна прычыніцца таму, каб мясцовае раённае таварыства краязнаўства сіламі сваіх членаў сабрала і ўклала слоўнік мовы свайго раёну. Ды інакш, без укладаньня апошняга, вывучэньне свайго раёну ня было-б усебаковым, а якраз гэта ўсебаковае пазнаньне раёну ў мінулым і сучасным зьяўляецца канцоваю мэтаю кожнага раённага таварыства краязнаўства.

2. *Тэрмін зьбіраньня і ўкладаньня слоўніка.* Мова зьяўляецца жывым організмам і бязупынна зьмяняецца. Старыя словы набываюць новы зьмест або новае адценьне яго, утвараюцца і запазычаюцца з іншых моваў новыя словы, частка слоў зьнікае зусім і г. д. Калі не абмежаваць час зьбіраньня слоўніка, дык прыдзецца адбіць і ўсе тыя зьмены мовы, якія ўтвараюцца ў ёй, а гэта значна ўскладніць усю задачу ўтварэньня слоўніка. Таму неабходна вызначыць пэўны тэрмін зьбіраньня і апрацаваньня слоўніка. Пры сучасных умовах краязнаўчай дзейнасьці па раёнах гэтую працу можна выканаць за адзін-два гады. Гэта, зразумела, ня значыць, што цераз гэтыя адзін-два гады ня

*) Укладзена М. І. Касьпяровічам і ўзгоднена з Слоўнікавай камісіяй і Дыялектолёгічнай камісіяй Аддзелу Гуманітарных Навук ІБК.

прыдзецца зьбіраць зьмены, новыя факты мовы, якія ўтварыліся за гэты час. Яны якраз неабходны будуць для высьвятленьня развою мовы данага раёну. Але ў асноўным зьбіраньне слоўнікавага матар'ялу павінна быць зроблена ў магчыма больш кароткі кругабег часу.

3. *Крыніцы слоўніка.* Адзінаю крыніцаю для слоўніка мовы раёну зьяўляецца жывая разгаворная мова насельнікаў яго. Фольклёрныя запісы, якія рабіліся ў мінулым, у большасьці перакручаныя тэндэнцыйнымі замерамі зьбіральнікаў, а рэшта—застарэлая і, калі мы гаворым аб слоўніку мовы пэўнага часу, ні ў якім разе не падыходзяць для скарыстаньня іх у якасьці крыніцы. Сучасны фольклёр, які яшчэ захаваўся, таксама не падыходзіць у якасьці крыніцы: з аднаго боку ў прыпеўках ён мае неўласьцівыя мясцовай мове ўплывы, а з другога боку крышталізаваная мова песень не адбівае сучаснай мовы раёну. У меншай меры маюць хібы гэтыя казкі. Такім чынам, мову сучаснага фольклёру трэба скарыстоўваць у якасьці крыніцы слоўніка ў магчыма меншай меры: браць толькі тое, што не спатыкаецца ў звычайнай мове.

| |
|---|
| Дадзява́ць—<br>досаждать. |
| Дадзеў нам еты хлапец сваймі жартамі. |
| в. Селішча, Гарывецкага сс. М. Касьпяровіч. |

№ 1. Узор карткі, зьменшанай у два разы, як і ўсе наступныя.

4. *Падрыхтоўчая праца да зьбіраньня слоўніка.* Спачатку трэба праверыць свае веды аб мінулым і сучасным раёну і, асабліва, этно-

графічным складзе яго насельнасьці, не забываючыся, што беларуская частка яго можа і ў даным раёне складацца з так званых шляхты і мужыкоў. Свае веды аб раёне неабходна папоўніць азнаямленьнем з усёй літаратурай аб ім, як у друкаваным відзе, так і ў рукапісах. Гэта дасьць магчымасьць правільна выбраць, так кажучы, майстра слоў, ад якога яны будуць запісвацца. Вельмі карысна будзе знаёмства з іншымі краёвымі слоўнікамі, а таксама з агульнабеларускім.

Пасьля гэтага трэба ўлічыць свае сілы і сродкі. Аднаму чалавеку гэта праца бясспрэчна не па сілах. Трэба мець магчыма больш шырокае кола супрацоўнікаў. Імі могуць быць усе пісьменныя людзі ў раёне, а асабліва вучні і мясцовая інтэлігенцыя. Сродкаў на паперу можа патрабавацца каля трыццаці рублёў.

Урэшце, неабходна ўтварыць спрыяючае грамадзкае зданьне навокал пытаньня аб укладаньні слоўніку. Для гэтага прыдзецца зрабіць даклады ў партыйных, грамадзкіх, профэсыянальных і савецкіх установах і організацыях, а таксама па розных сходах. Ня меншую ролю ў данай працы можа мець асьвятленьне пытаньня ў насьценным і акруговым друку, якое павінна быць сталым і кругабежным. У выніку гэтай дзейнасьці можа атрымацца ня толькі належная атмосфэра для працы, але і матар'яльнае падтрыманьне яе.

Пасьля ўсяго гэтага ўжо можна будзе ўкласьці конкрэтны рабочы плян працы, асноўнымі пытаньнямі якога зьяўляецца зьбіраньне матар'ялаў, апрацоўка іх і ўкладаньне слоўніка.

5. *Мэтоды працы зьбіраньня і ўкладаньня слоўніка.* У гэтай складанай працы адным мэтодам абмежавацца нельга. Стацыянарны, экспэдыцыйны і лябораторны мэтоды павінны пэўным спосабам чаргавацца і ўзаемна дапаўняць адзін аднаго. Зразумела, што лепшы матар'ял можна сабраць стацыянарным спосабам, г. зн. доўга жывучы і працуючы на адным месцы. Але ўжо для праверкі і дапаўненьняў назапашанага такім шляхам матар'ялу прыдзецца зрабіць пэўны лік экспэдыцый у межах раёну. Калі-ж стацыянарных працаўнікоў будзе мала, дык нават большую частку матар'ялаў прыдзецца сабраць экспэдыцыйным шляхам. Праверка, параўнаньне, клясыфікацыя, апрацоўка і сыстэматызацыя ўсіх матар'ялаў, зразумела, будзе адбівацца ў лябораторыі ўкладальніка і організатара працы. Часамі можна будзе ўжываць анкетны мэтод. Так, калі ўкладальнік ведае, што тыя або іншыя факты мовы павінны быць у раёне, але ні ён, ні памоцнікі яго яшчэ не зафіксавалі іх,—прыдзецца паслаць на месцы пэўную анкетку.

6. *Організацыя працы зьбіраньня і ўкладаньня.* Для кіраваньня дзейнасьцю запішчыкаў і вырашэньня прынцыповых пытаньняў працы можа быць вылучана асобная слоўнікавая камісія. Але адказным за справу зьбіраньня павінен быць адзін працаўнік. Інакш будзе кіраваць і адказваць кожны, пры хібах спасылацца на другіх і ўрэшце праца спыніцца. Такім чынам, у складзе камісіі павінен быць адзін адказны член яе, організатар працы і ўкладальнік слоўніка. Пры ім, на ўсякі выпадак, павінен быць бліжэйшы яго памоцнік, які павінен ведаць усе дэталі справы ня менш дасканала, чым сам укладальнік. Апошні дае справаздачу аб сваёй дзейнасьці праўленьню раённага таварыства краязнаўства, ад імя якога вядзецца праца, а прынцыповыя пытаньні працы павінны абмяркоўвацца на паседжаньнях слоўнікавай камісіі.

Першым заданьнем у справе зьбіраньня слоўнікавага матар'ялу,

бясспрэчна, зьяўляецца ўцягненьне ў яе магчыма большага ліку людзей. Для гэтага, апрача пропаганды працы ўсімі магчымымі способамі, карысна раздаць больш-менш зацікаўленым асобам карткі для запісу слоў. Першае месца ў шэрагу зьбіральнікаў павінны заняць вучні і настаўнікі, якія сваім неабсяжным запасам энэргіі з аднаго боку і трываласьцю ў грамадзкай працы з другога прадстаўляюць найбольш удзячных кандыдатаў у зьбіральнікі. Але вэтэрынар, як ніхто іншы,

Касаво́к, а—

плетеная корзинка, из которой иногда сеют.

Новы касавок прынясі з жытам.

в. Княжыца, Пальмінскага сс. М. Івановіч.



№ 2. Узор карткі з малюнкам рэчы, якую называе слова.

лепш можа запісаць назвы адносна лячэньня жывёл, тэхнік—шляхоў і будовы, коопэратар—гандлю, доктар—народнай мэдыцыны, рыбалоў—рыб і лову іх, паляўнічы—зьвяроў і паляваньня і г. д. Такім чынам кожны пісьменны чалавек бяз усякіх цяжкасьцяй для сябе можа прынесьці вялікую карысьць справе ўкладаньня слоўніка. Зразумела, тутака, як нідзе больш у іншай краязнаўчай дзейнасьці, павінен быць цалкам захованы прынцып добравольнасьці. Побач з ажыцьцяўленьнем гэтага прынцыпу неабходна рэгістраваць самую малую працу памоцнікаў і пасьля паказаць яе, калі справа будзе скончана. У даным выпадку ніяк нельга абмежавацца паказаньнем агульнага ліку памоцнікаў, або абагульненьнем іх пад назву камісія ці пад., а трэба будзе

пералічыць прозьвішчы. Толькі тады можна разьлічваць на чыю-небудзь працу, калі даны працаўнік будзе паказвацца ўласьнікам яе. На ўсім працягу працы трэба весьці інструктаваньне зьбіральнікаў і галоўным чынам паказам, а не расказам.

Пры ўкладальніку павінна існаваць група найбольш зацікаўленых асоб, якую можна назваць падкамісіяй разборкі матар'ялаў. Спачатку гэтая група павінна азнаёміцца з этнографічнай літаратурай і фольклёрам данага краю і выпісаць адтуль найбольш цікавыя словы. Гэта патрэбна ў якасьці контрольных даных для таго, каб праверыць ці сустракаюцца яны ў сучаснай мове данага раёну, як яны зараз вымаўляюцца, ці не зьмяніўся зьмест іх і г. д. Інакш гэтыя словы могуць быць прапушчаны пры зьбіраньні слоўніка. У якасьці орыентовачнага падсобніку варта карыстацца агульнабеларускім слоўнікам, слоўнікам Насовіча і краёвымі слоўнікамі. Калі зьбярэцца пэўны лік матар'ялаў, гэтая падкамісія і займецца разборкай іх па альфабэту, параўнаньнем і да т. п. пад непасрэдным кіраўніцтвам укладальніка. У мэтах падтрыманьня грамадзкай увагі, трэба кругабежна інформаваць друк і ўстановы і організацыі аб ходзе справы.

7. *Папярэдняя праца да зьбіраньня слоўніка.* Першаю працаю зьбіраньня і ўкладаньня слоўніка павінна зьявіцца дасканалае азнаямленьне з формальнаю часткаю мовы: асаблівасьцямі вымаўленьня паасобных гукаў, характарыстыкаю формаў слова і словаўтварэньня і сынтаксычнымі асаблівасьцямі мовы. Інакш будуць няўхільнымі памылкі ў запісах слоў для слоўніка. З мэтаю ажыцьцяўленьня гэтага трэба запоўніць адну-дзьве програмы для зьбіраньня асаблівасьцяй беларускіх гаворак і гаворак пераходных да суседніх моваў, укладзеныя П. Бузуком і С. Некрашэвічам. Калі-ж раён па сваёй мове мае некалькі гаворак, дык і тры-чатыры. Азнаёміўшыся такім чынам з моўнымі асаблівасьцямі свайго раёну і маючы іх зафіксаванымі пад рукамі, можна прыступіць уласна да запісу слоўнікавых матар'ялаў.

8. *Тэхніка зьбіраньня слоўніка.* На сучасным узроўні краязнаўчай дзейнасьці лічыцца немагчымым фіксаваць якія-б то ні было матар'ялы ў сшытку. Тым больш гэта адносіцца да зьбіраньня слоўнікавых матар'ялаў. Мясцовыя словы трэба запісваць на картках, пажадана калянай паперы, памерам у 1/8 звычайнага аркуша. Меншага памеру можа не хапіць для запісу ўсіх даных адносна слова, а большыя—нязручны. Пісаць на картках можна толькі з аднаго боку. Пісьмо лепш за ўсё разьмяшчаць трымаючы картку кароткімі бакамі ўніз і ўгору. У верхнім левым рагу карткі пішацца і падкрэсьліваецца мясцовае слова, абавязкова з паказаньнем націску і ў такім вымаўленьні, як пачута, пад ім—пераклад яго паруску, або апісаньне таго, што яно азначае. Паколькі слова мае значэньне толькі ў контэксьце фразы, пастолькі неабходна далей, пачынаючы з абзацу, напісаць сказ, у якім слова пачута. Калі данае слова мае яшчэ адно адценьне ў вымаўленьні,—трэба запісаць яго на другой картцы з гэтым адценьнем. Пасьля сказу ў дужках трэба напісаць назву вёскі і сельсавету, дзе пачута слова; калі слова рэдкае, дык пажадана адзначыць ад каго слова пачута і яго ўзрост. Пасьля гэтых даных, чытэльна, як і ўсе даныя карткі, трэба напісаць сваё імя і прозьвішча. Без паказаньня і вёскі і прозьвішча запішчыка запіс ня мае ніякай вартасьці. Гэтыя да-

ныя зьяўляюцца, так кажучы, пашпартам слова: яны сьведчаць адкуль яно і хто яго чуў.

Іменьнікі калі зьяўляюцца першым словам на картцы—пішуцца ў назоўным склоне, а дзеясловы ў неазначальным ладзе. Для іменьнікаў мужчынскага роду велімі пажадана паказаць побач з першым словам на картцы канчатак слова ў родным склоне для данай мясцовасьці. Калі слова азначае расьліну або жывёлу ці хваробу—пажадана побач з рускай назвай яго даць лацінскую.

Вѐка—
крышка.

Векам закрыў ваду ў дзешцы.

в. Сьвяча, Запрудзкага сс. І. Мікалевіч.




Увага; б—века; а—квашня (гл. слова-картку „квашня").

№ 3. Узор карткі з малюнкам частак рэчы, на якую, апрача данай, выпісана яшчэ адна картка, але без малюнку.

У тым выпадку, калі трудна даць пераклад слова паруску ці апісаньне таго, што яно азначае, трэба ўнізе даць хоць-бы прыблізна рысунак яго або фотографію. Нават самы недасканалы малюнак дае большае ўяўленьне аб рэчы, чым самае добрае апісаньне яе. Урэшце, часамі вельмі карысна дадаць на картцы ўнізе-ж самую рэч: лісток, расьлінку, узор тканіны і да т. п., прымацаваўшы яе да карткі палоскамі паперы ці ніткамі. Такія малюнкі, рэчы і інш. непамерна палегчаць працу самой апрацоўкі матар'ялаў укладальнікам; калі рысунак паказвае ня дэталь, а ўсю рэч, дык трэба па лініях да дэталяй яе на-

пісаць назвы іх, а іншыя даныя зьмясьціць на паасобных картках. Наогул кожнае слова і кожнае значэньне яго павінна быць зьмешчана на паасобных картках, так што, напр., слова каса будзе зьмешчана на некалькіх адпаведна значэньням яго, а паняцьце калёсы будзе мець таксама некалькі слоў-картак адпаведна ліку назваў іх. Такім чынам, картка можа мець розны выгляд, што і відаць з даданых да гэтага ўзораў. Як правіла запісваюцца толькі тыя словы, якія можна пачуць у раёне. Калі ёсьць сумненьне запісана гэта слова ці не—трэба яго ўсе-ж запісаць. Лепш мець некалькі картак на адно слова, чым не зарэгістраваць яго; ды розныя фразы на картках будуць вельмі каштоўным фразэолёгічным матар'ялам. Запісваньне слоў пераважна будзе рабіцца ў выбраны для гэтага зьбіральнікам час, але ён заўсёды павінен мець з сабой карткі, каб магчы ў кожную хвіліну зарэгістраваць цікавае слова пачуўшы яго на полі, на рынку, у школе, у больніцы, у сельсавеце і г. д. Ні ў якай справе краязнаўца не павінен спадзявацца на памяць. Яго чулае вуха і зоркае вока павінны лавіць факты, а рука фіксаваць іх у відзе запісу, рысунку, фотографіі, магчыма больш протокольна, не дазваляючы руцэ рабіць зьмен.

9. *Выбар майстра слоў.* Словы трэба запісваць ад усіх насельнікаў бяз выключэньня і ўсе, якія можна пачуць, апрача відавочна рускіх, польскіх, жыдоўскіх і г. д., калі яны не ўвайшлі, як раўнапраўныя з іншымі, у мову раёну. Калі-ж яны прыняты апошняй, то і іх трэба зарэгістраваць. У першую чаргу, зразумела, запішчык можа запісваць словы ад самога сябе, калі ён добра ведае мову раёну. Справа ў тым, што *толькі тады запіс каштоўны, калі ён перадае слова і сказ без усякіх зьмен супроць таго, як пачута, а не па правапісу.* Таму карысна з агульнай масы людзей выбраць таго, ад каго пажадана запісваць словы, як мы яго называем, майстра слоў, з такім разьлікам, каб вымаўленьне яго і мова наогул былі найбольш уласьцівымі для мовы раёну. Такіх об'ектаў свае сталае працы трэба шукаць пераважна сярод старых жанчын, дзяцей і старых мужчын. Выбраўшы з іх сабе майстра слоў, трэба пазнаёміць яго з заданьнямі ўкладаньня слоўніка, значэньнем ажыцьцяўленьня іх і заахвоціць да дапамогі. З свайго боку запішчык павінен пазнаёміцца з сваім об'ектам і запісаць яго кароткую біографію, да якой пажадана дадаць фотографію або рысунак яго. Гэтую біографічную даведку трэба перадаць разам з словамі гэтага майстра ўкладальніку слоўніка. Праца майстра, які дае словы, ня менш важная за працу запішчыка, які іх запісвае, і таксама павінна быць адзначана. Да таго, весткі аб майстру асьвятляюць увесь яго слоўнікавы матар'ял.

Добра пазнаёміўшыся запішчык і майстар прыступаюць да працы, паклаўшы ў асновы яе якую-небудзь зьяву. Бяруць, напр., хату і запісваюць усе словы адносна будаваньня яе, назвы датычныя яе знадворку і з сярэдзіны і г. д. Такім чынам, майстар дае весткі, а запішчык іх запісвае, прычым ёсьць поўная магчымасьць высьветліць усякае спрэчнае пытаньне і словы будуць самыя пэўныя, быццам іх даў сам часта няпісьменны селянін, але дасканалы знаўца мовы свайго раёну; няпэўных перакладаў ці азначэньняў запішчык павінен ухіляцца.

Зразумела, побач з гэтаю сыстэматычнаю працаю запішчык павінен весьці і выпадковы запіс цікавых слоў, дзе-б ён іх ні пачуў і

ўжо без біографічных даведак, якія карысны пры вялікім ліку слоў ад майстра.

10. *Програма зьбіраньня слоўніка.* Запісваць трэба ўсе словы, якія толькі можна пачуць. Таму програма можа мець толькі орыентовачны характар. Але яна значна дапамагае ў працы, напамінаючы якія-ж словы трэба запісваць, а таксама палягчаючы магчымасьць падзелу працы паміж запішчыкамі. Програму можна ўзяць з вядомай

Казéлец, а, у —

лютик едкий. Ranunkulus bulbosus L.

На пожні расьцець казелец, але ўлетку яго ніхто ня есь.

х. Кузьміно, Сахноўскага сс. Н. Залатарэвіч.



№ 4. Узор карткі з прымацаванай да яе палоскамі паперы расьлінай, якую слова называе.

„інструкцыі для зьбіраньня слоўніка-тэрмінолёгічнага матар‘ялу“ з некаторымі зьменамі:

I. *Назвы і тэрміны, якія азначаюць розныя зьявы, прадметы і процэсы ў жыцьці прыроды і чалавека:* 1) нябесных сьвяціл і зьяў, якія знаходзяцца ў сувязі з іх чыннасьцю (зор і сузор‘яў, комет, квадраў месяцу, зацьменьняў сонца і месяцу і г. д.);

2) розных зьяў у паветры; станаў паветра, азначэньняў цяпла і холаду, пагоды і непагоды, вятроў, хмар, дажджоў, сьнягоў, грому, маланкі, адлігі і да т. п.;

3) фізычных процэсаў у прыродзе; процэсаў, якія адбываюцца

пры награваньні і астуджваньні, пад уплывам ціску і расьцягваньня і г. д.; хэмічных процэсаў (гніцьцё, розныя фэрмэнтацыі і г. д.);

4) формаў земнай паверхні і процэсаў, якія адбываюцца ў сувязі з яе зьменай (шчыліны, апаўзаньне і да т. п.); гор, узгоркаў, далін, яроў; наземных (ручай, рэчка, багна, возера) і падземных (крыніца) вод; берагоў, выспаў, заток і інш.; лесу; частак усяго пералічанага;

5) розных земных парод і пластоў, іх формы і пабудовы; мінэраляў і мэталяў; розных капалень і выкапняў; розных скамянеласьцяй;

6) розных расьлін (дрэвы, кусты, травы, кветкі, ягады, грыбы, сарнякі, лекавыя расьліны кораньплодаў: бульбы і да т. п.) і частак іх (корань, сьцябло, ліст, кара, насеньне і да т. п.); зьяў з жыцьця расьлін (красаваньне, выплываньне і да т. п.);

7) агульныя назвы для жывёл: худоба, быдла, гаўяда і да т. п. і розных жывёл (зьвяры, хатнія жывёлы, птушкі, рыбы, гады, казяўкі і інш.); часьцін цела жывёл (морда, сківіца, вантробы, хвост, кіпці і г. д.);

8) часьцін цела чалавека і процэсаў, што адбываюцца ў розных органах (мазгі, тулава, вока; дыханьне, страваваньне, псыхічныя процэсы і г. д.);

9) назвы, якімі азначаюцца фізычныя, моральныя і разумовыя асаблівасьці чалавека (дылда=вялікага ўзросту; мудазвон=балбатун; махір=лаўкач і г. д.);

10) розных нацыянальнасьцяй, а таксама пляменных і мясцовых груп (цыганы, маскаль, лях, мазур, пінчук, віленчук і г. д.);

11) хаты і іншых відаў будоўлі (стадола, восець, сьвіран і г. д.). Назвы складаных часьцін будоўлі (страха, шчыт балька і г. д.);

12) хатніх прылад; назвы мэблі ды прылад для ежы, адпачынку, мыцьця і г. д.;

13) адзежы і абутку; назвы матэрый самаробных і купленых;

14) розных напояў і страў;

15) рамёстваў і тэхнічных вырабаў; струмэнтаў, рэчаў і спосабаў вырабу (кросны, ступа, млын; алейніцтва, гутніцтва і г. д.);

16) земляробскіх работ, прылад і машын; спосабаў вырабу зямлі і сыстэм земляробства; кавалкаў зямлі; платоў і г. д; меры зямлі;

17) прылады, якія ўжываюцца пры паляваньні і рыбных ловах; (пастка, таптуха, венцер, вуда і г. д.) і спосабы паляўніцтва (аблава, засада і г. д.);

18) заняткаў, зьвязаных з гадоўляй жывёлы (малачарства, сьвінарства, пчалярства, канавальства і г. д.);

19) назвы, што ўжываюцца ў лясной гаспадарцы;

20) прылад і матар'ялаў асьвятленьня і апалу;

21) датычныя да вайны; назвы відаў зброі (стрэльба, кулямёт і г. д.); назвы аддзелаў войска і вайсковых пасад;

22) якімі азначаюцца шляхі зносін—сухаземныя і вадзяныя; назвы спосабаў і прылад язды, плаваньня і г. д.;

23) якія ўжываюцца пры абмене і гандлі; месцаў гандлю (кірмаш, рынак, крама і г. д.); відаў гандлярства. Адзінкі мер. Назвы монэт;

24) назвы для азначэньня паселішчаў (горад, вёска, хутар, засьценак і г. д.); назвы відаў вуліцы, плошчаў і г. д.;

25) сьвятаў; рэчаў забабонаў і культу (шаптуха, залом, капліца, абраз, прошча і г. д.); назвы, якія ўжываюцца для азначэньня помнікаў мінулага (курган, замчышча і г. д.);

26) назвы, якія ўжываюцца пры вясельлі, вясельных абрадаў ды рэчаў; асоб, датычных да вясельля;

27) назвы рэчаў ды абрадаў, якія ўжываюцца пры радзінах і хрэсьбінах;

28) назвы, якія ўжываюцца пры пахаваньні. Назвы відаў сьмерці; могілак;

Набіванка— полотно с белыми узорами по цветному, чаще синему, полю.

Будзім шыць катанку з етага кавалку набіванкі.



в. Альшанікі, Чашніцкага сс. С. Плаўнік.

№ 5. Узор карткі з прымацаваным да яе ніткамі кавалкам тканіны, якую слова называе.

29) назвы сваяцтва і сяброўства;

30) назвы розных профэсій і заняткаў; улады і службовых асоб; грамядзянскіх станаў (селянін, пан і г. д.);

31) юрыдычных паняцьцяў (спадчына, злачынства, забойства, крадзеж, вязень і г. д.);

32) рэчаў да гадаваньня і выхаваньня; калыскі; гульні ды цацкі; назвы, што ўжываюцца да школы і асьветных устаноў;

33) назвы, датычныя да мэдыцыны і знахарства; хвароб і лекаў людзей і жывёл;

34) году ды месяцаў; назвы, якімі азначаецца падзел сутак і нагогул часу;

35) назвы, датычныя да вуснае народнае творчасьці, літаратуры і мастацтва (драўлянае разьбярства, вышыўкі і тканіна, кераміка, музыка ды сьпевы, танцы ды гульні);

II. *Іменныя прыметнікі:* 1) прыметнікі, створаныя ад пералічаных у папярэдняй часьці праграмы назваў (напр., сонечны, рэчны, насенны, расьлінны і г. д.);

2) прыметнікі, якія азначаюць пэўныя якасьці ўласьцівасьці прадметаў (напр., вялікі, бальшы, брыдкі, благі, добры і г. д.). Прыметнікі, якія ўжываюцца для азначэньня колераў (блакітны, чырвоны, бурачковы і г. д.);

3) прыметнікі, якія ўжываюцца для азначэньня прасторавых адносін, сваятцва, прыязьні і інш. (напр., блізкі, далёкі, родны, чужы і г. д);

4) створаныя ад такіх прыметнікаў прыслоўі.

III. *Дзеясловы закончанага і незакончанага трываньня і створаныя ад іх дзеяпрыметнікі і дзеяпрыслоўі:* 1) дзеясловы, якія азначаюць чыннасьць розных прадметаў і зьяў прыроды, паказаных у разьдзеле першым праграмы;

2) дзеясловы, якія азначаюць фізычныя і псыхічныя процэсы і дзеі людзей і жывёл (напр., хадзіць, дыхаць, мысьліць, крычаць, есьці і г. д.);

3) дзеясловы, якія азначаюць зьмены ў стане прадметаў жывой і няжывой прыроды (напр., бальшэць, расьці, хварэць і г. д.);

4) дзеясловы, якімі азначаюцца ўзаемаадносіны паміж людзьмі (напр., сябраваць, змагацца, кахацца, падлягаць і г. д.);

5) дзеясловы безасабовага значэньня (напр., днее, сьвітае і г. д.);

IV. *Лічэбнікі і займеньнікі,* калі яны з фонэтычнага або морфолёгічнага боку адрозьніваюцца ад прынятых у літаратурнай мове. Лічэбныя прыслоўі (напр., двойчы, тройчы і г. д.).

V. *Прыслоўі:* шмат, багата, многа, ці мала, ладна, ладнага і да т. п.; вельмі, дужа, пэўне, канешне і да т. п.; мала або кусок; цёнгля, заўсёды і г. д.

VI. *Прыйменьнікі* ў розных значэньнях з паказаньнем склону, якім яны кіруюць.

VII. *Злучнікі* ў розных значэньнях.

VIII. *Выклічнікі,* якія ўжываюцца для выразу страху, гневу, радасьці, смутку, зьдзіўленьня і інш., а таксама гукапераймальныя словы (напр., „ваў“, „гам“, „бом-бім“ і г. д.).

IX. *Спэцыяльныя выразы ды звароты,* уласьцівыя беларускай мове (напр., „дыхту даць“, „ушчаміць хвост“, „уткнуць язык“, „кудою“ і г. д.).

X. Рознага роду *лаянкі, прывітаньні, пажаданьні* і г. д.,—як паасобныя словы, так і звароты і г. д.

XI. *Чужаземныя словы,* паколькі яны адбілі на сабе ўплыў з боку беларускай мовы (напр., „дакляраваць“, „камуністыя“ і г. д.).

XII. Наагул чужаземныя словы, якія знаходзяць сабе ўжываньне ў вуснах простага народу.

XIII. Асобна запісваюцца: 1) уласныя іменьні і прозьвішчы людзей (поўныя і зьмяншальныя, у ласкальным і зьневажальным сэнсе); 2) мянушкі людзей і жывёл; 3) назвы паселішча раёну.

Калі запішчыкаў шмат, програму можна падзяліць паміж імі з тым, каб яны, адначасна з запісам слоў наогул, асаблівую ўвагу звярачвалі на зьбіраньне слоў адпаведна пэўнаму разьдзелу програмы.

Пе́рнік, а—
пряник.

Прінясі пернікаў с кірмашу.

в. Тухінка, Вяжышчанскага сс. Ю. Бібіла.



Увага: фотографія Пракоф'ева; на ёй паказаны ня ўсе віды нашых пернікаў.

№ 6. Узор карткі з прымацаванай да яе фотографіяй рэчаў, якія слова называе; калі фотографія зроблена не запішчыкам— трэба паказаць гэта ва ўвазе, як і іншыя весткі, якія запішчык лічыць патрэбным адзначыць; фотографія прыклейваецца да карткі толькі адным краем сваім, каб яе лёгка можна было адняць, што можа запатрабавацца для клішэ і інш.

Можна нават даваць адзін пункт програмы некальким запішчыкам і не баяцца, што адно слова будзе запісана некалькі раз. Запісы гэтыя палегчаць праверку і адбор лепшых матар'ялаў, а таксама прыдадуцца для розных дадатковых прац.

Слоўнік павінен быць поўным і таму трэба запісваць і агульнавядомыя словы. Дзіўна-б было, напр., калі-б у мове данага раёну не знашлося-б такіх вядомых слоў, як рукі, нага і інш., а былі-б зарэгістраваны толькі такія рэдкія азначэньні іх, як цапалы, ходалы

і інш., якія бязумоўна не падмяняюць першых, бо маюць зусім іншае адценьне.

11. *Укладаньне слоўніка.* Па меры таго, як слоўнікавы матар'ял будзе паступаць ад запісчыкаў, памянёная вышэй падкамісія пад кіраўніцтвам укладальніка павінна правяраць і парадкаваць яго па першай літары альфабэту. Для палягчэньня працы пажадана мець шафку з скрыначкамі па ліку літар альфабэту, памерам пярэдняй сьценкі ў прынятую картку, па якіх і раскладваецца матар'ял. Калі слоў-картак будзе назапашаны значны лік, можна будзе прыступіць да далейшай апрацоўкі іх, параўняньняў картак і выпісваньня з іх слоў у самы слоўнік. Апошні павінен пісацца таксама на картках. Першае слова, як і фраза ў даным выпадку павінна пісацца так, як пачута, а ня згодна правапісу, з адзначэньнем націску і падкрэсьліванца. Гэта захаваньне дыялектолёгічных асаблівасьцяй слова і фразы, г. зн. таго вымаўленьня, якое пачута і робіць слоўнік каштоўным для навукі.

Мал. 6.
**Слоўнікавыя зарысоўкі Сяргеенкі** *).

Назоўнікі пішуцца ў назоўным склоне, а дзеясловы — у неазначальнай форме.

Пасьля першага слова для іменьнікаў мужчынскага роду паказваецца канчатак, а калі іх два ў данай мясцовасьці, то і абодвы. Усьлед за канчаткам трэба ставіць граматычнае значэньне яго ў скарачэньнях: *м.*—мужчынскі род іменьнікаў, *ж.*—жаночы род іменьнікаў, *н.*—ніякі род іменьнікаў, *аг.*—агульны род іменьнікаў, *зб.*—зборнае імя, *дзс.*—дзеяслоў, *зл.*—злучнік, *прм.*—прыйменьнік, *вкл.*—выкліч-

*) 1: а—сашчо, б—каромысла, в—рагач, г—вобжы, д—лемяшы, е—наполак, ж—распорыца, з—зямлянкі, і—гвозд; 2: а—тапарышча, б—абух, в—пятка, г—нос; 3: сядзёлка: а—пучок, б—кроўня, в—падпруга, г—войлак; 4: каток: а—шына, б—абод, в—вось, г—загваздка, д—рэхвы, е—трубка (ступіца), ж—утулак, з—сьпіцы; 5: каса: а—каса, б—пятка, в—нос, г—палатно, д—мыльніца, е—касаўё; 6: калёсы: а—заднія каткі, б—пярэднія, в—трайня, г—цягі, д—пярэдняя падушка, е—задняя падушка, ж—вось, з—загваздка, і—атоса, к—шворын, л—бюндзюк, м—загваздка; 7: аграблі: а—аграбеліна (цаўё), б—брусок, в—зуб'і; 8: а—клешчы, б—хамуціна, в—супонь, г—кроўня, д—зайцы, е—гужы, ж—войлак; 9: крыша ў латок: а—гняты, б—латок, в—упорыца, г—капанікі (крукі); 10: а—вільчык, б—ветрыніцы, в—зьвес, г—вакеньніца, д—вугал; 11: а—граднічак, б—заложачнік, в—палонік; 12: сані: а—іцьвіна, б—галоўкі, в—падрэз, г—аглабля, д—полаз, е—вязьзя, ж—капылы, з—намізьлі (намарзьні), і—заверта; 13: вакно: а—балонкі, б—прыталкі, в—рама, г—касік, д—падакеньніцы; 14: стол: а—стальніца, б—ногі, в—столік, г—сунушка; 15: мяліца: а—паз, б—шпунт, в—біла, г—ногі.

Увага: зарысоўкі зьмешчаны не паасобку, а разам на аднэй табліцы, як і Палескага, бо гэта абходзіцца танней. Рабіліся яны для Віцебскага краёвага слоўніка і паказаны тут як узор мясцовай працы.

нік. Пры словах, якія ўжываюцца толькі ў адзіночным ці множным ліку, род не азначаецца, а толькі ставіцца *ім.*—іменьнік. Пасьля слоў, азначаючых лаянку, ставіцца *лнк.*—лаянка.

За працяжнікам пасьля граматычнага азначэньня ставіцца пераклад слова паруску, ці апісаньне таго, што называе слова, а таксама,




Мал. 7.

**Слоўнікавыя зарысоўкі Палескага** *).

*) 1—лемягі; 2—сьліга; 3—печ: а—каптур, б—чало, в—пазыха, г—загнет, д—пячурка, е—падзагнет, ж—падпечка; 4—шыбы; 5—полаг; 6—кросна: а—ставы, б—падпряжная калода, в—ўсноў, г—чыноўкі, д—каткі, е—бёрда, ж—набельніца, з—падпалаценная калода, і—панажы, к—чаўнок і нітка з зеву; 7—ніт: а—каткі, б—ніт, в—панажы; 8—каток; 9—бёрда; 10-набельніца: а—ўсноў, б—набельніца, в—бёрда; 11—планка: а—каўнерь, б—планка; 12—палікі; 13—юрок; 14—рубіха; 15—гебель; 16—калбан (штучнае гняздо); 17: а—латушка, б—юшка; 18—селядцоўка; 19—крэсалька (уключына); 20—чубаты; 21—шухля; 22—ряшка; 25—перавясло; 26—калбан; 27—абза (правы верхні кант); 28: а—сцэржэнь, б—абалона; 29—укрёмаватая бярно; 30—рука: а—нокаць, б—кіпці, в—бальшэй паліць, г—длі бальшога, д—сярэдні, е—каля мядзінага ж—мядзіны, з—пясь, і—ладонь, вышэй і правей і—запясь.

у патрэбных выпадках, лацінская назва. Калі ў слове-картцы ёсьць малюнак—яго пажадана перанесьці і сюды. Асаблівую ўвагу трэба аддаць праверцы і правільнаму перакладу слова паруску і палацінску, ці апісаньню таго, што яно называе. Калі няма ўпэўненасьці ў правільнасьці іх,—трэба зьвярнуцца за дапамогай к спэцыялістым, паказаўшы ім расьліну, карткі і інш. матар'ялы.

Пасьля перакладу ці сьпісаньня ставіцца сказ, у якім слова пачута. У дакладным фонэтычным запісе, бяз усякіх зьмен, пажадана, каб сказ быў поўны і паясьняў тое слова, да якога ён адносіцца. Калі ёсьць некалькі сказаў з адценьнямі вымаўленьня ці значэньня слова—трэба прывесьці іх адпаведна на паасобных картках. Пасьля кожнага сказу ў дужках трэба паказаць вёску і сельсавет, дзе слова пачута. Такім чынам слова-картка слоўніка можа мець наступны выгляд:

*Аба́бак,* а, *м.*—березовик, черный гриб. Дзяўчына знашла ў лесе добры ababак (Сахны, Пустынскага сс.).

Калі ў картках дапішчыкаў на адно слова прыходзіцца некалькі картак з рознымі значэньнямі слова—трэба выпісаць іх на адну картку слоўніка з роўнымі значэньнямі пасьля першага слова:

*Абадне́ць, дзс.* 1) провести весь день. Ён абаднеў, позна паехаўшы (Асіпова, Халамерскага сс.); 2) наступіть дню. Ужо абаднела (Запрудзьдзе, Гарывецкага сс.).

Некалькі слоў з адным значэньнем таксама выпісваюцца на адну картку, калі іх месца ў альфабэтным парадку ідзе адно за другім.

*Анагдо̀вень, анагдо́вінь, анагды́сь, анада́сь, анэгды*—на днях, недавно. Анагдовень ён быў тут (Прыстоі, Іваньскага сс.). Анагдовінь быў дошч (Смалярня, Горкаўскага сс.). Анагдысь якрас таксама было зь ім (Шасьцівалокі, Мядзенскага сс.). Анадась мы яго бачылі (Мірaслаўка, Брадзецкага сс.). Анегды мы былі ў хаце-чытальні (Шыркі, Замастоцкага сс.).

Апрацованыя такім чынам і ўкладзеныя ў альфабэтным парадку словы з прадмовай і інш. і будуць зьяўляцца слоўнікам мовы раёну. Карткі запішчыкаў, перапіска і інш. складаюць архіў слоўніка і павінны захоўвацца ў раённым таварыстве краязнаўства.

12. *Рэалізаваньне працы ўкладаньня слоўніка.* Укладзены слоўнік мовы раёну павінен стаць здабыткам шырокага кола дасьледчыкаў і вучоных. Для гэтага трэба апісаньне яго паведаміць навуковым установам БССР і замежным, дакладна паказаўшы месца знахаджэньня яго. Трымаць яго лепш за ўсё ў шафцы з шуфлядкамі на кожную літару ў раённым таварыстве краязнаўства ці музэі яго, у магчыма больш бясьпечным ад пажару месцы.

Зразумела лепш будзе, калі слоўнік можна будзе надрукаваць часткова або поўнасьцю. Асаблівыя словы і іх адценьні ад агульнабеларускай мовы можна выдаць як слоўнік провінцыялізмаў раёну, але лепш выдаць слоўнік поўнасьцю, на дапамогу чаму бясспрэчна пойдзе раённы выканаўчы камітэт, калі праца будзе зроблена.

---

# Аб вывучэньні гісторыі асьветы ў Беларусі.

У бягучым акадэмічным годзе ў складзе Інстытуту Беларускае Культуры заснавана спэцыяльная Камісія для вывучэньня гісторыі асьветы ў Беларусі. Гэтае пытаньне, ня гледзячы на яго выключнае значэньне ў агульнай беларускай гісторыі, да гэтага часу вельмі слаба вывучана. Асьвета ў Беларусі, багатая сваім гістарычным мінулым і складаная з некалькіх сваеадменных эпох,—ня мае яшчэ агульнага курсу і чакае сваіх дасьледчыкаў.

Пад гісторыяй асьветы ў Беларусі мы разумеем ня толькі гісторыю асьветы школьнай,—ніжэйшай, сярэдняй, спэцыяльнай і вышэйшай,—але і гісторыю ўсіх іншых асьветных устаноў,—як напр.: бібліотэк, навуковых і іншых культурных таварыстваў, друкарань, кніжных выдавецтваў, часопісаў, газэт, кнігарань і г. д. Усё тое, што спрыяла разьвіцьцю асьветы на Беларусі, *незалежна ад мовы і напрамку,*—зьяўляецца прадметам досьледаў і прац Камісіі.

Гісторыя асьветы ў Беларусі не вывучалася з тых прычын, што Беларусь да Кастрычнікавае рэволюцыі ня была самастойным об'ектам навуковага досьледу. Расійская і польская навука, якая адзіна магла разьвівацца і дасьледваць гэтую тэму, ня ставіла яе ў цэнтры сваёй увагі, як і сама Беларусь не стаяла ў цэнтры расійскага, або польскага культурнага жыцьця. Толькі беларуская навука, наш самастойны навуковы досьлед мае магчымасьць і абавязак гэта зрабіць.

Культурнае мінулае Беларусі пакінула па сабе шмат помнікаў, захавала шмат успамінаў,—але яны параскіданы і не апрацаваны. Запіскі, заметкі, архіўныя докумэнты, цікавыя рукапісы, фотографіі і інш. аб школах, бібліотэках, кнігарнях і друкарнях на Беларусі—твораць той культурны фонд, які ў значнай меры павінен дапоўніць вядомыя літаратурныя крыніцы. Сабраць, сыстэматызаваць і апрацаваць гэты фонд,—складае абавязак Камісіі Гісторыі Асьветы.

У зьвязку з усім вылажаным, Камісія зьвяртаецца да таварышоў культурнікаў, якія працуюць на ніве асьветы БССР, да ўсіх настаўнікаў, краязнаўцаў, працаўнікоў бібліотэк, архіваў, кнігарань, да старых журналістых і г. д. з заклікам прыняць бліжэйшы ўдзел у працах Камісіі.

Супрацоўніцтва таварышоў можа выразіцца ў наступных формах:

1) У форме самастойнай навуковай распрацоўкі тых ці іншых тэм.

2) У корэспондэнцыях на імя Камісіі Асьветы аб паасобных пытаньнях.

3) У форме зьбіраньня адпаведных матар'ялаў.

Камісія ведае, што на мясцох ёсьць нямала працаўнікоў, якія маглі-б навукова працаваць над самымі разнастайнымі пытаньнямі з гісторыі асьветы Беларусі. У даным выпадку перш за ўсё трэба зьвярнуць увагу на тыя тэмы, якія бліжэй за ўсё датычаць данае мясцовасьці, данае школы, бібліотэкі і інш., і аб якіх на месцы знаходзяцца патрэбныя матар'ялы. Затым важны працы аб гэткіх установах, якіх няма, якія працавалі раней і аб якіх захаваліся ўспаміны і архівы.

У гэтай галіне Камісіі важна мець працы і паасобныя корэспондэнцыі па наступнай прыблізнай програме:

а) Калі заснавалася школа, бібліотэка, навуковае таварыства, архіў, друкарня, часопіс і г. д.

б) На аснове чаго яна зьявілася: закон, адміністрацыйнае распараджэньне, грамадзкая або прыватная ініцыятыва.

в) Як праходзіла яе дзейнасьць (характэрныя пэрыоды і моманты).

г) Хто асабіста больш адзначыўся ў дзейнасьці данае ўстановы,— біографічныя даныя, характарыстыка эпохі акаляючага грамадзянства, сям'і і інш.

д) Калі ўстанова закрылася і з якой прычыны.

е) Якія засталіся докумэнтальныя матар'ялы аб яе дзейнасьці (кнігі, здымкі, адозвы, газэтныя выразкі, лісты і інш.).

Што датыча акрэсьленага пляну зьбіраньня матар'алаў па гісторыі асьветы на Беларусі, дык гэткі плян даць, зразумела, трудна. Аднак пэўную програму, якая можа палегчыць і сыстэматызаваць работу, Камісія лічыць карысным прадугледзець.

### I. Гісторыя школьнай асьветы на Беларусі.

а) *Стара-беларускі* пэрыод, ці, як прынята называць у расійскай літаратуры „западно-русский", (па польску „ruski", „litewski"), пачынаючы ад XI-XII ст. і далей канчаючы XVIII ст. Матар'ялы, якія датычаць гэтага аграмаднага гістарычнага пэрыоду, складаюцца амаль выключна з тых летапісных і архіўных даных, якія ўжо вядомы. Трудна думаць, каб на мясцох, у сучаснай БССР, маглі быць знойдзены новыя даныя. Аднак магчыма, што некаторыя матар'ялы (граматы, правілы, старыя запісы і інш.), асабліва адносна пазьнейшых этапаў паасобных стара-беларускіх школ, могуць быць знойдзены.

б) Пэрыод *уніяцкіх* школ, якія часам залічаюць да „западно-русских", але якія павінны выдзяляцца ў асобную групу дзеля іх асаблівай нацыянальна-політычнай прыроды. Пэрыод пачатку XVII ст. да ліквідацыі уніі ў 1839 годзе і пазьней, паколькі пасьля офіцыйнага акту ліквідацыі уніі захаваліся так зв. „упорствующие", „апорныя", уніяты, якія ўтрымлівалі свае ўласныя школы. Аб гэтым пэрыодзе на Беларусі павінны захавацца і докумэнтальныя даныя і ўспаміны. Паколькі ва уніяцкай асьвеце, распаўсюджанай пераважна сярод сярэдніх і ніжэйшых станаў, найбольш захаваліся беларускія нацыянальныя асаблівасьці, даныя аб гэтых школах, нават самыя дробныя, зьяўляюцца вельмі каштоўнымі.

в) пэрыод *польскай* школы на Беларусі, ці бліжэй кажучы, асьветы на польскай мове. Пачынаецца заснаваньнем першых лаціна-каталіцкіх школ у Вільні для літвіноў у XIV ст. і канчаецца апошнімі польскімі школамі на Беларусі перад вайной і рэволюцыяй. Вялізарны полёнізатарскі ўплыў польскай асьветы на Беларусі заўважаецца асабліва ў першай палове XIX ст., калі яна абхапіла шырэйшыя колы грамадзянства, г. зн. у пэрыод, аб якім таксама на мясцох павінны захавацца докумэнты, запісы ўспаміны.

г) пэрыод *расійскай* школы на Беларусі, пачынаючы ад „главных и малых народных училищ в белорусских губерниях для народа, а не для шляхты", якія былі ўведзены Кацярынай II у 1789 г. і канчаючы апошнімі гадамі прад рэволюцыяй. Матар'ялаў аб гэтым пэрыодзе па-

вінна быць таксама шмат, прычым, трэба думаць, ёсьць матар'ял і недасьледваны.

д) пэрыод *беларускай* школы,—як на Беларусі, так і па-за яе межамі,—зьяўляецца выключна важным і цікавым. Тут трэба з асаблівай дакладнасьцю зьбіраць ня толькі пісьмовыя матар'ялы (прыватныя лісты, запісы, картачкі і інш.) але, што асабліва важна, вусныя ўспаміны і даведкі.

е) апошнюю групу складаюць матар'ялы аб *працоўных савецкіх школах* усіх тыпаў у межах БССР з часу заснаваньня Савецкай улады.

Даныя аб школьнай асьвеце ў Беларусі датычаць як школ існаваўшых офіцыяльна, — урадавых і прыватных, так і школ, якія існавалі неофіцыяльна і нелегальна.

Да гэтае-ж рубрыкі — „гісторыя школы на Беларусі" — павінны быць залічаны і ўсялякага роду курсы, школкі, пэрыодычныя, ці пасобныя лекцыі і г. д.

## II. Гісторыя культурных устаноў.

Сюды трэба залічыць матар'ялы, якія датычаць:

а) розных навуковых, літаратурных, мастацкіх, краязнаўчых і інш. таварыстваў, гурткоў, клюбаў і г. д.,—па тых-жа пэрыодах, якія зазначаны вышэй аб школах;

б) бібліотэк на Беларусі і неаформленых у бібліотэкі кніжных зборах, кнігасховах, архівах—прыватных і офіцыяльных;

в) кніжных выдавецтваў у Беларусі, куды залічаюцца выданьні кніг, альбомаў, журналаў, газэт, — друкаваных, літаграфаваных і пісаных.

г) друкарань—урадавых і прыватных, легальных і нелегальных.

## III. Біографіі выдатных культурных і асьветных дзеячоў.

Гэтыя матар'ялы датычаць ня толькі тых дзеячоў на ніве культуры і асьветы ў Беларусі, дзейнасьць якіх з погляду беларускай культуры была *дадатнай*, але і тых, дзейнасьць якіх была *адмоўнай*, нэгатыўнай, (актыўныя прынцыповыя русыфікатары і полёнізатары).

Усе працы і пералічаныя матар'ялы (пажадана самыя орыгіналы) просьба накіроўваць на адрас Камісіі *(Менск, Інбелкульт, Рэволюцыйная вул. № 21, Камісія Гісторыі Асьветы).* У выпадку, калі гэткая высылка немагчыма, просьба паведаміць аб гэтым Камісію дзеля таго, каб яна магла вырашыць пытаньне аб зьняцьці з іх копій, фото-здымкаў і выпісак.

Докумэнты і інш. матар'ялы, друкаваныя і пісаныя нячытэльна, а таксама на чужаземных мовах (грэцкай, лацінскай нямецкай, французкай і інш.) Камісія перкладае ўласнымі сіламі.

Працы больш значныя будуць унесены Камісіяй на разгляд адпаведных органаў Інбелкульту з мэтай іх надрукаваньня на агульных умовах.

*Камісія па вывучэньні гісторыі асьветы ў Беларусі.*

# МЕНСКІЯ СТАРАЖЫТНАСЬЦІ.

## Менскі замак у 1783 г.




*(Да артыкулу „Стары Менск“, стар. 11).*

### ТЛУМАЧЭНЬНЕ ДА ПЛЯНУ.

*Вал абмяжоўвае замчышча. У старажытныя часы па валу стаяў „астрог“ (паркан). На месцах перарываў былі вежы з брамамі. Балота з усходу і поўдню і нізкі луг („Падзамча“ і „Пяцінка“), які быў штучна заліты вадою з става млына, рабілі замак няпрыступным.*

*Пад №№ 1—11 вызначаны пляцы хрысьціянскія і пад №№ 12—41 яўрэйскія. Паміж пляцамі 14 і 25 мітрапалітанская царква. Пляцы бяз нумароў—мітрапалітанскія. Незабудованая плошча замку вельмі нізкая, мокрая і нават часткай пакрытая вадой.*

# ХРОНІКА.

## Да вывучэньня ўдзелу хатніх рамёстваў у выстаўках 1927 г.

Камісія па вывучэньні хатніх рамёстваў пры Інстытуце Беларускае Культуры паставіла сваёй мэтай вывучыць пытаньне аб удзеле хатніх рамёстваў у сельска-гаспадарчых выстаўках 1927 г. Пытаньне досыць цікавае. Вывучэньне яго можа даць каштоўны матар'ял для вывучэньня сутнасьці нашае хатняе прамысловасьці. Каштоўнасьць данага досьледу павялічваецца дзякуючы таму, што ён можа абхапіць усю нашу краіну, бо выстаўкі былі організаваны, за (надзвычайна) рэдкім выключэньнем, у кожным раёне, а ў шэрагу раёнаў было організавана нават па дзьве выстаўкі.

У мэтах вывучэньня данага пытаньня і былі разасланы па ўсіх раёнах БССР для запаўненьня анкеты. Анкеты накіраваны раённым краязнаўчым організацыям. Частка організацый уважліва аднеслася да пастаўленага ім заданьня і выканала яго з посьпехам. У гэтым сэнсе неабходна адзначыць Лупалаўскае раённае краязнаўчае таварыства Магілеўскай акругі, якое прыслала надзвычайна каштоўны матар'ял, і Асіпавіцкае т-ва Бабруйскай акругі.

Ад часу рассылкі анкет ужо прайшоў досыць значны тэрмін. Мы чакалі, што за гэты тэрмін нам будуць зьвернуты ўсе анкеты; тым больш, што запаўненьне анкет не выклікае асаблівых цяжкасьцяй. У архіве кожнага выставачнага камітэту бязумоўна ёсьць усе неабходныя весткі. Трэба толькі зьвярнуцца да зямельнага аддзелу раённага выканаўчага камітэту, дзе дадуць усе належныя ўказаньні наконт архіваў выставачных камітэтаў.

Шчырая просьба да ўсіх раённых краязнаўчых таварыстваў, якія яшчэ не даслалі запоўненых анкет, прыняць усе крокі да таго, каб як-мага хутчэй іх запоўніць і зьвярнуць у Цэнтральнае Бюро Краязнаўства. Неабходна зазначыць, што недасылка анкеты па якім-небудзь раёне зробіць значную пралíну ў працы. У такім выпадку вывады ўжо ня могуць мець агульнага характару і ня могуць пашырацца на ўсю БССР.

Анкеты паступаюць увесь час, але тэмп іх паступленьня ня надта шпаркі. На першым месцы па звароту анкет ідуць Бабруйская і Аршанская акругі. Горш справа з Полацкай і Магілеўскай. І зусім дрэнна з Менскай і Гомельскай.

## 2-ая нарада архіўных працаўнікоў БССР.

19—24 сьнежня 1927 г. у г. Менску адбылася 2-ая нарада архіўных працаўнікоў, скліканая Цэнтральным Архіўным Кіраўніцтвам БССР. У нарадзе прынялі ўдзел усе загадчыкі акруговых (апрача Гомеля) і гістарычных архіваў, а таксама Цэнтральнага Архіву Кастрычнікавай рэволюцыі і працаўнікі Архіўнага Кіраўніцтва. Усяго прадстаўнікоў архіўных устаноў на нарадзе было 12 асоб, з якіх 6 прыехаўшых з акруговых архіваў і 6 Менскіх архіваў. Апрача гэтага ў нарадзе прынялі ўдзел: ад Інбелкульту— Я. Дыла і Д. Даўгяла, ад Гістпарту ЦК КП(б)Б— Н. Шапавалаў, ад Ц. Б. Краязнаўства— М. Касьпяровіч, ад Бел. Дзярж. Музэю—А. Ляўданскі і прадстаўнік ад Бел. Дзярж. Бібліотэкі.

Для абгаворваньня на нарадзе былі запрапанованы і прыняты нарадай наступныя пытаньні: 1. Дзейнасьць Цэнтрархіву БССР і яго чарговыя заданьні (дакл. М. Мялешка); 2. Справаздачы: а) Цэнтральнага Архіву Кастрычнікавай рэволюцыі; б) Акруговых Архіваў і в) гістарычных Архіваў; 3. Сувязь архіўных устаноў з савецкімі і профсаюзнымі ўстановамі (дакл. Г. Баброўскі); 4. Ажыцьцяўленьне пастановы ЦВК і СНК БССР ад 28 мая 1927 году аб Адзіным Дзяржаўным Архіўным Фондзе БССР. (дакл. М. Вахаеў); 5. Сувязь Цэнтрархіву БССР з Гіспартаддзеламі ЦК КП(б.)Б, краязнаўчымі таварыствамі, музэямі і бібліотэкамі (даклад. М. Мялешка) і 6. Бягучыя справы.

Па першым дакладу дакладчык М. Мя-

лешка спыніўся на тых умовах, пры якіх ішла праца па ўпарадкаваньні беларускіх архіваў да гэтага часу, на дасягненьнях, якія мае Цэнтрархіў БССР, на структуры архіўных установ і разьмежаваньні архіўнага матар'ялу па гэтых установах, і на чарговых заданьнях у справе архіўнага будаўніцтва БССР.

Дакладчык ад Цэнтральнага Архіву Кастрычнікавай рэволюцыі т. Г. Баброўскі застанавіўся каротка на гісторыі ўтварэньня Ц. А. К. Р., на праробленай гэтым архівам працы. Дакладчык адзначыў, што ў гэты архіў, апрача спраў Цэнтральных Савецкіх Установ і Наркаматаў, павінны будуць паступіць больш каштоўныя докумэнты з усёй БССР, якія адносяцца да Кастрычніка на Беларусі; ілюстрацыйны матяр'ял; кіно-здымкі мясцовай хронікі і адзін экзэмпляр афіцыйна-справачных і ведамсьцьвенных выданьняў з усёй БССР.

Далей рабілі даклады аб дзейнасьці і стане Акруговых Архіваў іх загадчыкі: Менскага Акруговага архіву—т. Я. Макась; Бабруйскага—т. П. Тараймовіч; Мазырскага—Я. Калодкін; Полацкага—т. Я. Дадон і Аршанскага П. Вашкевіч. Пры гэтым дакладчыкі адзначалі цяжкія ўмовы працы архіваў на мясцох. З мясцовага бюджэту на архівы адпускаюцца мізэрныя сродкі. Выказвалася некаторымі дакладчыкамі (Мазыр, Бабруйск, Ворша), каб дарэволюцыйныя архівы з акругоў зараз не перавозіліся ў Гістарычныя архівы, бо над імі працуюць мясцовыя дасьледчыкі.

Па пляну Цэнтральнага Архіўнага Кіраўніцтва ўсе дарэволюцыйныя архіўныя матар'ялы павіннны захоўвацца ў трох гістарычных архівах. З чатырнаццаці былых паветаў архівы царскіх устаноў ужо перавезены ў адпаведныя гістарычныя архівы і толькі архівы васьмі былых паветаў яшчэ знаходзяцца ў Акруговых архівах.

Дакладчыкі ад Гістарычных Архіваў: Менскага—М. Вахаеў, Магілеўскага—І. Гаранін і Віцебскага—Э. Лейланд пазнаёмілі нараду з становішчам гэтых архіваў, матар'ямі, якія там захоўваюцца, мэтодамі працы і пэрспэктывамі далейшае працы.

Апрача гэтых справаздачных дакладаў былі прачытаны яшчэ тры даклады па спэцыяльных пытаньнях (паказаны вышэй), якія ў розных кірунках хіліліся да аднае мэты — гэта поўнае заваладаньне ўсяго архіўнага матар'ялу БССР архіўнымі ўстановамі. Па гэтых дакладах абгаварваліся розныя прыёмы і мэтоды з архіўнай практыкі, як: устанаўленьне контролю над архівамі савецкіх устаноў, падліку, парадку прыёму, організацыі раённых архіваў, аб атрыманьні царкоўных архіваў і інш.

У бягучых справах было разгледжана толькі адно пытаньне—аб архіўнай тэрмінолёгіі, па якім было вынесена пажаданьне аб хутчэйшым укладаньні такой тэрмінолёгіі. Тэрмінолёгія будзе складацца колектыўна ўсімі загадчыкамі архіваў.

Нарадай была вылучана камісія для прагляду і ўстанаўленьня аднолькавых формаў падліку архіваў, кніг, картак, апісаньняў і да т. п. а гэтак сама і справаздачнасьці мясцовых архіваў перад Ц. А. К. Вынікі працы Камісіі былі прыняты нарадай.

У выніку дакладнага і падрабязнага абгаварэньня ўсіх пастаўленых пытаньняў, нарада прыняла адпаведныя рэзолюцыі. У рэзолюцыях констатаваліся і замацоўваліся пэўныя дасягненьні ў справе архіўнага будаўніцтва БССР і адзначаны тыя мерапрыемствы і патрэбы, якія павінны быць улічаны архіўнымі ўстановамі ў сваёй далейшай працы. Так у рэзолюцыях адзначалася неабходнасьць паглыбленьня працы архіваў у напрамку аўладаньня ўсімі архіўнымі матар'яламі БССР, аднясеньня працы архіваў да ліку шкоднай для здароўя, устанаўленьня большага контролю над архівамі ўстаноў, якія павінны паступаць у Ц. А. К. Р. і Акруговыя Архівы. Дзеля гэтага прызнана неабходным правесьці архіўным установам нарады і гутаркі з супрацоўнікамі ўстаноў, якія наглядаюць за ведамсьцьвеннымі архівамі, спыніць залежваньне архіваў ва ўстановах, разьмяжоўваць архіўныя матар'ялы пры здачы архівам на катэгорыі і г. д.

Гэтак сама было прызнана неабходным усе архівы на раёне нізавога савецкага апарату, як сельсавету, местачковых саветаў і г. д. концэнтраваць у Акрархіў праз Раённы архіў і ўстанавіць больш уважлівы нагляд за іх захованасьцю да здачы Акрархівам. Устанавіць у далейшым больш спрыяючыя ўмовы ў архівах БССР для дасьледчыкаў, падтрымліваць і ўзмацняць сувязь з Гіспартаддзеламі ЦК КП(б.)Б, Краязнаўнымі організацыямі, музэямі, бібліотэкамі і інш. падобнымі ўстановамі. Павясьці сыстэматычную працу Акруговым Архівам па концэнтрацыі царкоўных архіваў у контакце з мясцовымі сельсаветамі. Аб патрэбе ўзмацненьня сродкаў для архіваў. Узгодніць перадачу архіўнага матар'ялу з музэяў і бібліотэк архіўным установам і г. д.

Як бачым, 2-ая нарада архіўных працаўнікоў БССР правяла значную працу па падрахунку сваіх дасягненьняў і ўстанаўленьні напрамку ў далейшай дзейнасьці беларускіх архіваў.

Прысутны.

## Год працы Горацкага Раённага Таварыства Краязнаўства.

У справаздачным годзе спаўняецца тры гады існаваньня т-ва, заснаванага 7-га сьнежня 1924 году.

Пры канцы трэцяга году свайго існаваньня

ня т-ва, сумесна з навуковым таварыствам па вывучэньні Беларусі, выдала краязнаўчы зборьнік „Апісаньне Горацкага раёну" (1—284 стар.), які дае малюнак прыроды, гаспадаркі, гісторыі і быту раёну.

Незалежна ад гэтага члены таварыства ў справаздачным годзе надрукавалі працы і ў іншых выданьнях.

На працягу справаздачнага году ў т-ве было шэсьць (6) сходаў, на якіх зроблены наступныя навуковыя даклады:

1) Проф. *Салаўёў.* Фаўна Горацкага раёну.

2) Проф. *Салаўёў.* Да пытаньня аб біолёгіі і філёгэніі лістаногіх ракаў.

3) Проф. *Салаўёў.* Шкодныя шасьціножкі ў Горках у 1927 годзе.

Апрача арыгінальных навуковых прац зроблены наступныя даклады:

1) *Альбіцкі М. В.* Праца дзіцячых сельска-гаспадарчых клюбаў у Горацкім раёне.

2) Проф. *Салаўёў.* Праца 2-га Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду.

Былі далей зроблены даклады ў навуковым таварыстве:

1) Проф. *Васількоў.* Аб гэрбарным матар'яле беларускіх расьлін.

2) Проф. *Салаўёў.* Фаўна Беларусі.

3) „ „ Навукова - музэйная праца катэдры зоолёгіі Беларускай С.-Г. Акадэміі.

4) *Навіцкая Н. К.* Біолёгічныя досьледы на акадэмічным ставе.

5) *Сьвірскі.* Біолёгічныя назіраньні над



4) *Фэдарака Б. Я.* Нарыс паляўнічай гаспадаркі Горацкага раёну.

5) *Фэдарака Б. Я.* Да біолёгіі гіля ў Горках.

6) *Несьцярчук Г. Я.* Лясы Горацкага раёну.

7) *Несьцярчук Г. Я.* Шкоднікі дрэўных парод у лясох Горацкага раёну.

8) *Навіцкая Н. К.* Назіраньні над харком (тхаром) у зоолёгічным габінэце проф. Салаўёва.

9) *Шастакоў А. В.* Аб уродзтве майскага жука ў Горках.

10) *Сьвірскі Я. Н.* Аб распаўсюджваньні Bellis perennis у Горках.

11) *Савельеў А. Ц.* Якасьць пасяўнога матар'ялу Горацкага раёну.

галубамі.

6) *Караткоў.* Грунтовыя воды Горацкага раёну.

Між іншым проф. *Салаўёў* прымаў удзел у працах 2-га Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду і зрабіў даклад аб фэнолёгічных назіраньнях. Проф. *Люнгерсгаўзэн* прымаў удзел у працы Аршанскай акруговай краязнаўчай конфэрэнцыі. Проф. *Салаўёў* зрабіў паведамленьне аб краязнаўчым зьезьдзе на сходзе настаўнікаў Горацкага раёну, інструктаваў загадчыкаў дзіцячымі с.-г. клюбамі, комсамольцаў і студэнтаў па пытаньнях краязнаўчай працы, а таксама зрабіў даклад праўленьню Беларускай С.-Г. Акадэміі аб т-ве. Праўленьне Акадэміі пастанавіла наступнае: „Адзначыць значную працу, праведзеную краязнаўчым т-вам за апошнія гады і ў да-

лейшым лічыць неабходным аказваць усялякае садзейнічаньне і ўвагу з боку Акадэміі:

1) Уцягнуць больш значны слой навуковых працаўнікоў, студэнцтва, рабочых і служачых, дзеля чаго прасіць т-ва паставіць адпаведныя даклады на агульных сходах навуковых працаўнікоў, студэнцтва, рабочых і служачых.

2) Прасіць РВК высьветліць пытаньне аб мажлівым прадстаўленьні памяшканьня для краязнаўчага музэю ў горадзе.

3) Прасіць краязнаўчае т-ва зьмяшчаць у Запісках Акадэміі пэрыодычныя агляды заслуханых дакладаў.

4) Прасіць Бюро сэкцыі навуковых працаўнікоў і Профком дапамагаць у распаўсюджваньні часоп. „Наш Край".

5) Прапанаваць гаспадарчай частцы больш уважліва адносіцца да запатрабаваньняў краязнаўчага т-ва.

Далей т-ва прымала ўдзел ў сьвяткаваньні дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі, у юбілейнай выстаўцы, у ўрачыстым пасяджэньні навуковага таварыства і ў адчыненьні сялянскай нядзельнай школы, якую называюць сялянскім унівэрсытэтам.

Асабістая праца членаў т-ва выяўляецца таксама ў наступным: вясковы настаўнік *Котаў* даставіў т-ву падрабязнае апісаньне вясельнага абраду ў вёсцы Куртасах Горацкага раёну. Настаўнік *Іскраў* сабраў 13 народных песень і кароткае апісаньне вяселья ў Слабадзе ў Горках. Настаўніца *Садоўнікава* даставіла апісаньне хрэсьбін у вёсцы Чашніках. Студэнт *Фэдарака* даў рукапіс „Сьпіс птушак ваколіц вёскі Чарняўкі (Барысаўшчына)", дзе ім зарэгістравана 82 віды. Студэнты—*Фэдарака, Сьвірскі, Вятчынкін* і *Манжалей* даставілі фэнолёгічныя назіраньні, якія ўвашлі ў сводку ЦБК Беларусі. Студэнт *Маркаў* даставіў запісаныя ім 53 песьні Бабруйшчыны.

У справаздачным годзе т-ва атрымала ад ЦБК Беларусі бясплатна 13 кніг на суму 9 руб. і 85 коп., якія перададзены ў карыстаньне настаўнікам раёну. Таксама бясплатна былі атрыманы ад ЦБК „Працы" краязнаўчага зьезду, часопіс „Наш Край" і шэраг анкет і інструкцый. Цэнтральнае Бюро Краязнаўства РСФСР дасылала т-ву бясплатна свае „Известия".

Нядаўна знойдзены ў вёсцы Паўзухі часткі шкілета насарога. Т-ва склала географічную карту раёну.

У склад т-ва ў пачатку справаздачнага году ўваходзіла на правох членаў профэсароў і выкладчыкаў 31 асоба, студэнтаў—10 і настаўнікаў—37. Апрача гэтага ў склад праўленьня т-ва былі ўведзены прадстаўнікі Райкому Компартыі, Райвыканкому Саветаў, Мясцкому прафсаюзу працасьветы, РайАНА і Комсамолу. На працягу году падалі заявы аб прыёме ў т-ва яшчэ 17 студэнтаў, з ліку якіх 4 рабфакаўцы, і апрача таго 2 навуковыя працаўнікі. З вясны, па загаду ЦБК, была праведзена перарэгістрацыя сяброў. Перарэгістравалася такім чынам 46 асоб, з якіх 5 профэсароў акадэміі, 17 выкладчыкаў і супрацоўнікаў і 24 студэнты. Сярод падаўшых анкеты значыцца 2 сябры Компартыі, 5 кандыдатаў партыі і 2 комсамольцы, а ўсяго 9 асоб, што складае лічбу каля 2%. Рэшта—беспартыйныя. Па нацыянальным складу: 25 беларусаў, 8 палякаў, 6 расійцаў, 3 яўрэі, 2 немцы, 1 украінец і 1 латыш; гэта значыць, што больш чым 54% членаў складаюць беларусы і менш паловы прыходзіцца на апошнія шэсьць нацыянальнасьцяй. Па соцыяльным складу: 26 сялян, 8 рабочых і 12 іншых; гэта значыць, што амаль 60% сялян і больш 17% рабочых. У адносінах да профсаюзаў мы маем: 22 працасьветы, 17 зямлі і лесу, 1 дрэваапрацовачнік, 1 будаўнічы, 1 чыгуначнік (4 не паказаны).

Наогул, трэба ўсё-ж адзначыць, што фактычна працуе ў т-ве невялічкі актыў. Сувязь з дзяржаўнымі, партыйнымі, савецкімі і профэсыйнымі ўстановамі ў раёне ёсьць. Але зразумела, што пры існуючым зараз малым актыве вельмі пажадана, каб гэтая сувязь пашыралася і ўзмацнялася таму, што канцовай мэтай зьяўляецца ўтварэньне *масавай* раённай організацыі з *масавай* краязнаўчай працай нават усяго насельніцтва.

Урэшце трэба адзначыць, што заснаваная з пачатку году пры т-ве сэкцыя школьнага краязнаўства сваёй працы ня выявіла. Тое самае можна сказаць і пра польскую сэкцыю. Яўрэйская сэкцыя распаўсюдзіла па раёне кніжку Вэйнгера з мэтай зьбіраньня слоўнікавага матар'ялу, прыцягнула да працы старшых вучняў яўрэйскай сямігодкі і даставіла ў Інбелкульт 45 цікавых слоў—провінцыялізмаў раёну. Сувявь т-ва з шэфграмадай па працы ў вёсцы ня дала належных вынікаў. Толькі загадчыкі дзіцячых сельска-гаспадарчых клюбаў пачалі дастаўляць ў т-ва запоўненыя анкеты, згодна прапановам т-ва. Важнейшай чарговай задачай будучага году зьяўляецца організацыя мясцовага краязнаўчага раённага музэю.

Што датычыцца да пляну працы справаздачнага году, дык ён наогул выкананы. Засталіся нявыкананымі некаторыя даручэньні ЦБК, як напрыклад, запаўненьне анкет па вывучэньні хатніх рамёстваў, па вывучэньні бюджэту часу селяніна, па складаньні монографіі паселішча, па падарожніцкай справе. Неабходна прыняць крокі да пашырэньня падпіскі на „Наш Край".

На будучы год у т-ве ўжо ёсьць заявы на даклады для агульных сходаў, як напрыклад: проф. *Люнгерсгаўзэн*—„Выкапень насарога ў Горацкім раёне"; *Дзянісаў*—„Мхі Чапялінскага балота"; проф. *Ключароў*—„Кісьліннасьць глеб (рН) у Горацкім раё-

не"; *Цытовіч*—„Рух 1863 году" і іншыя.

Трэба спадзявацца, што ў будучым годзе ўдзел у краязнаўчай працы прымуць больш шырокія колы Горацкага грамадзянства і справа яшчэ шпарчэй пасунецца наперад.

Проф. П. Салаўёў.

## Смалявіцкае Раённае Краязнаўчае Т-ва.

*(Менск. акр.).*

Смалявіцкае Краязнаўчае Т-ва організавана групай настаўнікаў Смаляв. сямігодкі 25 сакавіка 1925 г. Пры сваім утварэньні Т-ва мела 27 сяброў.

Праца Т-ва да гэтага часу валася ў наступных напрамках:

1. Пашырэньне сярод настаўніцтва і насельніцтва ідэй краязнаўства, а разам з гэтым, і ўцягненьне ў дзейнасьць Т-ва неахопленых ім таварышоў. У гэтых мэтах было пастаўлена 14 дакладаў на адпаведныя тэмы. Даклады ставіліся галоўным чынам на настаўніцкіх конфэрэнцыях. Праведзена 5 агульных сходаў сяброў т-ва і 3 краязнаўчыя конфэрэнцыі. Лік сяброў т-ва к гэтаму часу ўзрос з 27 асоб да 119. Галоўную масу сяброў т-ва складаюць настаўнікі і служачыя—62, потым—вучнёўская моладзь—38 і сялянства—19.

У 1925 годзе пры Смаляв. сямігодцы організаваны вучнёўскі краязнаўчы гурток, у якім у гэты час маецца 160 сябр.

2. Вывучэньне раёну. а) *У прыродна-географічным кірунку* вялося вывучэньне флёры раёну,—у выніку чаго, складзены зельнік у 375 відаў. Асаблівая ўвага была зьвернута на пустазельле (складзен асобны зельнік пустазельля ў 75 відаў, а таксама—і колекцыя насеньня пустазельля—50 відаў). Вывучэньне фаўны раёну покуль-што абмежавалася бадай толькі прадстаўнікамі шасьціножак: складзена колекцыя найбольш часта сустракаемых жукоў—54 віды і колекцыя матылёў—32 віды. Сабрана маленькая колекцыя чарапашынак мяккуноў (mollusca)—8 відаў. У выніку вывучэньня (далёка няпоўнага) мінэральных багацьцяў раёну стварылася асобная колекцыя, у якой прадстаўлена 22 віды розных мінэраляў і рухляк. парод.

З вясны 1925 году школьным краязнаўчым гуртком вядуцца сталыя фэнолёгічныя нагляданьні. Усе матар'ялы па фэннагляданьнях зданы ў ЦБК (за выключ. матар'ялаў 1927 г.).

Складзена карта раёну (схэматычная). Пры ўкладаньні карты былі выкарыстаны адпаведныя карты старых выданьняў, а таксама і паасобныя ўказаньні сяброў т-ва.

в) *У грамадзка-экономічным кірунку.* Запоўнены і адасланы ў ЦБК дзьве анкеты па вывучэньні промыслаў і хатніх рамёстваў Беларусі; сабрана каля 750 слоў (адасл. у ЦБК); запісана звыш 70 песень, баек, замоў і інш.,—частка апошніх адаслана ў ЦБК, а частка знаходзіцца на месцы. Складаецца колекцыя тканін і рукадзельляў, якія вырабляюцца ў раёне.

с) *З культурна-гістарычнага боку* вывучэньне раёну вялося слаба. Галоўнай прычынай гэтаму зьяўляецца адсутнасьць сталага кіраўніка ў данай галіне. Да гэтага часу толькі распачалася рэгістрацыя помнікаў старасьветчыны. Сабрана 13 шт. каменных прылад (кліны, тапары і інш.) старабытнага чалавека. Складзена досыць багатая колекцыя (да 180 паас.) грошай, якія былі ў звароце на Беларусі, а таксама і розных „крэдытак" часоў грамадзянскай вайны (Урангеля, Дзянікіна, Калчака і інш).

3. Вялося запаўненьне анкет, багата дасылаемых ЦБК і Акр. Краязн. Т-вам. Запоўнена і адаслана 1 монографія паселішч (Верхмень),—заканчываецца запаўненьне і другой аналёгічн. монографіі (в. Юрава).

Краязнаўчы музэй. У сакавіку 1927 году організаваны мясцовы краязнаўчы музэй, у якім зьмешчаны пералічаныя вышэй матар'ялы. Частка апошніх, з прычыны недахопу сродкаў, да гэтага часу не монтыравана (колекц. мінэраляў і грошай). Маецца ў музэі маленькая колекцыя чучал птушак і сысуноў (8 шт.), апрацаваная мясцовымі сіламі.

Свайго памяшканьня музэй да гэтага часу ня мае,—і толькі дзякуючы значнай пэдагогічнай каштоўнасьці некаторых колекцый (прыродазн.), ён адшукаў сябе месца ў сьценах Смалявіцкай бел. сямігодкі.

Бібліотэка т-ва надзвычайна бедная. Ёсьць усяго 25 кніжак і комплект часопісу „Наш Край".

Сродкі т-ва складаюцца з адпушчаных РВК 35 руб. на абсталяваньне музэю і сяброўскіх узносаў (апошніх да гэтага часу паступіла 10 р. 15 к.).

14/XI—27 г. В. К.

## Краязнаўчая праца ў школах.

*Сеньненскі раён.*

Вучнямі Запрудзкай школы пад кіраўніцтвам настаўніцы Ангеліны Сянкевіч праблена надзвычайна вялікая краязнаўчая праца. Падлічана колькасьць насельнасьці школьнага раёну, колькасьць пісьменных і няпісьменных, вучняў усіх школ сельсавету, розных відаў жывёлы, колькасьць гаспадарак, якія сеюць кармавыя травы, колькасьць гаспадарак, якія кормяць жывёлу па норме і колькасьць гаспадарак з цёплымі і сьветлымі хлявамі. Апрача таго па ўсім сельсавеце падлічаны помнікі старасьветчыны, шматпольныя гаспадаркі, рэчкі, вазёры і ба-

лоты. Вучнямі сабрана колекцыя ўзораў мясцовых тканін у ліку звыш 500. Укладзена колекцыя парод нашага лесу і саду. Сама настаўніца сабрала колекцыю птушыных яек 46 відаў птушак, прычым ад кожнага віду бралася 1 гняздо; папаўненьне колекцыі працягваецца. Яна-ж сабрала гэрбары з больш як 200 расьлін. Усё гэта сьведчыць, што краязнаўства ў Запрудзкай школе ажыцьцяўляецца правільна.

*Любаньскі раён.*

Загадчыкам Ямінскай школы Зубеней пры дапамозе вучняў сабрана колекцыя магазынных кіёў-бірак, да якой укладзена тлумачэньне. Вядуцца рэгулярныя назіраньні над атмосфэрнымі ападкамі, хмарнасьцю, напрамкам і сілай ветру і інш. мэтэоролёгічнымі зьявамі. Адзін вучань вядзе штодзённыя назіраньні над рухам вады ў мясцовай канаве. Пашырэньню працы перашкаджае адсутнасьць тэрмомэтра і баромэтра.

*Віцебскі раён.*

Вучнямі Навікоўскай школы зроблены падлік хатняй скаціны і птушак, сельска-гаспадарчых прылад і разьмеркаваньне зямлі па ўгодзьдзях у школьным раёне. Кожная вёска школьнага раёну дасьледвалася вучнямі гэтай вёскі пад кіраўніцтвам вучня 3 групы. Лічбы, якія характарызуюць культурны стан школьнага раёну, вучні ўзялі з матар'ялу перапісу, які рабіў іх настаўнік М. Касьцючэнка. Атрыманы матар'ял паслужыў для вывучэньня вучнямі свайго раёну, які ўжо троху вядомы чытачом часопісу па артыкулу аб пачатку краязнаўчай працы Навікоўскай школай (№ 12, 1926 г.). Вучні вядуць сыстэматычныя нагляданьні над станам надвор'я. Імі зроблены дакладныя апісаньні працоўных процэсаў нашых саматужнікаў: шаўца, валеншчыка і аўчыньніка. Пасьля атрыманьня віцебскага краёвага слоўніка вучні пачалі запісваць новыя словы, якіх няма ў слоўніку.

## Гурткі краязнаўства ў школах.

*Лёзьненскі раён.*

Пры беларускай і яўрэйскай сямігодках у м. Лёзна, а таксама ў школах на раёне організаваліся гурткі краязнаўства. Яны пераважна працуюць над запісам фольклёру і зборам археолёгічных матар'ялаў для раённага музэю. У апошнім ужо ёсьць каменныя прылады, зубы тура і маманта, узоры тканін, каменьні з ракавінамі і інш. Вядуцца мэтэоролёгічныя нагляданьні і ўкладаецца карта раёну; атрыманы ад вучняў апісаньні некаторых курганоў раёну.

*Клічаўскі раён.*

Пры Клічаўскай сямігодцы 1-га сьнежня 1927 г. заснаваўся гурток краязнаўства, у якім ёсьць 76 сяброў. Прачытаны наступныя даклады: 1) „Мэты і заданьні краязнаўства наогул" і 2) „Школа і вучань у краязнаўчай справе". Пытаньні краязнаўства асьвятляюцца ў насьценнай газэце школы. Гуртком выпісваецца часопіс „Наш Край". Членамі гуртка сабрана 359 назваў паселішч і урочышч, весткі аб прыродных фарбах і прыступлена да вывучэньня мястэчка Клічава.

## Гурткі краязнаўства.

*Быхаўскі раён.*

Макранскі гурток краязнаўства з посьпехам працуе пад кіраўніцтвам М. Караленкі з 22 лістапада 25 году ў складзе 20 членаў. Гуртком абсьледвана тэрыторыя сельсавету з боку яго мінулага і апісаны курганы і гістарычны роў (Караленкам і Абрамовічам), прамысловасьць, гісторыя (Красьніцкі), сабраны ўзоры мясцовых тканін вышываньня і вязаньня, колекцыя грошай, якія мелі зварот у нашым краі, абсьледвана 5 тыповых гаспадарак і напісана монографія сяла Мокрага. Апрача ўсяго гэтага вядуцца нагляданьні над мэтэоролёгічнымі зьявамі, зьбіраюцца мясцовыя словы і запісваецца фольклёр. Гурток організаваў свой музэй, у якім ёсьць каменныя прылады, кнігі і документы, узоры мясцовай агнятрывалай гліны і жалезнай руды, грашовыя колекцыі і інш.

## Раённыя таварыствы краязнаўства.

*Клімавіцкі раён.*

Клімавіцкім раённым таварыствам краязнаўства абсьледвана тарфавішча каля 40 дзесяцін і адкладаньне фосфарытаў каля 60 дзесяцін, 8 сямействаў баброў, старасьвецкае гарадзішча і могілкі. За гэты час сабрана 42 ўзоры мясцовай тканіны, 13 слоў, запісана каля 500 нумароў фольклёру, апісаны старасьвецкія могілкі на р. Сож і зьняты плян р. Лабжанкі. Праца ў Клімавіцкім раёне, такім чынам, пашыраецца.

*Сьмілавіцкі раён.*

Сьмілавіцкае раённае т-ва краязнаўства пачало зьбіраць раённы музэй, у якім ужо ёсьць колекцыя грошай, рэшткі старасьвецкай зброі, колекцыі мясцовых тканін (100 узораў), рэзьбы па дрэве, карта раёну 1½ вёрснага маштабу і карты лясоў, устаноў і помнікаў старасьветчыны. Запісваецца фоль-

клёр і апісваецца м. Сьмілавічы. Узяты багаты матарʼял з раённай сельска-гаспадарчай выстаўкі. На жаль, у працы прымае ўдзел толькі невялічкі актыў на чале з Шыдлоўскім.

*Тураўскі раён.*

Заснаваны тураўскім т-вам раённы музэй складаецца з 2-х аддзелаў: ботанічнага і археолёгічнага. У музэі ёсьць гэрбары, які складаецца з матарʼялаў, сабраных членамі т-ва і членамі экспэдыцыі т-ва краязнаўства пры Б. Дз. У.. карта археолёгічных помнікаў раёну і археолёгічныя прылады. Т-вам сабрана шмат слоўнікавых матарʼялаў і фольклёру.

## Чашніцкае раённае таварыства краязнаўства.

*(Віцебская акруга).*

Чашніцкае раённае таварыства краязнаўства організавалася ў траўні м-цы 1925 г. У час організацыі ў склад таварыства ўваходзіла 14 член. Краязнаўства ў Чашніцкім раёне было тады зусім новай справай, дзеля чаго і зразумела, што таварыству, як маладой організацыі, прышлося перажыць параўнальна доўгі організацыйны пэрыод, праводзячы адначасова і сваю навукова-дасьледчую працу. Дзякуючы актыўнасьці паасобных членаў і дапамогі з боку вышэйстаячых краязнаўчых організацый і партыйных і савецкіх організацый на месцы, справа краязнаўства ў раёне стала пашырацца як колькасна, так і якасна. Так у сьнежні м-цы 1925 г. у таварыстве ўжо налічвалася 40 членаў. Таксама ў кастрычніку м-цы 1925 г. у краязнаўчую працу было ўцягнута вучнёўства мясцовай школы сямігодкі, якое абʼядналася ў школьны краязнаўчы гурток.

Яшчэ ў пачатку організацыі таварыствам была наладжана сувязь з вышэйстаячымі краязнаўчымі організацыямі: Віцебскім Акруговым Таварыствам Краязнаўства, ЦБК БССР, Інбелкультам і ЦБК РСФСР.

Адначасова была наладжана сувязь і з мясцовымі партыйнымі, савецкімі і профсаюзнымі органамі.

Гэтак-жа была заснавана пры таварыстве краязнаўчая бібліотэка, у якой зараз налічваецца 106 экз. рознай краязнаўчай літаратуры. Частка гэтае літаратуры была прыслана краязнаўчымі організацыямі, а частка здабыта за кошт самога таварыства.

Зараз таварыства мае наступны склад членаў:

а) па партыйнасьці: членаў і кандыдат. КПБ—5, членаў КСМ—4, беспарт.—44.

б) па профэсіі: настаўнікаў—40, палітасьветнікаў—7, агрономаў—1, коопэратараў—1, служачых—2 і сялян—2.

в) па нацыянальнасьці: беларусаў — 50, яўрэяў—2 і расійцаў—1.

г) па полу: мужчын—31, жанчын—22.

Такім чынам у склад таварыства ўваходзіць усяго 53 члены, пераважную большасьць якіх складае настаўніцтва.

У склад праўленьня ўваходзіць 7 асоб, з якіх членаў і кандыд. КПБ—3, беспартыйных—4, беларусаў—7, яўрэяў—1, настаўнікаў—5 і служ.—2.

Паміж членамі праўленьня разьмеркаваны наступныя абавязкі: старшыня, яго намесьнік, сакратар і скарбнік.

Апрача гэтага ў склад школьнага краязнаўчага гуртка пры школе сямігодцы ўваходзіць 35 членаў, з якіх 25 хлопцаў і 10 дзяўчат. У праўленьне ўваходзіць 7 асоб.

Школьны гурток падзяляецца на тры сэкцыі: прыродна-географічную, грамадзка-экономічную і культурна-гістарычную.

Сродкі раённага таварыства складаюцца з уступных узносаў па 10 кап., членскіх узносаў па 5 кап. у месяц і з адлічэньняў ад пастаноўкі спэктакляў членамі таварыства.

Грошы таварыствам затрачваліся на выпіску пэрыодычнай літаратуры, закупку кніг, паперы, на фотографічныя здымкі і інш. Сродкаў у таварыстве далёка не хапае на ўсе патрэбы.

Навукова-дасьледчая праца таварыства вялася ў трох напрамках: прыродна-географічным, грамадзка-экономічнымі і культурна-гістарычным. Праводзілася праца таварыствам як шляхам выкананьня розных даручэньняў вышэйшых краязнаўчых організацый, так і шляхам індывідуальных заданьняў паасобным членам.

За час існаваньня таварыствам праведзена 6 конфэрэнцый і агульных сходаў і 19 пасяджэньняў праўленьня, грунтоўныя пытаньні на якіх ставіліся на наступныя тэмы: 1) Папяровая фабрыка „Чырвоная Зорка", 2) Гаспадарка Мароза „Фатынь", 3) „400-годзьдзе беларускага друку і Васіль Цяпінскі", 4) „Краязнаўства і школа", 5) Чашніцкі канал Бярэзінскай сыстэмы", 6) „Чарговыя заданьні краязнаўства ў установах Наркамасьветы", 7) „Організацыя радзімазнаўчага музэю", 8) „Праца Віцебскага Акруговага Таварыства Краязнаўства", 9) „Праца па краязнаустcompleted ў летні час", 10) Агрономічная праца ў Чашніцкім раёне", 11) „Гісторыя м. Чашнік", 12) „Пачаўская гаспадарка (племянная)", 13) „Усебаковае апісаньне м. Чашнік" і 14) „Гадоўля жывёлы ў Чашніцкім раёне". Частка з пералічаных дакладаў надрукавана, а даклады на тэмы „Гадоўля жывёлы ў Чашніцкім раёне", „Іванская комуна" „Чырвоны Барацьбіт" і „Агрономічная працаў Чашніцкім раёне" яшчэ апрацоўваюцца для друку.

Досыць добра была пастаўлена справа па зьбіраньні слоўнікавых матарʼялаў. Так

у 1926 г. членамі таварыства і школьнага краязнаўчага гуртка было сабрана 2.800 картак-слоў, з іх 750 яўрэйскіх. Усе яны былі адасланы ў Слоўнікавую камісію пры Віцебскім АКРАНА, а таксама ў Слоўнікавую камісію пры Інбелкульце. Сабраныя і апрацаваныя да 900 вусных народных твораў адасланы ў ЦБК. Збор вусных народных твораў і зараз вядзецца з мэтаю выданьня паасобнага зборніка.

Распачатая праца па укладаньні гэрбарыя мясцовых расьлін дала ўжо сталыя вынікі: ёсьць до 200 экз. расьлін.

Школьным краязнаўчым гуртком вядуцца мэтэоролёгічныя і фэнолёгічныя нагляданьні, але тут сустракаюцца значныя перашкоды ў працы дзеля адсутнасьці патрэбных прылад.

Раённым таварыствам праведзена адна, а школьным краязнаўчым гуртком тры краязнаўчыя экскурсіі.

Пры таварыстве ёсьць музэйная сэкцыя, але адсутнасьць якога-б та ні было памяшканьня не дае магчымасьці ёй разгарнуць сваю працу, хоць і ёсьць ужо значная колькасьць экспонатаў, як розныя віды грошай папяровых (да 200 экз.), монэт розных часоў (45 эк.), дыяграмы, фотографічныя здымкі, прылады каменнага веку і інш.

Зараз праўленьнем таварыства паднята пытаньне перад РВК аб набываньні адпаведнага будынку для музэю. Апрача гэтага таварыства вядзе шэраг работ, падлік якім зараз немагчыма яшчэ зрабіць дзеля іх незакончанасьці. Да такіх работ трэба аднесьці вучот помнікаў старасьветчыны і мастацтва, апісаньне паселішч і саматужных промыслаў і збор географічных назваў.

Актуальным чарговым заданьнем таварыства зьяўляецца організацыя гурткоў пры сельсаветах. Хоць у гэтым напрамку і былі зроблены сталыя захады яшчэ ў траўні м-цы мінулага году, але з прычыны летніх вакацый настаўніцтва, якое ў большасьці ўваходзіць у склад таварыства, ажыцьцявіць гэтае мерапрыемства ня прышлося.

Таксама на апошнім пасяджэньні праўленьня вынесена пастанова аб заснаваньні краязнаўчага гуртка пры фабрыцы „Чырвоная Зорка“ і выдзяленьні Іванскага сельсавету для ўсебаковага вывучэньня.

Перашкодамі ў працы таварыства зьяўляецца перагружанасьць членаў таварыства іншай працай, недахоп сродкаў, а гэтак-жа слабая актыўнасьць з боку некаторых членаў.

Ня гледзячы на гэта, таварыства па меры магчымасьці будзе выконваць пастаўленыя перад сабою задачы.

*Х. Іваноў.*

## Краязнаўчы гурток пры Багушэўскай сямігодцы.

*(Аршанск. акругі).*

Гурток утварыўся ў сьнежні 1926 г. У праўленьне ўваходзяць 3 выкладчыкі сямігодкі і 2 вучні. Гурток налічвае 90 вучняў другога концэнтру. У 1926-27 нав. годзе гуртком было зроблена наступнае:

1) запісана 1.232 карткі-словы, якія адасланы акруг. т-ву; 2) сабрана 32 сшыткі народнай творчасьці (адасланы Інбелкульту); 3) сабраны і перасланы ЦБК весткі аб саматужніках раёну, згодна анкет; 4) сабрана шмат монэт і мэдалей, расійскіх і чужаземных, каменных тапароў, этнографіч. матар'ялу (усё перададзена раён. краязн. музэю); 5) вясной пачата складаньне колекцыі птушын. яец; ужо маюцца яйцы 23 птушак; 6) зьбіраліся весткі аб помніках старажытнасьці; 7) сябры гуртка вядуць назіраньні на ўтворанай нядаўна пры сямігодцы мэтэоролёгіч. станцыі.

Заўважалася вялікая заахвочанасьць і зацікаўленасьць вучняў працай. Краязнаўчая літаратура з бібліотэкі раён. т-ва амаль што ўся пастаянна скарыстоўвалася сябрамі гуртка і, наогул, вучнямі. Гурток паспрабаваў нават зьвязацца з ЦБК РСФСР, адкуль яму прыслалі некалькі краязн. кніг. Вялікую карысьць даваў мэтод выкананьня працы „кампаніямі“: на пэўны пэрыод якая-небудзь праца абвяшчалася першачарговай і на ёй концэнтравалася ўся ўвага

З пачаткам навучальнага году праца гуртка зноў аднаўляецца. Улічваючы вопыт мінулага году і атрыманую краязнаўцамі тэорытычную падрыхтоўку (большасьць сяброў чыталі краязн. літаратуру), можна спадзявацца на посьпех працы ў гэтым новуч. годзе.

*П. Кузьняцоў.*

## Справаздача Клічаўскага Раённага Т-ва Краязнаўства.

*(з 1-га студзеня 1927 г. па 1-е студзеня 1928 г.).*

Клічаўскае Раённае Таварыства Краязнаўства ўтварылася 11-га кастрычніка 1925 году і налічвала 52 члены.

На 1-е студзеня 1928 году мае 137 членаў, з якіх 120 мужчын і 17 жанчын.

Па партыйнасьці ўсе члены падзяляюцца на:

а) Членаў і кандыдатаў КПБ—13 чалавек (9,49 проц.);

б) Членаў КСМ—12 чалавек (8,76 проц.) і

в) Беспартыйных—112 чал. (81,75 проц.).

Па нацыянальнасьці члены Таварыства падзяляюцца на:

а) Беларусаў—118 (86,13 проц.);
б) Яўрэяў—12 (8,76 проц.);
в) Палякаў—4 (10,6 проц.);
г) Расійцаў—1 (0,73 проц.);
д) Немцаў—1 (0,73 проц.) і
е) Літоўцаў—1 (0,73 проц.).

Па профэсіі ўсіх членаў можна падзяліць на:

а) Вучняў—76 (55,47 проц.);
б) Настаўнікаў—24 (17,52 проц.);
в) Сялян—15 (10,95 проц.);
г) Рабочых—8 (5,8 проц.);




д) Працаўнікоў сельскіх Саветаў — 7 (5,11 проц.);
е) Канцэлярскіх працаўнікоў — 4 (2,92 проц.);
ж) Саматужнікаў—1 (0,73 проц).;
з) Політасьвет. працаўнікоў — 1 (0,73 проц.); і
і) Агрономаў—1 0,73 проц.).

Галоўны рост членаў Таварыства адбываецца за лік вучняў, апрача таго Таварыства пачынае расьці і за лік рабочых і сялян, чаго раней ня было.

Усёю організацыйна-дасьледчаю працаю Таварыства кіруе Праўленьне ў ліку 5 чалавек, з якіх 4 знаходзяцца ў м. Клічаве, а 1 чал. на раёне. У склад Праўленьня ўваходзяць 1 кандыдат КПБ і 4 беспарт. настаўнікі па профэсіі, беларусы.

Падзелу на сэкцыі і камісіі Таварыства ня мае.

Для больш продукцыйнай працы ўсе члены Таварыства аб'яднаюцца ў гурткі; пры організацыі гурткоў Праўленьне прытрымоўвалася прынцыпу адміністрацыйнага падзелу раёну на сельскія Саветы, такім чынам на сёньнешні дзень Таварыства яднае 6 гурткоў па 6-ці сельскіх саветах і 1 гурток школьны. На тэрыторыі Клічаўскага сельсавету вучнёўскі гурток пры Клічаўскай сямігадовай школе, які налічвае 76 чалавек у тым ліку і 7 дзяучат, і другі гурток—Клічаўскі, у якім 14 чалавек, з іх 2 жанчыны. На тэрыторыі Бацэвіцкага сельсавету—Бацэвіцкі гурток, куды ўваходзіць 15 мужчын і 4 жанчыны, усяго 19 членаў. На тэрыторыі Запольскага сельсавету—Запольскі гурток з 5-ю членамі, з якіх 1 жанчына. У Кабылянскім сельсевеце—Кабылянскі гурток з 38 членамі (1 жанчына). Уладзіміраўскі гурток з 10 членамі (1 жанчына) на тэрыторыі Уладзіміраўскага сельсавету і Максімавіцкі гурток з 5-ю членамі (1 жанчына)—на тэры-

торыі Максімаўскага сельсавету. Па іншых сельскіх саветах зьвестак няма. Актыўнасьцю па сваёй працы з 7-мі гурткоў выдзяляецца вычнёўскі гурток. Іншыя распачынаюць працу.

У той час як да восені 1927 году працавалі адзінкі і то ня ў значнай колькасьці, зараз, пасьля аб'яднаньня членаў Таварыства ў гурткі, актыўнасьць у працы пачынае павялічвацца і ўжо з 137 чалавек зрабілі тую ці іншую працу 43 чалавекі, што складае 31,38 проц.

Для Клічаўскага раёну дасягненьне значнае.

Цеснай сувязі з організацыямі і ўстановамі наладзіць цяжка, бо адсутнічае зацікаўленасьць краязнаўчай справай і прыметны пасыўныя адносіны.

Пасяджэньняў Праўленьня было мала— усяго 6, пасяджэньняў рэвізійнай камісіі ня было, агульных сходаў—1.

Кіраўніцтва ЦБК здавальняючае, з боку Акругової Праўленьня кіраўніцтва за апошнія месяцы няма.

Асноўнымі момантамі працы Таварыства зьяўляюцца: зьбіраньне географічных назваў, дасьледваньне вясковых промыслаў і хатніх рамёстваў, вывучэньне прыродных фарбаў, дасьледваньне санітарна-культурнага стану вёскі, зепаўненьне монографій паселішч і вывучэньне асаблівасьцяй беларускае мовы Клічаўскага раёну. Апроч гэтага вядзецца ўкладаньне карты лясных абшараў раёну, выпраўленьне карты раёну наогул, зьбіраньне зьвестак аб лекавых травах і іх выкарыстоўваньне, нагляданьне над тэмпэратурай паветра—і вывучэньне м. Клічава.

Да гэтага часу зроблена і сабрана наступнае: укладзена карта лясных абшараў Клічаўскага Лясьніцтва, выгадавана 30 каранёў „морвы", за што Таварыства на сельскагаспадарчай выстаўцы атрымала дыплём, сабрана 170 назваў паселішч, 189 назваў урочышчаў, даны зьвесткі аб сельска-гаспадарчай выстаўцы, аб стане аховы прыроды, даны за 2 месяцы графікі тэмпэратуры, надаслана каменьня, сабраны маленькія колекцыі шасьціножак і некаторыя віды вадаземнікаў, забіта „белая" варона, і сабрана 7 гадовых падпісак на часопіс „Наш Край".

Цяпер вядзецца ўкладаньне карты лясных абшараў Сьвіслацкага Лясьніцтва, зьбіраньне географічных назваў, вывучэньне хатніх рамёстваў і вясковых промыслаў, вывучэньне прыродных фарбаў, зьбіраньне зьвестак аб лекавых травах, нагляданьне за тэмпэратурай, вывучэньне беларускае мовы (асаблівасьцяй) Клічаўскага раёну і вывучэньне м. Клічава.

Увесь матар'ял дасылаецца ў Інбелкульт. Частка матар'ялаў, як колекцыі, знаходзяцца пры Клічаўскай сямігадовай школе і пойдуць у аснову будучага музэю. Самастойнай апрацоўкі матар'ялаў Таварыствам покуль што не рабілася а таму ні рукапісных, ні друкаванных прац няма.

Таварыства мае невялічкую бібліотэку з кніг, надасланых ЦБК.

Сродкі Таварыства складаюцца з 29 руб. сяброўскіх адлікаў.

Таварыства выпісвае часопіс „Наш Край", дзе знаходзіць увесь патрэбны кіраўнічы матар'ял.

Перашкаджае ў працы малыя актыўнасьць і зацікаўленасьць і неразуменьне карысьці ад краязнаўчай працы, а іншы раз проста нядбайныя адносіны паасобных членаў Таварыства.

## Першыя вынікі сыстэматычнай краязнаўчай працы.

З сакавіка месяца 1925 г. пры Барысаўскім Пэдтэхнікуме існуе гурток натуралістых. Гурток над кіраўніцтвам адданага справе выкладчыка С. П. Нікіфаровіча вядзе сыстэматычныя назіраньні над прыродай; галоўным чынам вядуцца назіраньні фэнолёгічныя і мэтэоролёгічныя. Вынікам сыстэматычнай дасьледчай працы гуртка зьяўляецца выпуск рукапіснага зборнічка „Жыцьцё гуртка" (45 стар.). У зборніку зьмешчана 18 артыкулаў і розных заметак краязнаўчага зьместу.

Найбольш цікавым матар'ялам зьяўляецца: 1) „Стан надвор'я г. Барысава ў восень, узімку і вясну 1925-26 г." з дыяграмай ясных, хмарных і воблачных дзён па месяцах і графікай сярэдняй тэмпэратуры за 1925 г.; 2) „Стан надвор'я ў г. Барысаве ў восень і ўзімку 1926 - 27 г." з дыягрямай колькасьці дзён без ападкаў, з дажджом і сьнегам па месяцах і за цэлыя 1925 і 1926 г. г.; 3) „Сьнегавы насьціл у 1926 і 1927 г. г." з табліцай, дыяграмамі сьнегавога насьцілу і графікай уздыму вады ў час веснавых паводак (р. Бярэзіны) у 1926 і 1927 г. г; 4) „Фэнолёгічныя нагляданьні" за 1925, 1926 і 1927 г. з 12 табліцамі мясцовых расьлін і аселых зімуючых птушак; 5) „Вясна 1927 г." (па мэтэоролёгічна-фэнолёгічных назіраньнях). Пералічаныя артыкулы даюць вельмі многа каштоўнага фактычнага матар'ялу па мэтэоролёгіі і фэнолёгіі мясцовасьці г. Барысава. Матар'ял зьяўляецца сыстэматызаваным і апрацаваным у форме табліц, дыяграм, графік і дзеля гэтага ім досыць лёгка карыстацца. Усе табліцы, графікі выкананы добра, малюнкі прыгожыя; уражаньне застаецца прыемнае.

Правільнасьць і сыстэматычнасьць назіраньняў пры наяўнасьці мэтэоролёгічнай станцыі II разр. забясьпечваюць за зьмешчаным матар'ялам і навуковую вартасьць.

„Жыцьцё гуртка“ можа быць прыкладам для краязнаўчых гурткоў пры сямілетках у напрамку апрацоўкі і сыстэматызацыі матар'ялаў па вывучэньні прыроды.

Самае распалажэньне матар'ялу мы лічым ня зусім удалым: заметкі інформацыйнага і агульнага характу перамешваюцца з досыць каштоўнымі артыкуламі, як вынікам дасьледчай працы. Лепш было-б спачатку зьмясьціць матар'ял агульнага зьместу, потым артыкулы—вынік практычнай дасьледчай працы і потым—заметкі інформацыйнага характару. Напэўна, у наступным зборніку гэта будзе прадбачана.

В. Сам - іч.

---

# Бібліографія.

**„Советское фото“,** *штомесячны часопіс, прысьвечаны пытаньням фото-аматарства і фото-рэпортажу, выд. „Огонек“. Масква. Пад рэдакцыяй М. Кальцова. №№ 1—12 за 1927 г. стар. 396 26×19 ст. цана 3 р. 75 к.*

Рэцэнзуючы гэты часопіс за 1926 г. „Наш Край“ № 3 (18) за 1927 г.) мы зазначалі на тую карысьць, якую ён можа прынесьці краязнаўцу, які свае дасьледваньні і назіраньні конкрэтызуе праз фотографію.

Ня менш карысны і комплект „Советского фото“ за 1927 г. Праўда, за гэты год няма таго багацьця артыкулаў, што непасрэдна да краязнаўства. Тут мы знаходзім цікавы артыкул Пералешына „Охота с камерой“ (стар. 170—174), які даводзіць карысьць для навукі і наогул—для аматарства натуралістычных здымкаў, правільна ўказваючы на тое, што відавочна, і не жадаючы лгаць, вельмі не дакладна перадае факты—частку ён недагледзеў і дапоўніў выбражэньнем, частку—запомніў, частку—зблытаў. А фото-апарат унікне гэтых акалічнасьцяй. Каму, як не краязнаўцу менавіта і патрэбна такая дакладнасьць сьведкі? Ім толькі і зможа быць фото-апарат. Артыкул падкрэсьлены 8 цікавымі здымкамі (чарвяк, яшчарка, лісі лёх, гняздо чырка, ліс настарожы, бурундук, заяц, дзікі лебедзь шыпун). Тыя парады, якія дае аўтар у сваім артыкуле з вялікай карысьцю ўжыве краязнаўца-фотограф.

Цікавы артыкул „О снаряжении фотоэкскурсанта“ Леонтьева (стар. 200—202), „Фотография невидимого“ Бронштейна (стар. 375—377).

З спэцыяльна-фотографічных, цікавы артыкулы „Элемэнты художественного снимка“ (ст. 294) „Динамический кадр“ (№№ 1—4), „Технические снимки“ (ст. 49), „Способ домашнего приготовления бумаги“ (ст. 74), „О цветной фотографии“ (ст. 165), „Самодельный фото-капировальный станок“ (ст. 209). Пры існуючай дарагоўлі на фото-матар'ялы, вельмі ўмесна скарыстаць краязнаўцу артыкул „Как меньше тратить пластинок и больше снимать“ (ст. 262—266).

З аддзелаў часопісу добра вядуцца: „Фото-беседы для начинающих“, „Переписка с подписчиками“, „Что сделать самому“, „Из практики для практики“ (абмен досьледам саміх чытачоў, тут можна спаткаць каштоўныя парады аматараў-фотографаў), „Отзывы о снимках“, у апошніх нумарох уведзены аддзел бібліографіі, які знаёміць з навінкамі фото-літаратуры.

Што можа навучыць краязнаўца як падходзіць да аформленьня тэмы, даць штуршок і да падшуканьня самой тэмы, дык гэта вялікі лік фотоілюстрацый часопісу. Яны падчас даюць больш, чым артыкулы. Некаторыя запраўды местацка выкананы і вабяць вока.

У наступным годзе памер часопісу павялічваецца ў паўтара разы, што дасьць магчымасьць яшчэ лепш абслугоўваць фотоаматараў. А што ён ім патрэбен і служыць падручнікам, даводзіць тыраж часопісу, які дасягнуў ужо 15 тысяч.

Хв. Шынклер.

## Організаванае вывучэньне Беларусі [1]).

### Організацыі беларусазнаўчыя [2]).

[ . . .

1905—Устав общества изучения белорусского края в г. Могилеве.

„Циркуляр по Виленскому учебному округу“, Вільня 1905, № 2, ст. 113-120.

Левицкий, Г. В.

1910—О возобновлении деятельности Сев.-Зап. Отдела Императорского Русского Географического Общества.

„Записки Северо-Западнаго Отдела Императорского Русскаго Географическаго Общества“, Вільня 1910, кн. I, ст. 1-2.

Довгялло Д. И.

1910—16 января 1910 г. (аб аднаўленьні чыннасьці аддзелу).

---

1) У гэтым паказчыку названы найбольш даступныя для краязнаўцаў матар'ялы.

2) У гэтым разьдзеле паказаны таксама працы, якія гавораць і аб краязнаўстве, але ва ўсебеларускім маштабе, а не ў асобных краёх яе.

„Записки Северо-Западнаго Отдела Императорского Русскаго Географическаго Общества", 1910, кн. 1, ст. 3-9.

[ . . .

1910—(Гурток у памяць вайны 1812 г.)

„Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества", Вільня 1910, кн. 1. ст. 244.

Борщевский, А.

1910—Отчет Виленскаго Общества любителей естествознания за 1909-1910 г.

„Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества". Вільня 1910, кн. 1, ст. 255-260.

[ . . .

1910—Протоколы и журналы Сев.-Зап. Отдела за первую половину 1910 года.

„Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества", Вільня 1910, кн. 1, ст.—272-284.

Довгяло, Д. И.

1911—К истории Северо-Западного Отдела (Материалы и заметки)

„Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества", Вільня 1910, кн 1, ст 10-32 і Вільня 1911, кн. 2, ст. 17-46.

Левицкий, Г. В.

1911—Первыя работы Сев.-Зап. Отдела.

„Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества", Вільня 1911, кн. 2, ст. 1-2.

Довгялло, Д. И.

1911—16 января (палавіна Паўночна-Заходняга Аддзелу Імп. Рус. Географ. Таварыства).

„Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества", Вільня 1911, кн. 2, ст. 13-16.

Довгялло Д. И.

1911—Северо-Западный Отдел Императорскаго Русскаго Географическаго Общества в 1910 году.

„Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества", Вільня 1911, кн. 2, ст. 3-12.

[ . . .

1911—Литовское ученое общество.

„Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества", Вільня, 1911, кн. 2, ст. 354-360.

[ . . .

1911—Протоколы и журналы Сев.-Зап. Отдеда за вторую половину 1910 г. Список членов...

„Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества", Вільня 1911, кн. 2, ст. 413-428.

[ . . .

1912—Журналы Совета Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества за 1911 тод.

„Записки Северо-Запапнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества", Вільня 1912, кн. 3, ст. 363-384.

Н. Б.

1912—Метеорологические станции в Северо-Западном крае.

„Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества", Вильня 1912, кн. 3, ст. 321-331.

[ . . .

1912—Отчет Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества за 1911 год.

„Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества", Вільня 1912, кн. 3, ст. 385-397.

И. Г.

1913—Литовское научное Общество.

„Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества", Вільня 1913, кн. 4, ст. 227-228.

[ . . .

1913—Протоколы Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества.

„Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества", Вільня 1913. кн. 4, ст. 247-260.

[ . . .

1913—Белорусский Научно-литературный кружок студентов С.-Петербургскаго Университета.

СПБ., 1913, 32 ст.

Довгялло, Д. И.

1913—Отчет Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества за 1912 г.

„Записки Северо-Западнаго Отдела Императорскаго Русскаго Географическаго Общества", Вільня 1913, кн. 4, ст. 261-268.

[ . . .

1914—Белорусский Научно-литаратурный кружок студентав С.-Петербургскаго Университета.

СПБ., 1914.

[ . . .

1921--Минское Общество Истории и Древностей.

„Вестник Народнаго Комиссариата Просвещения", Менск 1921, № 2, ст. 40-42.

Аб заснаваньні Таварыства ў 1919 г. і дзейнасьці яго у 1920-1921 г.: сходах, анкеце, раскопках у Заслаўлі і клопатах аб музэі.

[ . . .

1921—Институт Белорусской Культуры.

„Вестник Народнаго Комиссариата Просвещения", Менск 1921, № 2, ст. 33-34.

Заметка аб статуце Інстытуту і аснаўных пунктах яго, выпрацаваных асобнай камісіяй па організацыі Інстытуту.

[ . . .

1921—Белорусское Вольно-Экономическое Общество.

„Вестник Народнаго Комиссариата Просвещения", Менск 1921, № 1, ст. 47.

Заметка аб адчыненьні Таварыства і аснаўных пунктах статуту яго.

С. Р.

1921—В Вольно-Экономическом Обществе

„Вестник Народнаго Комиссариата Просвещения", Менск 1921, № 2, ст. 42-43.

Заметка аб агульным сходзе Таварыства з дакладам „Глебы Беларусі", спрэчках па дакладу і заснаваньні сельска-гаспадарчай, прамыслова-экономічнай і прыродазнаўчай сэкцыі Таварыства.

Р. Б.

1922—Педагогическая секция при Научном Обществе.

„Вестник Народнаго Комиссариата Просвещения", Менск 1922, вып. 11-12. ст. 47-48.

Аб адчыненьні і задачах сэкцыі.

С. Н.

1922—Інстытут Беларускай Культуры.

„Вестник Народнаго Комиссариата Просвещения", Менск 1922, № 3-4 (5-6), ст. 13-15 беларускага аддзелу.

Аб заснаваньні, статуце, структуры і задачах Інстытуту.

[ . . .

1922—Минское Педагогическое Общество.

„Вестник Народнаго Комиссариата Просвещения", Менск 1922, вып. 11-12, ст.48-49.

Аб заснаваньні Таварыства, агульных сходах яго з навуковымі дакладамі, сходах сэкцый: радзімазнаўчай, роднай мовы, прыродазнаўчай і інш. і экскурсіях для членаў Таварыства і вучняў на працягу 1919-1922 г.г.

[ . . .

1922—Беларускае Навуковае Таварыства (у Маскве).

„Крывіч", Коўна 1923, № 1, ст. 44-45.

[ . . .

1923—Беларуская асоцыяцыя пры Інстытуце С.-Гаспадаркі ў Петраградзе.

„Крывіч", Коўна 1923, № 1, ст. 45.

[ . . .

1923—Беларуская культурна-навуковая асоцыяцыя ў Маскве.

„Крывіч", Коўна 1923, № 1, ст. 45.

Турук. Ф. Ф.

1923—Минск.

„Краеведение" Пгр. 1923, № 1, ст. 63-64.

Даклад Турука ў Маскоўскім Аддзяленьні ЦБК РСФСР аб стане краязнаўчых організацый на Беларусі: Менскім Таварыстве Гісторыі і Старажытнасьцяй і заснаваньні Беларускага Вольна-Экономічнага Таварыства ў Менску, Навуковага Таварыства пры Б. Дз. У. і Інбелкульту. Тэндэнцыйная фраза аб тым, што Інбелкульт мае мэтаю пропаганду беларускай культуры, а не вывучэньне Беларусі.

Маслаковец, Н. Г.

1924—Краеведение в Белоруссии.

„Краеведение", М.-Л. 1924, № 3, ст. 301-303.

Кароткі агляд беларусазнаўчых установ і організацый і краязнаўчай дзейнасьці на Беларусі за 1918-1922 г.г.

Каршук, М.

1924—Усесаюзная краязнаўчая конфэрэнцыя ў Маскве.

„Асьвета". Менск 1924, № 3, ст. 177-178.

І. С.

1924—Усебеларуская краязнаўчая конфэрэнцыя.

„Асьвета", Менск 1924, № 3, ст. 168-169.

[ . . .

1924—Рэзолюцыя Ўсебеларускай Краязнаўчай Конфэрэнцыі па організацыйным пытаньні і дакладах навуковых установ.

„Асьвета", Менск 1924, № 3, ст. 169-171

С. І.

1924—Рэорганізацыя Інстытуту Беларускай Культуры.

„Асьвета", Менск 1924, № 2, ст. 130-131.

В.

1924—Яўрэйскі Аддзел Інстытуту Беларускай Культуры.

„Асьвета", Менск 1924, № 2 ст. 131-132.

---

Выдавец—Інстытут Беларускае Культуры.
Рэдактар—З. Бядуля.

Члены Рэдакцыі: М. Бялуга. А. Казак. М. Касьпяровіч.



# ЗЬМЕСТ.

# ХОД ПАДПІСКІ НА „НАШ КРАЙ“.

Да 1/II—28 г. атрымана падпіскі: гадавой 185 экз. паўгадовай 59 экз., на 10 м. 1 экз., на 3 мес. 55 экз., на 2 мес. 3 экз. і на 1м. 21 экз. Па акругах падпішчыкі разьмяркоўваюцца гэтак: на першым месцы стаіць г. Менск і акруга 153 падп.; на другім месцы Мазырская акруга 81 экз., далей ідуць: Аршанская акр.—25 экз. Гомельская—18, Бабруйская—18, Віцебская—16, Магілеўская—13 і Полацкая—7.

Найбольшаю актыўнасьцю выявілі сябе (а Мазырскай акрузе Нараўлянскае райт-ва пт. Падбярэзны), якое сабрала да 21 экз. падпіскі, Капаткевіцкае (т. Пігулеўскі), якое сабрала 38 экз., Лельчыцкае 7, Азарычы 3, Жыткавічы 4.

Па Бабруйскай Акрузе Клічаўскае т-ва (т. Мікіцін)—12 экз.

Па Аршанскай—Горацкае т-ва (проф. П. Салаўёў)—12 экз.

Па Магілеўскай—Шклоўскае т-ва (т. Крыжаноўскі)—8 экз.

Па Віцебскай—Гарадоцкае (т. Леванёнак)—11 экз.

Па Менскай—Самахвалавіцкае (т. Ламака)—6 экз.

Барысаўскае (5 экз.).

З акруговых т-ваў толькі Гомельскае т-ва (т. Мікалаеў) праявіла актыўнасьць, сабраўшы 12 падпішчыкаў.

У Менску масавую падпіску сабралі т. т. Гарашчэня і Трамповіч.

Згодна пастановы ЦБК наступным таварышом вызначана прэмія: Гарашчэні, Трамповічу (ІБК), Падбярэзнаму, Пігулеўскаму, Мікіціну, проф. Салаўёву, Крыжаноўскаму, Леванёнку, Мікалаеву.

Як відаць з вышэйсказанага большая частка Акруговых т-ваў і амаль усе раённыя т-вы ня выявілі належнай увагі да пашырэньне падпіскі на „Наш Край“. Прыклад Капаткевіцкага т-ва (38 экз.), Нараўлянскага (21 экз.), Клічаўскага (12), Шклоўскага (8) паказвае, што пры належнай стараннасьці ня цяжка знайсьці падпішчыкаў. Звычайнымі падпішчыкамі ў гэтым выпадку могуць быць, мясцкомы працасьветы, зямлі і лесу, клюбы: хаты-чытальні, сямігодкі, інспэктарыяты асьветы і г. д. Што датычыцца акруговых асяродкаў, дык тут умовы для пашырэньня падпіскі яшчэ больш спрыяючыя. Як паказвае вопыт г. Мазыра па акруговым горадзе можна рэалізаваць каля 30 экз. падпіскі. А між тым Акруговыя гарады ў гэтым напрамку адстаюць, напр. такія значныя культурныя асяродкі як Полацак, Бабруйск, Віцебск. Магілеў далі неспадзявана мала экз. падпіскі. Неабходна таксама Акруговым т-вам даць дырэктывы раённым аб пашырэньні падпіскі. У пашырэньні падпіскі зацікаўлены і самі т-вы. Папершае, яны атрымоўваюць некаторую ўзнагароду (10% падпісной платы), прэміяльныя нумары, а самае галоўнае яны ствараюць кадр чытачоў „Нашага Краю“ і прыхільнікаў краязнаўчае працы. Апрача таго, дзякуючы пашырэньню падпіскі, зьявіцца поўная магчымасьць павялічэньня разьмеру часопісу і шырокай рэалізацыі дасылаемых у рэдакцыю матар'ялаў мясцовых організацый.

Цана 50 кап.

# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1928 г.

НА ПОПУЛЯРНА-НАВУКОВЫ КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС

# „Наш Край“

**„Наш Край“** зьмяшчае артыкулы популярна-навуковага характару па ўсіх галінах краязнаўства ў БССР.

**„Наш Край“** зьмяшчае кіраўнічыя ўказаньні: анкеты, програмы, інструкцыі і мэтодычныя артыкулы па краязнаўстве.

**„Наш Край“** дае на сваіх старонках адбітак працы ўсіх краязнаўчых організацый БССР.

**„Наш Край“** павінен быць у кожнай школе, нардоме, хаце-чытальні, клюбе і бібліотэцы.

**„Наш Край“** павінен быць настольнай кнігай кожнага краязнаўцы.

## У ЧАСОПІСЕ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:

М. Азбукін, Г. С. Аляксандраў, К. Ароль, А. Аніхоўскі, К. Атраховіч, Н. Бываеўскі, З. Бядуля, М. Бялуга, Проф. П. Бузук, Д. Васілеўскі, І. Віткоўскі, Гр. Варапаеў, Проф. Васількоў, М. Грамыка, Г. Гарэцкі, М. Гарэцкі, А. Ганжын, Зьм. Даўгяла, В. Дружчыц, М. Зьбіткоўскі, Проф. У. М. Ігнатоўскі, А. Казак, Я. Каранеўскі, Кіпель, М. Кіркевіч, Каракін, А. Квяткоўскі, А. Крукоўскі, Я. Кісьлякоў, М. Касьпяровіч, М. Ламака, В. Ластоўскі, Макарэўскі, Д-р Магілеўчык, М. Мялешка, Натальлін, А. Нямцоў, К. Папоў, Г. Парэчын, Проф. В. Пераход, Проф. У. Пічэта, Я. Ракаў, Самцэвіч, Проф. П. Салаўёў, Н. Савіч, А. Сянкевіч. А. Сяргеенка, Я. Траяноўскі, Я. Троська, У. Уладзімераў, Проф. А. Фядзюшын, Е. Цехановіч, А. Шашалевіч, Ал. Шлюбскі, М. Шчакаціхін, Проф. Яцанткоўскі і шмат іншых.

**Умовы падпіскі:**

| | |
|---|---|
| На год . . 5 р. — к. | На 3 м-цы 1 р. 40 к. |
| На паўгода 2 р. 75 к. | На 1 месяц — р. 50 к. |

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: у рэдакцыі часопісу „Наш Край“ (Менск, Рэволюцыйная № 21, Інбелкульт), ува ўсіх паштовых аддзяленьнях, у раённых і акруговых краязнаўчых організацыях і ўва ўсіх кнігарнях Бел. Дзярж. Выдав. і інш.

„НАШ КРАЙ“ прадаецца: у Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры Інбелкульце, ува ўсіх аддзяленьнях БДВ і ўва ўсіх аддзяленьнях і кінгарнях іншых выдавецтваў.

Выпісваць можна з Ц. Б. Краязнаўства поўн. комплекты часопісу „Наш Край“ ад 1-га нумару да канца 1927 г. са скідкай для краязнаўчых організацый і паасобных краязнаўцаў у 50%—за 5 руб.

Апрача гэтага ў ЦБК прадаюцца:

„Працы I Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“—50 кап.
„Працы II Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“—50 кап.

У хуткім часе выходзіць з друку I частка „Апісаньне Асіпавіцкага раёну“. Аддзел „Прырода“.